29 студзеня 2021 | № 4 (712)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Выратаваць баявога Кудзіна

Стар.19




Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# Куды вядзе «калідор дубінак»?

Аксана КОЛБ

**«Калідор дубінак»: шлях беларускіх уладаў. Даклад аб паліцэйскім гвалце», так называецца дакумент — вынік расследавання, праведзенага ў Беларусі юрыстамі Камітэта супраць катаванняў з 22 жніўня да 12 лістапада 2020 года.**

У ім падрабязна апісаныя справы трынаццаці грамадзян, якія, як і сотні іншых, пацярпелі ад гвалту з боку ўладаў у перыяд з 9 па 13 жніўня 2020 года. Большасць з пацярпелых былі вымушаныя прайсці праз «калідоры», калі супрацоўнікі праваахоўных органаў выстройваліся ў два шэрагі, каб наносіць удары дубінкамі па затрыманых, што мусілі прабягаць паміж імі.

Так, у аднаго чалавека ад удараў была разарваная барабанная перапонка, некалькі іншых атрымалі розныя пераломы. Некаторыя пацярпелыя паведамілі пра сексуальны гвалт ці пагрозы сексуальнага характару і прыніжэнні. Сярод іншых здзекаў праваахоўнікаў — шматгадзіннае знаходжанне затрыманых у ненатуральных позах, а таксама ўтрыманне ў перапоўненых камерах без вады і ежы. Большасць з гэтых трынаццаці чалавек былі мінакамі, якія не бралі ўдзелу ў акцыях пратэсту.

«Супрацоўнікі праваахоўных органаў актыўна ўжывалі сілу ў дачыненні да ўжо затрыманых асобаў, якія не ўяўлялі ніякай пагрозы і не аказвалі ніякага супраціву, — кажа юрыст Камітэта супраць катаванняў Дзмітрый Казакоў. — Відавочна, што мэтай было запалохванне, прыніжэнне і пакаранне людзей за ўдзел у дэманстрацыях, якія насілі пераважна мірны характар. Сабраныя доказы сведчаць пра наўмыснасць актаў жорсткага абыходжання».

Да 9 верасня 2020 года, паводле афіцыйных даных, у Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь паступіла больш за тысячу васямсот скаргаў ад грамадзян на катаванні і незаконнае ўжыванне фізічнага гвалту з боку праваахоўнікаў. Дасюль супраць супрацоўнікаў праваахоўных органаў не было распачата ніводнай крымінальнай справы.

У дакладзе прыводзіцца падрабязная інфармацыя пра тое, як улады Беларусі ўсяляк сабатуюць правядзенне эфектыўнага расследавання скаргаў грамадзян пад прыкрыццём фармальнага выканання закона. Да такіх выкрутаў належаць: узбуджэнне крымінальных спраў у дачыненні да грамадзян, якія паскардзіліся на катаванні, перашкода адвакатам у прадстаўленні інтарэсаў пацярпелых, пазбаўленне некаторых з іх адвакацкіх ліцэнзій і нават узбуджэнне супраць іх крымінальных спраў, аб'яднанне сотняў спраў у адну і неабгрунтаванае прыпыненне расследавання.

Акрамя гэтага, кіраўніцтва МУС Рэспублікі Беларусь адмовілася даць кантакты сваіх супрацоўнікаў, якія маюць дачыненне да актаў гвалту, тым самым пазбавіўшы следства магчымасці дапытаць іх, а міністр унутраных спраў і Лукашэнка афіцыйна апраўдвалі гвалт з боку супрацоўнікаў міліцыі неабходнасцю абароны сем'яў міліцыянтаў і краіны ў цэлым.

«Падчас расследавання расійскія калегі выявілі мноства розных выкрутаў, якія выкарыстоўваюцца афіцыйнымі органамі Беларусі для фактычнай адмовы расследаваць факты абуральных паводзінаў супрацоўнікаў сілавых структур, — заявіў генеральны сакратар Сусветнай арганізацыі супраць катаванняў Геральд Стаберок. — Тое, што мы назіраем, — гэта палітычна матываваная адмова ў правасуддзі. Улічваючы адсутнасць незалежнага расследавання ўнутры краіны, мы мяркуем, што надышоў час для стварэння міжнароднага органа, які б заняўся расследаваннем маштабных парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі».

Усяго ў 2020 годзе, паводле праваабаронцаў, у Беларусі падчас пратэсных акцый затрымалі больш за 33 тысячы чалавек — лічба, параўнальная з насельніцтвам Горак. Уявіце сабе, больш за трыццаць тысяч беларусаў — не злодзеяў, не забойцаў, не махляроў — адчулі на сабе ўвесь абсурд і крыважэрнасць так бы мовіць «праваахоўнай сістэмы»! Ні ў чым не вінаватых людзей катавалі, кідалі за краты, абкладалі велізарнымі штрафамі. І пры гэтым каты і лжэсведкі з пагонамі засталіся непакаранымі.

Таму нічога дзіўнага, што і без таго невысокі давер да «праваахоўных органаў» цяпер папросту абрынуўся. Майго знаёмага таксіста фактычна абрабавалі сярод белага дня, але ён не паведаміў у міліцыю, бо баяўся, што можа пацярпець сам. Знаёмая дзяўчына не скардзіцца на суседа-алкаголіка, бо не верыць, што міліцыя нешта з ім зробіць. Шмат хто сёння дзесяць разоў падумае перад тым, як звярнуцца па дапамогу да міліцыі. Шмат хто глядзіць з нянавісцю ў след патрулям. Шмат хто бачыць у іх карнікаў, а не тых, хто здольны абараніць. І гэта сумна.

Хтосьці скажа, што прадстаўнікоў «сілавых структур» нідзе не любяць. Так, іх не любяць, з іх жартуюць. Але ў нас іх цяпер ненавідзяць. Днямі ў адной з мінскіх крамаў дзяўчына, якая стала сведкай затрымання і спрабавала абараніць хлопца, у роспачы крычала: «Таму вас усе і ненавідзяць. Таму што вы — чэрці!» Як высветлілася пазней, міліцыянты затрымлівалі злодзея, які ўскрываў камеры захоўвання. Але за гэтыя паўгода людзі бачылі столькі беззаконня з боку «праваахоўнікаў», што любыя іх дзеянні сёння выклікаюць абурэнне і хвалю нянавісці.

І я не ведаю, што з усім гэтым трэба будзе рабіць пасля перамогі... Не, што рабіць са злачынцамі, якія катавалі, ілжэсведчылі, незаконна асуджалі, — зразумела. А вось што рабіць з даверам да праваахоўных органаў? Што прымусіць маладога хлопца, якога скалечылі міліцыянты, не ўздрыгваць кожны раз, калі ён будзе бачыць чалавека ў форме? Як пераканаць сталага веку хворую на рак жанчыну, якую кінулі ў зняволенне на 13 сутак па лжэсведчаннях, што нашай судовай сістэме можна будзе давяраць? Што сказаць дзецям, якія хаваліся ў пад'ездах Новай Баравой ад амапаўцаў, каб яны паверылі, што дзядзька-міліцыянер прыйшоў не па іх бацькоў, а, напрыклад, каб расследаваць жорсткасць у дачыненні да суседскай коткі?

Я не ведаю адказаў... І не ведаю, колькі часу павінна прайсці, каб усе тыя траўмы, што атрымала наша грамадства за гэтыя шэсць месяцаў, хаця б крыху залекаваліся. Куды прывядзе той «калідор дубінак», які выбудавала ўлада для ўласнага народа?

# Што рабіць калі па вас прыйшлі? Парады адваката

Сяргей ЗІКРАЦКІ

**Абсалютная большасць жыхароў нашай краіны патэнцыйна могуць быць апытаныя або дапытаныя супрацоўнікамі праваахоўных органаў. Амаль у кожнага ёсць сваяк / сябар / знаёмы, які за апошнія 6 месяцаў затрымліваўся праваахоўнымі органамі. А значыць, і ў вас могуць захацець удакладніць нейкую інфармацыю.**

### Права на юрыдычную дапамогу

Вы маеце права атрымаць юрыдычную дапамогу адваката заўсёды і ўсюды. Так, зусім заўсёды і зусім усюды. Хто б і пры якіх абставінах вас ні апытваў / дапытваў, вы маеце права патрабаваць юрыдычную кансультацыю адваката. Нават калі вы ў КДБ у 3 гадзіны ночы, нават калі вы на памежнай заставе ў 300 кіламетрах ад Мінска.

Артыкул 62 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь гарантуе кожнаму (!) права карыстацца юрыдычнай дапамогай адваката ў любы момант (!).

Вы можаце заявіць, што настойваеце на юрыдычнай дапамозе адваката і не будзеце ўдзельнічаць у апытанні і допыце да таго моманту, пакуль не будзе прадастаўлены адвакат.

Калі ў вас ужо ёсць заключаная дамова з адвакатам, можна патрабаваць, каб прыехаў менавіта ваш адвакат. Калі ў вас няма дамовы з адвакатам, настойвайце, каб вам далі магчымасць заключыць дамову з адвакатам, у тым ліку далі магчымасць патэлефанаваць сваякам і сябрам, каб яны заключылі дамову з адвакатам у вашых інтарэсах.

### Не даваць паказанні супраць сябе і блізкіх

Права не даваць паказанні супраць сябе павінна трактавацца максімальна шырока. Гэта не толькі здзяйсненне вамі якіх-небудзь супрацьпраўных дзеянняў. Гэта здзяйсненне вамі і вашымі блізкімі любых дзеянняў. Напрыклад, вы маеце права адмовіцца ад пытання пра абставіны знаёмства з канкрэтным чалавекам, паколькі такім чынам вы будзеце даваць паказанні ў тым ліку і пра сябе. Вы маеце права не адказваць на пытанне пра свае службовыя абавязкі, паколькі гэта тычыцца вас.

Вам могуць нагадаць пра крымінальную адказнасць сведкі за адмову ад паказанняў і дачу загадзя ілжывых паказанняў. Памятайце, што адказнасць за адмову ад дачы паказанняў не датычыць выпадкаў адмовы ад дачы паказанняў супраць сябе і сваіх блізкіх.

### Права адмовіцца

Зараз будзе крыху тэорыі, але яна важная, каб зразумець сутнасць вашых правоў.

Вас могуць выклікаць у якасці сведкі. Допыт у якасці сведкі рэгулюецца КПК. Перад допытам вам абавязаныя растлумачыць вашы правы мець адваката і не сведчыць супраць сябе і сваіх блізкіх (глядзіце параду першую і другую).

Але вельмі часта грамадзян апытваюць не як сведак і не ў рамках КПК. Так часцей за ўсё робяць ГУБАЗіК, ДФР, РУУС. Такія апытанні праводзяцца ў рамках аператыўна-вышуковай дзейнасці. Закон аб аператыўна-вышуковай дзейнасці дае права грамадзянам адмовіцца ад удзелу ў аператыўна-вышуковых мерапрыемствах (за выключэннем таемных).

Таму, як толькі вас выклікалі (забралі, павезлі) і вырашаюць з вамі паразмаўляць, удакладніце, у якім статусе вы знаходзіцеся. Калі сведка і будзе допыт у рамках КПК, то вы маеце права не сведчыць супраць сябе і сваіх блізкіх (гл. парада другая). Калі ж вы не сведка, а будзе праводзіцца апытанне, то вы маеце права наогул нічога не казаць. Больш за тое, можаце патрабаваць, каб вас адпусцілі, паколькі ўдзел у такіх дзеяннях павінен быць выключна добраахвотным. Нагадаю, што параду першую (пра юрыдычную дапамогу адваката) ніхто не адмяняў — пры правядзенні аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў вы таксама маеце права патрабаваць прысутнасці адваката.

### Не паведамляць паролі ад гаджэтаў

На самай справе, гэта права прама выцякае з права не даваць паказанні ў дачыненні да сябе і сваіх блізкіх. Я проста яе вылучыў асобна ў сілу вялікай значнасці інфармацыі, якая закрытая паролем. Падумайце 10 разоў, перш чым паведаміць пароль супрацоўнікам праваахоўных органаў.

### Не спяшайцеся з адказамі

Калі вы вырашылі даваць паказанні — не спяшайцеся адказваць на пытанне. Паўтарыце пытанне ў думках, сфармулюйце ў думках адказ на пытанне — і толькі пасля гэтага агучце яго. Адказ на пытанне павінен утрымліваць толькі тую інфармацыю, якую ў вас прасілі. Не варта распавядаць нешта падрабязна (калі толькі вы свядома не сведчыце супраць сябе змоўшчыка). Бывалі выпадкі, калі падрабязныя адказы на пытанні і развагі на агульныя тэмы давалі праваахоўным органам тую інфармацыю, якую яны наогул не планавалі атрымаць у рамках апытання / допыту.

### Выпраўляйце недакладнасці

Усе вашы паказанні павінны быць дакладна, карэктна і правільна зафіксаваныя. Па магчымасці даслоўна. Калі нешта зафіксавана недакладна — выпраўляйце. Калі нейкія вашы словы не адлюстраваныя ў пратаколе — патрабуйце дапаўнення пратаколу. Вам могуць сказаць, што гэта не мае значэння, вам могуць распавесці, што тут усё запісана правільнай мовай і г.д. Але гэта на самай справе важна, і ўсё павінна быць зафіксавана менавіта тымі словамі, якія вы казалі. Настойвайце! Калі гэтыя вашы фразы не з'явіліся ў пратаколе або адлюстраваныя недакладна — выпраўляйце і дапісвайце іх самі і зацвярджайце сваім подпісам.

Калі вы падпісваеце які-небудзь дакумент — можаце зрабіць любыя заўвагі, якія ў вас былі. Вы прасілі адваката, а вам яго не далі — укажыце на гэта. Вы прасілі шклянку вады, але вам не далі — зафіксуйце. Вам трэба было патэлефанаваць родным, але вам сказалі, што вы не маеце права на званок, — пішыце. У вас балела галава, жывот, вы перажывалі за свайго сабаку — рабіце пазнаку ў пратаколе. Вы не разумееце, як гэта можа быць важна. Проста паверце і не бойцеся рабіць заўвагі, выпраўленні і пазнакі ў дакументах, перш чым іх падпісаць.

### Запамінайце ўсё

Я ведаю, што гэта складана. Але гэта сапраўды таксама вельмі важна. Запомніце як мінімум назву дакумента, які вы падпісваеце і назву органа, які праводзіў дзеянне. Папрасіце аркуш паперы і асадку, каб гэта запісаць. Вы маеце на гэта права. Гэтак жа сама як маеце права рабіць любыя пазнакі падчас працэсуальных дзеянняў. Калі вам не далі паперу і асадку, калі вам забараняюць рабіць пазнакі — указвайце на гэта ў пратаколе перш, чым паставіць свой подпіс.

### Адключыце эмоцыі, уключыце галаву

Гэта, мабыць, складаней за ўсё.

Вы аказваецеся ў асяроддзі, у якім не бывалі раней. Вам будзе страшна з-за нявызначанасці. Людзі, якія вас будуць атачаць у гэты момант, будуць рабіць усё, каб гэты стан захоўваўся ў вас максімальна доўга.

Яны будуць прыходзіць і сыходзіць. Яны будуць казаць шмат незразумелых слоў. Яны будуць называць нумары артыкулаў і тэрміны. Некаторыя могуць ціснуць, некаторыя могуць пагражаць, іншыя будуць усміхацца. Яны будуць казаць, што хочуць дапамагчы вам.

Памятайце, гэтыя людзі не могуць быць вашымі сябрамі. У вас з імі дакладна розныя мэты. Я ведаю мноства прыкладаў, калі ў абмен на патрэбныя паказанні супрацоўнікі праваахоўных органаў абяцалі адразу адпусціць і не праводзіцьператрус у доме ў састарэлых бацькоў, а пасля атрымання паказанняў адразу везлі на ператрус і «закрывалі» на 72 гадзіны.

Таму паспрабуйце адключыць эмоцыі. Паспрабуйце думаць галавой. Папрасіце шклянку вады. Супакойцеся. Калі побач ёсць адвакат — пагаварыце з ім яшчэ раз. Ён адзіны, хто сапраўды гуляе ў вашай камандзе. Калі адваката няма — патрабуйце прысутнасці адваката (гл. парада першая).

Памятайце, што б вам ні казалі, — за сценамі і варотамі гэтай установы абавязкова ёсць вашы блізкія, знаёмыя і сябры. Яны любяць вас і хвалююцца за вас. Яны гатовыя зрабіць усё, каб вам дапамагчы. І яны абавязкова вам дапамогуць. Ваша задача — захоўваць вытрымку, валоданне сабой, думаць галавой і не кіравацца эмоцыямі.

# ААН заклікала вызваліць траіх непаўналетніх беларусаў

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У 2020 годзе ААН даслала адказ беларускім маці, чыіх непаўналетніх дзяцей асудзілі на вялікія тэрміны зняволення па сумнавядомым «наркатычным» 328 артыкуле Крымінальнага кодэкса.**

Дзяржава парушыла правы прынамсі траіх непаўналетніх, адвольна затрымаўшы і асудзіўшы. Сярод іх — Уладзіслаў Шаркоўскі, які адбывае пакаранне ў Івацэвіцкай калоніі №22.

«Новы Час» распавядаў гісторыю Улада. У 2018 годзе неўстаноўленая асоба даслала 17-гадоваму хлопцу ў інтэрнэце паведамленне з прапановай працы па распаўсюджванні легальных сумесяў для курэння. Яго запэўнілі, што гэта законна. Улад пагадзіўся на працу. Крыху больш чым праз два тыдні працы яго затрымалі. Маці даведалася пра гэта толькі праз пяць гадзін, хаця пра затрыманне бацькам павінны былі паведаміць адразу.

Улада не кармілі, ён спаў на голай бетоннай падлозе, яго білі, аказвалі псіхалагічны ціск. Пад ціскам ён напісаў, што нібыта прызнаецца ў здзяйсненні злачынства. З хлопцам у той час не было не толькі законнага прадстаўніка, але і адваката, і педагога-псіхолага (яго ўдзел абавязковы ў справах, датычных непаўнагадовых) — адпаведна, усе ўзятыя ў яго паказанні не маюць юрыдычнай моцы. Нейкім дзіўным чынам у пастанове аб даручэнні папярэдняга расследавання групе следчых з'явіліся подпісы маці Улада і адваката, датаваныя 16 сакавіка. Але яны не маглі распісацца, бо пра затрыманне сына маці даведалася толькі 17-га, адвакат да яго ўпершыню трапіў таксама ў гэты дзень. Да таго ж паказанні аднаго і таго ж сведкі зацверджаныя рознымі подпісамі. У судзе на гэта не звярнулі ўвагі, і абвінавачанне было пабудавана менавіта на тых матэрыялах. Улад атрымаў дзесяць гадоў пазбаўлення волі.

Мама Улада Ірына Шаркоўская перакананая, што пункце Дэкрэта № 6 ад 28 снежня 2014 года «Аб неадкладных мерах па супрацьдзеянні незаконнаму абароту наркотыкаў» істотна пагоршыла прававое становішча дзяцей ва ўзросце ад 14 да 18 гадоў. Трактоўка яго палажэнняў пацягнула парушэнні правоў непаўналетніх супрацоўнікамі Следчага камітэта, пракуратуры і судовых органаў. З выхадам дэкрэта ў Беларусі пачаліся масавыя рэпрэсіі маладых людзей, калі любога маглі абвінаваціць у тым, чаго ён не здзяйсняў, — што і адбылося па факце. Асабіста Лукашэнка прапанаваў тым, хто адбывае пакаранне за злачынствы, звязаныя з наркотыкамі, стварыць такія ўмовы, каб «смерці прасілі», і нават выказаў думку аб выдзяленні для такіх асуджаных асобнай калоніі. Такой калоніяй у выніку сталі «Ваўчыныя норы», дзе сядзіць Уладзіслаў Шаркоўскі.

Ірына напісала безліч скаргаў, але на ўсе прыходзілі звыклыя адпіскі, што «парушэнняў не выяўлена». Разам з іншымі актывісткамі супольнасці «Дзеці–328» Ірына звярнулася ў ААН з просьбай стаць на абарону правоў беларускіх дзяцей і неадкладна адрэагаваць на шматлікія парушэнні нормаў міжнароднага права ў Беларусі.

Праз доўгія месяцы чакання жанчыны атрымалі адказ. Па выніках разгляду скаргаў аб парушэнні правоў непаўналетніх у працэсе крымінальнага пераследу Рабочая група па адвольных затрыманнях Рады па правах чалавека ААН 24 красавіка 2020 года прыняла Меркаванне № 60/2019 аб чатырох непаўналетніх. Рабочая група прыйшла да высновы, што затрыманне ў дачыненні да траіх (Уладзіслава Шаркоўскага, Эміля Астраўко і Максіма Блашука) з'яўляецца адвольным, парушаныя іх правы, і дзяржаўныя органы павінны неадкладна адпусціць іх і выплаціць ім кампенсацыю, а таксама правесці расследаванне і пакараць вінаватых у парушэнні правоў непаўналетніх. Асаблівую занепакоенасць эксперты з Рабочай групы выказваюць у сувязі з пандэміяй каронавіруса, якая палыхае ў закрытых пенітэнцыярных установах і можа нанесці шкоду здароўю асуджаных.

Хлопцы да гэтага часу знаходзяцца за кратамі, спатканні ў сувязі з каронавірусам абмененыя, зрэдку толькі дазваляюць кароткатэрміновыя спатканні па 4 гадзіны. Ірына зазначае, што ў Івацэвіцкай калоніі скарацілася і колькасць тэлефанаванняў. Адзінае, чаго ўдалося дамагчыся за ўвесь час змагання, — скасаванне года тэрміну па амністыі.

— Я ўжо проста страціла надзею, — у роспачы прызнаецца Ірына.

Беларускі ўрад ніяк не адрэагаваў на рашэнне ААН.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД



Фота НЧ

# Гета для ўлады

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Ох, ужо гэтыя казкі ды казачнікі! Якіх толькі прагнозаў мы не чулі ад аналітыкаў апошнім часам! Маўляў, і «пратэсты садзьмуліся», і тое, што «адсутнасць у Беларусі чэмпіянату свету па хакеі развяжа рукі Лукашэнку», і «санкцыі не працуюць», і багата чаго яшчэ. Аднак, каб упэўніцца ў тым, што сёння сітуацыя не прагназаваная, дастаткова выйсці на вуліцу.**

Кажуць, «пратэсты садзьмуліся». Аднак возьмем тыдзень з 18 па 25 студзеня, паглядзім, што адбывалася. Ані дня не праходзіла без якой-небудзь акцыі ці падзеі.

У панядзелак настрой тыдня задае Ніна Багінская са сцягам каля Чырвонага касцёла. У аўторак жанчыну асудзілі за «бел-чырвона-белыя штаны», а тры чалавекі абвясцілі галадоўку на знак салідарнасці з Ігарам Лосікам. У сераду, нягледзячы на маразы, маршы ў Мінску правялі Серабранка, Грушаўка, Розачка. У чацвер ад самага ранку людзі выйшлі з бел-чырвона-белымі сцягамі на праспект Незалежнасці, а ўвечары жыхары Брэста, Койданава, Гродна, мінскіх Сухарава і Пушкінскай таксама правялі акцыі салідарнасці.

Пятніца была днём падрыхтоўкі да суботняй маштабнай акцыі салідарнасці з палітвязнямі. Але і ў гэты дзень мы атрымалі дзве знакавыя навіны. Апроч ЧС па хакеі, у Мінску адмянілі і Чэмпіянат свету па сучасным пяцібор'і, што быў запланаваны на 7–13 чэрвеня. Гэты турнір мусіў стаць кваліфікацыйным на Алімпійскія Гульні ў Токіа. Адмену ніяк не пракаментавалі, але тут той выпадак, калі і так усё зразумела. Другая навіна сумная — чалавек выйшаў да Дома ўрада ў Мінску і здзейсніў самаспаленне. Ён дагэтуль у бальніцы ў цяжкім стане.

Кажуць, што ў яго была дэпрэсія, што ён нібыта зрабіў гэта «па сямейных абставінах». Але «па сямейных абставінах» ціхенька лезуць у пятлю, а не выходзяць на галоўную плошчу Беларусі з каністрай бензіну. Палітычны складнік тут відавочны.

У суботу — маштабныя акцыі салідарнасці. Па Мінску — ва ўсіх раёнах, ад Курасоўшчыны да Ждановічаў, ад Усходу і аж да Мінскага мора. Людзі, не баючыся рэпрэсій, некалькі разоў выходзілі і ў цэнтр горада, на праспект Незалежнасці.

Падавалася б, нядзеля пасля гэтых акцый павінна была быць спакойнай. Але не! Акцыі — зноў. Гомель, Барысаў, Ратамка, Жодзіна, Навагрудак, Жабінка… Пра Мінск гэтым разам маўчым. І АМАП так «перапрацаваў» у суботу, затрымаўшы 156 пратэстоўцаў, што ў нядзелю здолеў злавіць толькі трох. Некалькі дзясяткаў пратэставых акцый — і толькі тры затрыманых чалавекі!

А ў панядзелак Ніна Багінская зноў стаіць са сцягам ля Чырвонага касцёла ў Мінску.

І гэта толькі тыя акцыі, якія навідавоку, пра якія мы ведаем.

Тым, хто кажа, што «пратэст садзьмуўся», варта ўзгадаць які-небудзь год, кшталту 2016-га. Звычайна як было? На адзін год — тры акцыі апазіцыі: Дзень Волі, Чарнобыльскі шлях ды Дзяды. І ўсё. А цяпер на тыдні акцый пратэсту адбываецца больш, чым раней на працягу 12 месяцаў.

У гэтых лакальных акцыях ёсць вельмі непрыемная для ўлады дэталь, якая пакуль яшчэ не вельмі заўважная. Калі ўвосень праз раённыя чаты і тэлеграм-каналы людзі знаёміліся міжсобку, у адным раёне, і праводзілі «раённыя маршы», то цяпер ужо знаёмяцца раёны. Маршы становяцца больш масавымі, бо яны ператвараюцца ў міжраённыя.

Прыкладам, задумала «Спартыўная» ўскласці кветкі да мемарыяла Тарайкоўскаму, свіснула «Пушкарам», тыя дзынькнулі ў тэлеграм «Каскаду». А Маўра і Чыгладзэ выстаўляюць «начны дазор»: сочаць, дзе едзе АМАП, дзе высаджваюцца «ціхары», дзе канцэнтруюцца бусікі. І крычаць «аларм» у выпадку небяспекі. Вынік: АМАП прыязджае туды, дзе пратэстоўцаў ужо няма. Ім і застаецца толькі бегаць па дварах ды скрыгатаць зубамі на бел-чырвона-белыя ўпрыгожванні вокнаў кватэраў.

У што выльецца «міжраённая салідарнасць» у далейшым, калі стане цяплей? Цяжка сказаць, але відавочна, што ўладам нічога добрага чакаць не прыходзіцца. А ў «вельмі далейшым» — гэта і ёсць пабудова той самай «грамадзянскай супольнасці», пра якую ўсе мы марылі.

Прыкладна тое ж тычыцца і тэзісу «санкцыі не працуюць». Днямі адбыліся дзве цікавосткі. Уладальнік «Табакерак» і МТБанка Аляксей Алексін, якога падазраюць у шчыльных сувязях з Лукашэнкам, перадаў свае долі ў кампаніях «Энерга-Оіл» і «Белнафтагаз» дзецям — Дзмітрыю і Віталю. А кампанія Synesis, што трапіла ў трэці пакет санкцый ЕС, працягвае пераназываць даччыныя фірмы. Днямі ТАА «Сінэзіс стыгма» было перайменавана ў ТАА «Стыгма Софт».

Калі «санкцыі не працуюць», дык чаго тады варушацца прыўладныя бізнесоўцы? Асабліва Алексін, які ў санкцыйны спіс (пакуль) не трапіў? А таму і варушыцца, што, па чутках, ён цудам выслізнуў з трэцяга спісу санкцый ЕС, але на падыходзе — чацвёрты спіс. І ці атрымаецца правярнуць лабісцкі фокус у другі раз — невядома.

Грошы, як вядома, любяць цішыню. Мы проста не ведаем, як спрацоўваюць санкцыі ў дачыненні да тых, да каго яны прызначаныя. Але тое, што спрацоўваюць, — бачна па варушэнні, што адбываецца ў гэтых «санкцыйных» колах.

Тым часам уладу чакае і яшчэ адзін сюрпрыз. «Фонд культурнай салідарнасці» распачаў працэдуру выключэння Белтэлерадыёкампаніі з Еўрапейскага вяшчальнага саюза (ЕВС) — таго, што праводзіць «Еўрабачанне». Ініцыятыву падтрымала Святлана Ціханоўская, якая паабяцала пагаварыць пра гэта з міністрамі замежных спраў ЕС. Такім чынам, Беларусь могуць пазбавіць і «Еўрабачання».

Але справа не толькі ў гэтым музычным конкурсе. ЕВС кіруе сістэмамі абмену тэлевізійнымі праграмамі і аўдыёвізуальным кантэнтам. Калі адтуль выкінуць БТ, прапагандыстам не будзе дзе браць кадры замежных навінаў, каб у чарговы раз расказаць нам, як «Захад загнівае». Альбо яны вымушаныя будуць проста красці візуальны кантэнт з якога-небудзь YouTube, што можа скончыцца мільярднымі позвамі праваўладальнікаў да БТ. Выключэнне БТ з ЕВС — даволі моцны ўдар па сістэме прапаганды.

Мы ўсё баяліся, што рэжым ператворыць краіну ў гета. А насамрэч, у гэтым гета аказаўся сам рэжым — абкладзены з усіх бакоў. І звонку, і знутры.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Ян Салановіч

**Студэнта, «рэкардсмена па сутках», адлічылі з БДУІР.**

Маці палітвязня Вольга атрымала ліст ад прарэктара па вучэбнай рабоце Рыбака, у якім сказана: па выніках зімовай сесіі 2020/2021 у студэнта былі запазычанасці па дзевяці вучэбных прадметах. «Таму, у адпаведнасці з Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб адукацыі (артыкул 79, п. 5.1), вы адлічаны з універсітэта за непаспяховасць па трох і больш вучэбных прадметах. Копія загаду прыкладаецца», — паведамляецца ў лісце.

Усяго ў загадзе рэктара БДУІР Вадзіма Богуша ў спісе адлічаных з факультэта радыёфізікі і электронікі — сем чалавек.

Нагадаем, студэнта БДУІР Яна Салановіча затрымалі 1 лістапада. Спачатку яму далі 12 сутак, а потым асудзілі яшчэ сем разоў — на падставе часткі 1 артыкула 23.34 КаАП за ўдзел у акцыях у верасні і кастрычніку. У выніку набралася 114 сутак — да 23 лютага. Але нечакана яго вызвалілі 27 студзеня. Маці палітвязня лічыць, што такія меры звязаныя з працай Яна ў Навукова-тэхнічным цэнтры КДБ. Пасля затрымання, як заяўляў сам студэнт у судзе, яго адвезлі ў камітэт. Сказалі прызнацца, калі ўдзельнічаў у пратэстах, — маўляў, пасля гэтага адпусцяць. Але потым завезлі ў ЦІП на Акрэсціна.



## Ігар Лосік

**Блогер і палітвязень, адміністратар тэлеграм-каналу «Беларусь галоўного мозга» і кансультант «Радыё Свабода», спыніў галадоўку, якая доўжылася 42 дні.**

25 студзеня з Лосікам у следчай турме Жодзіна сустрэўся яго адвакат. Праз яго Ігар перадаў зварот да ўсіх, хто яго падтрымліваў.

«Я вырашыў спыніць галадоўку, — перадаў Ігар з-за кратаў. — Я не прымаў ежу больш за сорак дзён, і адчуваю ў сабе сілы і магчымасці пратрымацца яшчэ. Але мяне надзвычай узрушыла неверагодная хваля салідарнасці. А таксама просьбы сотняў і тысяч беларусаў спыніцца, дачакацца нашай агульнай перамогі здаровым».

«А яшчэ я ведаю, што многія пачалі галадоўку, пакуль галадаю я. Я не магу ўзяць на сябе такі вялікі груз адказнасці, не хачу, каб за мой свядомы выбар пакутавалі іншыя. Чытаючы ўсе вашы просьбы ў лістах, я зразумеў, што проста не магу прымушаць хвалявацца сваю сям'ю і ўсіх вас», — зазначыў вязень.

«Мяне арыштавалі задоўга да выбараў, і я не ўсведамляю тых кардынальных зменаў, якія адбыліся за апошнія паўгода. З турмы гэта не так прыкметна. Я зразумеў, што магу на вас разлічваць, бо ў вас усё атрымаецца. Цяпер я ў гэтым абсалютна ўпэўнены. Вам не чужыя спачуванне і салідарнасць, а ім пляваць на пакуты сотняў сем'яў, дзяцей, на чалавечыя жыцці. Вы не падведзяце. Цяпер такія часы, калі няма няправільных рашэнняў, ёсць учынкі. Гістарычныя працэсы яшчэ нікому не ўдалося адмяніць або спыніць ніякімі дэкрэтамі, арыштамі або расстрэламі», — напісаў ён.



## Павел Спірын

**У Мінскім гарадскім судзе пачаўся разгляд крымінальнай справы відэаблогера.**

У першы дзень працэсу, 25 студзеня, у суд прыйшла вялікая колькасць людзей, у зале змясціліся каля 50 чалавек. Значная частка не змагла трапіць на працэс, каля 70 чалавек засталіся стаяць па-за залай пасяджэнняў.

Павел Спірын заявіў хадайніцтва аб адмове ад адваката, будзе абараняць сябе сам. Суд яго задаволіў. Спірын сказаў, што не прызнае сябе вінаватым, не давярае пракурору, і выступіў з хадайніцтвам пра выклік сведак, што выказвалі думку пра яго фільм, і якіх дапытвала следства.

Відэаблогера абвінавачваюць паводле 130 артыкула Крымінальнага кодэксу («Наўмысныя дзеянні, накіраваныя на ўзбуджэнне расавай, нацыянальнай, рэлігійнай альбо іншай сацыяльнай варожасці па прыкмеце расавай, нацыянальнай, рэлігійнай, моўнай ці іншай сацыяльнай прыналежнасці»). Падставай для завядзення крымінальнай справы стаў яго фільм «Грань» пра наркагандаль у Беларусі. Фільм быў занесены ў спіс экстрэмісцкіх матэрыялаў. Другое відэа, за якое абвінавачваюць блогера: «Жудасная тайна генпракурора Беларусі: карт-бланш на садызм».

На мінулых выбарах Павел Спірын меў намер балатавацца кандыдатам у прэзідэнты, аднак Цэнтрвыбаркам не зарэгістраваў яго ініцыятыўную групу.

# «Я не разумею, як можна цяпер спакойна вучыцца»

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Вера і Сафія — актывісткі Вольнага прафсаюза БДУ. Абедзве былі адлічаныя з трэцяга курса ўніверсітэта праз актыўную грамадзянскую пазіцыю.**

## Стачкам на філфаку

Веры — 19 гадоў, яна з Брэста. З новага года дзяўчына перастала быць студэнткай філалагічнага факультэта БДУ.

— Калі наступіла перадвыбарчая гонка, я стала цікавіцца працэсамі, якія адбываліся ў Беларусі, бо зразумела, што дарослая, магу ісці галасаваць, — узгадвае Вера.

9 жніўня Вера сказала сабе: «Выходзь!». Пасля яна ўдзельнічала ў маршах, дапамагала вулічным медыкам, стаяла ў ланцугах салідарнасці, а пасля заснавала стачкам філфака БДУ.




— Я пачытала пра тое, што стачка і забастоўка — гэта добры спосаб сказаць рэжыму, што мы хочам пераменаў, што ў нас ёсць голас, — распавядае Вера. — Я даведалася пра стачкам БДУ і вырашыла, што я хачу заснаваць стачкам на сваім факультэце. У мяне было дастаткова сілаў і запалу на гэта.

І дзяўчына гэта зрабіла. Яна збірала людзей у сацыяльных сетках, расклейвала ўлёткі па інтэрнаце. Цяпер колькасць удзельнікаў руху на філфаку складае каля 300 чалавек.

На факультэцкай акцыі 1 верасня Веру затрымалі: «Нас скралі з факультэта на вачах у дэкана і намесніка дэкана па выхаваўчай працы. Мы прабылі на Акрэсціна роўна суткі, прысудзілі штраф».

— Калі мяне затрымалі, засталіся людзі, дзякуючы якім дзейнасць стачкаму на факультэце не спынілася, — распавядае Вера. — Яны арганізавалі маштабны выхад з БРСМ, прыцягвалі ўвагу да нашага затрымання на факультэце.

Пасля гэтага дзяўчына даведалася, што існуе вольны прафсаюз БДУ. Вера далучылася да яго і хутка ўвайшла ў яго раду.

## Вольны прафсаюз

Вера распавядае, што спачатку Вольны прафсаюз БДУ быў створаны для студэнтаў, якія хацелі падтрымаць пратэставы рух, але баяліся публічнага ўдзелу ў ім. Цяпер арганізацыю можна падзяліць на тры блокі: інфармацыйны, блок дапамогі затрыманым «Міратворца» і юрыдычны блок.

Вера кіруе інфармацыйным блокам: «Мы распавядаем, што рабіць, калі цябе затрымалі ці калі ты знаходзішся ў судзе. Пішам памяткі пра тое, як аднавіць сваё здароўе, калі адчуў выгаранне, як знаходзіць сілы для таго, каб падтрымліваць пратэст. Я пішу пра культуру, пра гісторыю пратэстаў, пра кнігі і кіно, дзе ёсць тэма пратэстаў, пра гістарычных асобаў. Мы бярэм інтэрв'ю ў студэнтаў, якія гатовы дзяліцца сваімі гісторыямі». Усё гэта можна пачытаць у тэлеграм канале «Вольны прафсаюз БДУ».

За «Міратворцу» адказвае Сафія, былая студэнтка механіка-матэматычнага факультэта БДУ. Пачынала яна са зборшчыка заяваў у прафсаюз: «Я не хацела заставацца абыякавай да таго, што адбываецца ў маёй краіне, таму знаходзіла спосабы, каб займацца актыўнасцю». «Міратворцы» манітораць затрыманых на акцыях людзей, правяраюць, ці з'яўляецца нехта з іх навучэнцам БДУ. Калі так, то студэнты звязваюцца з бацькамі затрыманых, пытаюць, ці трэба ім дапамога, пішуць зняволеным лісты, збіраюць грошы на штрафы, сустракаюць з ізалятараў.

— Мы супрацоўнічаем з прафсаюзам выкладчыкаў нашага ўніверсітэта, — распавядае Сафія. — Адзін з іх напісаў код, які дапамагаў звяраць базу БДУ са спісамі затрыманых. Блок аказвае яшчэ дапамогу і тым студэнтам, якіх пазбаўляюць стыпендыі або якім прысуджваюць штрафы: «Адной дзяўчыне далі штраф памерам у 30 базавых велічынь. Я знайшла выпускнікоў, якія сабралі ёй грошы».

У юрыдычным блоку студэнтам дапамогуць скласці позву, калі тых пазбавілі стыпендыі, ці выплацяць матэрыяльную кампенсацыю. «Калі вы бачыце правапарушэнні, заўсёды можна звярнуцца да нас, — распавядае Вера. — Нават калі па вашым інтэрнаце бегаюць тараканы. Нашы юрысты дапамогуць скласці адпаведную паперу. Скаргі трэба пісаць, бо яны іх нярвуюць. У новай Беларусі мы будзем рабіць тое ж, бо надзвычай важныя тыя людзі, якія кажуць аб правах студэнтаў».

## Сыход з універсітэта

— Калі я вярнулася да дзейнасці Вольнага прафсаюза, стала чальцом рады, мяне часта сталі выклікаць на гутаркі на факультэце, я мела дысцыплінарнае спагнанне, — распавядае Вера. — Два з паловай курса ў мяне была ідэальная паспяховасць, а тут мне сказалі, што я магу не здаць сесію, хоць мой сярэдні бал — 9,6.

Пасля быў чорны чацвер, калі масава затрымалі студэнтаў. «Я гатова была ехаць ва Украіну гэтым жа днём, — кажа Вера. — Але вырашыла, што проста буду начаваць не ў інтэрнаце, а ў іншым месцы. Так у мяне пачалася паранойя: пастаянна глядзела, ці не было побач са мной падазроных людзей ці машын. Я не магла нічым займацца, не было апетыту.

У хуткім часе Веры патэлефанавала камендант інтэрната і сказала, што па яе прыйшлі супрацоўнікі міліцыі, якія па тэлефоне прапанавалі дзяўчыне падысці ў РУУС. Гэта стала своеасаблівай апошняй кропкай для Веры: «Я зразумела, што больш не хачу вар'яцець, не хачу вучыцца там, дзе здаюць сваіх студэнтаў. А мая светлая галава яшчэ спатрэбіцца».

Дзяўчына падалася на праграму Каліноўскага, хутка яе прынялі ў Ягелонскі ўніверсітэт у Кракаве. Пакуль яна ходзіць на падрыхтоўчыя моўныя курсы. Бацькам Вера ўсё распавяла толькі тады, калі ўжо была ў Кракаве.

— Мае бацькі — жудасныя «ябацькі», — дзеліцца дзяўчына. — Калі мяне закінулі на Акрэсціна, яны сказалі: «Нічога страшнага, хай пасядзіць. Гэта будзе для яе ўрокам».

Сафія вырашыла забраць дакументы з універсітэта, бо ў яе пачаліся там праблемы: «Да таго ж, я не разумею, як можна спакойна вучыцца цяпер. Ні аб чым думаць немагчыма. Так хочацца, каб у верасні сітуацыя палепшылася і я б магла аднавіцца».

Хоць Сафія ўжо не з'яўляецца студэнткай БДУ, але дзейнасць у яго прафсаюзе спыняць не збіраецца: «Я сабе не прабачу, калі я спыню гэтую дзейнасць. Страшна, калі пішуць, што да некага грукаюцца. Страшна, калі чалавека забралі, а табе трэба заставацца псіхалагічна трывалым, каб дапамагчы іншаму. Але як бы ні было страшна, гэтым трэба займацца».

— Ці плануеце вяртацца ў Беларусь? — пытаюся Веру.

— Я вельмі гэтага хачу. У Еўропе файна пажыць, файна павучыцца, я вельмі люблю навуку, хачу займацца ёй і надалей. Але больш файна для мяне — гэта вярнуцца ў Беларусь. Я люблю сваю краіну. Я не раз прадстаўляла яе імя за межамі. Краіна не зрабіла мне нічога кепскага. Кепскае мне зрабіў рэжым.

***P.S.:** 23 студзеня Сафію затрымалі.*

**Фота Яны Трусіла**

Кацярына КАРПІЦКАЯ, НАША НІВА

**«Віка ў нас такая, быццам яе адразу тры. Яна паўсюль паспявае. І працоўная кніжка ў яе нібыта ў 50-гадовай бывалай жанчыны», — расказвае пра яе родны брат.**

Былая студэнтка БНТУ Вікторыя Гранкоўская трэці месяц знаходзіцца ў СІЗА. Як і шэраг іншых маладзёнаў, яна праходзіць па «справе студэнтаў». Яе затрымалі ў межах 342-га артыкула КК (групавыя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак).

Віка нарадзілася ў невялічкай вёсцы Касцюкі, што ў Дзятлаўскім раёне Гродзенскай вобласці. Сваіх бацькоў яна амаль не памятае: іх не стала, калі дзяўчыне было два гады. Нейкія ўспаміны пра іх захаваў старэйшы на тры гады брат Яўген, але ён лічыць за лепшае не згадваць тыя падзеі.

«Нас гадавала бабуля, яна замяніла і маці, і тату. Адразу ж, калі бацькоў не стала, забрала да сябе ў гарадскі пасёлак Наваельня непадалёк. Бабуля працавала медсястрой, жылі мы не тое, каб багата, але ні на што не скардзіліся. З малых гадоў хадзілі ў грыбы і ягады ў лес, прадавалі іх. І ўжо з гэтых грошай маглі сабе нешта купляць. Я, памятаю, з часам нават матацыкл змог сабе набыць. Віка ж усе свабодныя грошы і раней, і цяпер выдаткоўвала на бяздомных жывёл. Памятаю, знайшла сляпых кацянят, прынесла дадому. Аднак бабуля была супраць жыўнасці ў хаце — адразу пазбавілася катоў. Давялося Віцы падкормліваць іх на вуліцы», — згадвае Яўген.

Выхоўвалі Гранкоўскіх досыць строга. Адрывацца на вуліцы дапазна дазвалялася толькі на канікулах. Кожную суботу — генеральная прыборка дома. І самае галоўнае правіла — трымацца адно аднаго, дапамагаць блізкаму.

«Мы з Вікай і сёння працягваем жыць па гэтых правілах, — пасміхаецца Яўген. — Без прыборкі ў суботу дакладна нікуды».

Брат і сястра заўсёды былі разам. Аж да паступлення Вікі ў Гродзенскі каледж мастацтваў, пасля якога яна праходзіла размеркаванне ў Дзятлаўскай школе мастацтваў.

«Сярод іншага, Віка там працавала з дзецьмі з інваліднасцю. Яна вельмі любіла сваіх вучняў. І разам яны прызавыя месцы на мастацкіх конкурсах займалі. Нават на выставу ў Польшчу трапілі», — кажа суразмоўца.

Уменне камунікаваць з малымі дзецьмі спатрэбілася Віцы і ў Мінску: яна паступіла ў БНТУ на архітэктурны факультэт. Увесь вольны час пасля вучобы старалася падзарабіць: уладкоўвалася нянькай, у тым ліку ў сем'і дзетак з інваліднасцю. Нейкі час працавала на атракцыёнах у парку. Распрацоўвала таксама візітоўкі і лагатыпы для розных кампаній.

# «Яна, мы

**Яна Арабейка — сябра «Задзіночання беларускіх студэнтаў», студэнтка БДПУ. 17 студзеня за кратамі сустрэла свае 20-годдзе. Яе затрымалі 12 лістапада ў інтэрнаце. Абвінавачваюць па арт. 342 КК. Беларускія праваабаронцы прызналі Яну палітвязнем.**

Родныя і сябры перадаюць шчырыя прывітанні дзяўчыне ў адкрытым лісце.

## Яшчэ крыху — і будзе адліга

Вітаем, наша дарагая Яначка! Наш горад урэшце завалiла снегам! Тэмпература падала ажно да -23 градусаў!

На двары дзеці гуляюць у снежкі і лепяць снегавікоў. Так цудоўна, што ўрэшце надышла зіма, бо гэта значыць, што яшчэ крыху — і будзе адліга! Час ляціць незаўважна, у цябе, спадзяёмся, таксама!

Лісты твае даходзяць зрэдку (апошні, які атрымала Ганна, быў за 03.01), але мы ўсё адно пішам табе! На Новы год у нас было адно жаданне: як мага хутчэй цябе пабачыць і абняць!

**Мама:** Я непакоюся за цябе, але ні на секунду не апускаю рук! Дочачка, прашу цябе не вешаць нос і ні ў якім разе нічога не баяцца! Я побач, я з табой!

**Бабуля Іра:** Ты — мая маленькая зорачка і заўсёды ёй будзеш! Мяне ні на хвіліну не пакідаюць думкі, як ты там. Ці цёпла ты апранутая? Як ты сябе адчуваеш?

**Дзядуля Лёня:** Будзь моцнай, мая ўнучка! Усе абдымкі з тваіх лістоў я прыняў, але ведаеш, абняць цябе хочацца нават мацней!

**Сястра Ганна:** Вітанкі, прыгажуня! Хочацца з табой паразмаўляць, вельмі шмат што хочацца распавесці! Я веру ў цябе, веру, што цябе не зламаць, бо ты наш найвялікшы гонар, ведаеш? Жора і Соня перадаюць гарачыя прывітанні і мноства паветраных пацалункаў.

**Брат Ваня:** Мінуў наш з табой дзень народзінаў, наш з табой юбілей! Бо мы заўсёды святкавалі яго разам! Сумую, моцна абдымаю цябе, мая сястрычка!

Уся твая вялікая сям'я і кошка Мурка перадаюць табе вітанні! Мы побач! Табе няма пра што хвалявацца! Будзь у добрым настроі, бо гэта самае важнае! Любім, абдымаем і чакаем цябе дамоў.

**Валер Тамілін:** Пасля таго, як мы пазнаёміліся, я ўпершыню за вельмі доўгі час пачуваўся жывым, і пакуль ты за кратамі — я таксама несвабодны і мёртвы. Два месяцы ў мяне ў галаве пульсуе апошняе тваё паведамленне, за некалькі хвілінаў перад затрыманнем: «Мне будзе спакайней, калі ты працягнеш мне пісаць». І я пішу табе штодня, часам прапускаю дзень,

# «Бабуля выхоўвала строга»



**Віка з бабуляй. З ёй разам яны пайшлі галасаваць 9 жніўня 2020 года. З белымі бранзалетамі на руках**

«Пры ўсім пры гэтым яна была старастай ва ўніверы, выдатніцай. Удзельнічала ў навуковай працы і ўцягвалася ў любыя праекты па-за навучальнай праграмай», — дадае аднагрупніца Вікі Таццяна. Яна дапамагае Яўгену з перадачамі.

Нягледзячы на паспяховасць студэнткі, яе вельмі хутка адлічылі: падставай для гэтага стаў усё той жа актывізм Вікі і нежаданне мірыцца з несправядлівасцю. Напярэдадні адлічэння яна адседзела 7 сутак на Акрэсціна і ў Жодзіне.

«Яшчэ калі толькі пачалася пандэмія, Віка сама прыносіла студэнтам маскі і звярталася да дэканата з просьбай увесці дыстанцыйнае навучанне. А пасля выбараў яна разам з аднадумцамі склала петыцыю, у якой прасіла не прымяняць санкцыі да студэнтаў, што ўдзельнічаюць у мірных акцыях. Таксама яна прасіла кіраўніцтва БНТУ выказацца з асуджэннем гвалту з боку сілавікоў. Але калі яна 1 верасня збірала подпісы пад петыцыяй, яе затрымалі і асудзілі на 7 сутак па 23.34», — расказваюць аднакурснікі.

У пратаколе Вікі было напісана стандартнае: выкрыквала: «Жыве Беларусь!», стаяла з пратэставымі плакатамі, хаця ў руках яна трымала толькі тую самую петыцыю.

«Віка была гатовая да таго, што яе могуць затрымаць, яна і мяне папярэджвала, і бабулю. Таму гэта не стала сюрпрызам», — кажа брат. «Я нават спрабаваў яе спыніць, на што яна пярэчыла: «Я ж нічога дрэннага не раблю». Ну так, яна ў нас усё жыццё такая смелая, актывістка. За справядлівасць. Нібыта Жанна д'Арк.

Але, ведаеце, калі я сядзеў на судзе, мне да апошняга падавалася, нібыта суддзя ўсё разумее — і Віку выпусцяць. Там жа і хадайніцтвы былі з універсітэта, і відэа прыкладзенае, на якім бачна, што яна стаяла без плакатаў і лозунгаў. Але бах — і 7 сутак».

Пасля суда брат Вікі адмыслова тэлефанаваў у дэканат і пытаўся, што будзе сястры за адміністрацыйны арышт. Там паабяцалі: максімум — вымова. Але неўзабаве пасля вызвалення дзяўчыну ўсё ж адлічылі.

«З моманту вяртання ва ўніверсітэт за Вікай сталі пільна сачыць, кантраляваць любы яе крок. Можа, каб яна перастала актыўнічаць, нічога б не было (усё ж 23.34 шмат у якіх студэнтаў маецца). Але яна працягвала супраціў, зноў пайшла на размову з рэктарам», — згадвае Таццяна.

Пасля адлічэння Віку ўзялі на выпрабавальны тэрмін у архітэктурнае бюро. Яна паспела адпрацаваць там літаральна некалькі дзён, была ў поўным захапленні ад умоў і сваіх абавязкаў, але яе затрымалі — наўпрост пасля працоўнага дня, калі яна разам з калегай накіроўвалася дадому. Напярэдадні дзяўчына паспела падаць дакументы ў чэшскі ўніверсітэт, запісацца на курсы праграмавання, але ўсё гэта разам з яе трэніроўкамі ў трэнажорнай зале цяпер адклалася на невядомы тэрмін.

«Ніхто не чакаў, што яе схопяць у межах крыміналкі. Хаця ходзяць чуткі, што гэта такая тактыка — зрабіць паказальную лупцоўку прадстаўнікоў розных універаў, каб іншыя баяліся», — разважае Яўген. «Я, канечне, як старэйшы брат вельмі перажываю. Я адразу казаў Віцы: не лезь нікуды. А цяпер яна за кратамі... У імя чаго?»

Сама Віка не лічыць, што пакутуе дарма. У лістах яна ані разу не намякнула, што ёй цяжка, што яна пра нешта шкадуе. Значна больш яна цікавіцца тым, што адбываецца на свабодзе, як жывуць яе родныя і блізкія. Расказвае, што чытала «Ганну Карэніну», просіць параіць ёй добрых аўтараў.

«Яна толькі адзін раз праявіла "слабасць", напісала, што сумуе па доме. А так распавядае, што сукамерніцы добрыя: з ёй яшчэ тры дзяўчыны. У камеры цёпла і нават быў тэлевізар (цяпер іх перавялі ў новую камеру, і якія ўмовы там, мы пакуль не ведаем). А так яна на пазітыве, з гумарам. На Новы год мы перадалі ёй вясёлыя шкарпэткі з Дзедам Марозам, лядзяш у форме ёлкі. А яна смяялася напярэдадні, што ўпершыню на сто адсоткаў ведае, дзе будзе адзначаць 31 снежня, і гэта цудоўна», — расказваюць блізкія.

Лісты дзяўчыне даходзяць далёка не ўсе, ад яе ж — ідуць па два тыдні і даўжэй. Падтрымлівае ў ліставанні Віку і яе строгая бабуля. Менавіта бабуля разам з Вікай хадзіла на выбары 9 жніўня з белым бранзалетам на руцэ.

«Адвакатка расказвала, што Віка трымаецца малайцом. У яе моцны характар, і я ў гэтым не сумняваўся. Можа, унутры яна нешта перажывае, але ніколі не пакажа гэтага», — кажа Яўген.

Гранкоўскіх падтрымлівае шмат людзей: ад калег Вікі да яе аднакурснікаў і нават зусім незнаёмых людзей. Так, адна з выкладчыц БНТУ пастаянна пячэ ёй хатні хлеб на перадачы. Усё добра і ў коткі Сірэны, за якую хвалюецца Віка: яе пакуль забраў да сябе хлопец дзяўчыны.

«Вялікая хваля салідарнасці з маёй сястрой вельмі ўражвае. Я нават усім не паспяваю адказваць на званкі і паведамленні: пакуль нам усяго хапае».

13 студзеня Віцы і іншым студэнтам падоўжылі тэрмін утрымання пад вартай яшчэ на два месяцы. Усе блізкія ўпэўнены: ім няма чаго «прышыць».

Пісаць лісты палітзняволенай студэнтцы можна на гэты адрас: **СІЗА-1, 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2**

# ганарымся табой!»

а пасля — двойчы за дзень. Я так шмат яшчэ табе не сказаў своечасова... Сумую па тваім голасе і тваім паху, па тым, як ты смяялася і па тваіх ямінках на шчоках.

Кукурузка, ты пішаш, што дрэнна выглядаеш за кратамі — ведай, што ты спадабаешся мне заўсёды. Мы з'ездзім пасля ў Чэхію ці літаральна куды захочаш, паглядзім колькі скажаш фільмаў, калі ты, вядома, захочаш гэта рабіць са мной. Даруй мне, калі ласка, усё, што было і што мала табе прысвяціў сваёй увагі і сілаў, асабліва апошнім часам перад тваім арыштам. Я люблю цябе, абдымаю і вельмі сумую.

## Бяры ад турмы ўсё!

**Аліна Болбас:** Яна, сонейка, ты шыкоўная! Яшчэ раз віншую з днём народзінаў, калі не дайшоў ліст, і моцна-моцна абдымаю! Вельмі сумую па табе: не хапае размоваў, сустрэчаў штотыдзень, тваёй усмешкі. Спадзяюся, усмешка засталася з табой! Я веру, што ты моцная і што ты здолееш прайсці гэта, а пасля будзеш самай шчаслівай, бо дзясяткі людзей чакаюць цябе на волі і зробяць усё, каб табе больш не давялося сумаваць! А мы яшчэ адзначым твой дзень народзінаў вялікай кампаніяй!

Рада, што ты не губляеш пазітыўны настрой. Спадзяюся, хутка пабачымся, а пакуль зноў абдымаю! Заставайся сабой, сонейка, і памятай, што шчырасць — гэта надзвычай важна!

**Паліна:** Дарагая Яна! Не губляй натхненне. Нават калі ты ў турме, спрабуй браць ад яе ўсё: чытай, малюй, пішы тэксты пра побыт. Потым гэта ўсё ўвойдзе ў гісторыю, а зараз у цябе знойдуцца цікавыя справы! І пішы нам, калі ёсць такая магчымасць. Ніштро так не натхняе, як іншыя людзі.

**Лізавета Даўгулевіч:** Яна! За год знаёмства з табой я зразумела, што такога альтруістычнага чалавека яшчэ ніколі не сустракала. Ты выдатная і цудоўная! Калі ў мяне спытаюць пра самага добрага чалавека на свеце, то перш за ўсё я згадаю менавіта цябе. Яна, вельмі чакаю нашай хуткай сустрэчы, мне цяпер так не хапае тваіх жартаў і гісторый. Жадаю табе мужнасці, цярпення і свабоды. Мы разам.

**Лізавета Лойка:** Яна, гэта ўвогуле не пытанне, за што я цябе цаню! Ты цудоўная, светлая, шчырая і адораная дзяўчынка, побач з якой што заўгодна становіцца весялей і спакайней. Чакаю з усіх сіл. Няхай турботы і нястачы растаюць у святле твайго духу, нібы марозіва ў мікрахвалёўцы. Ты адна з самых вартых людзей у маім атачэнні. Не сумуй і часцей малюй мне малюнкі :)

**Лёша:** Дарагая Яна! Ты — цуд хоць бы таму, што ўмудраешся стварыць неверагодныя рэчы, нягледзячы на тое што называеш сябе касячнай і дрэннай :) Нават не думай так казаць, калі мы пабачымся, я буду сачыць! А гэта будзе ўжо хутка. Веру, што ты застаешся такой жа сонечнай, чулай, гэтак жа выпраменьваеш энергію і ўсё так жа прыгожа малюеш :) Але ўсё адно не забывайся на адпачынак!

**Ксенія Залівака:** Яна! Нягледзячы на тое, што мы не так шмат размаўлялі, цягам нашага знаёмства я зразумела, што ты вельмі сонечны і добры чалавек! Асабліва мяне ўражвае, як ты мадэруеш размовы і канфлікты (напрыклад, падняць руку, калі хочаш нешта сказаць). Жадаю мужнасці і веру, што хутка ты будзеш з блізкімі табе людзьмі. Тое, што цяпер адбываецца, будзе ў кніжках па гісторыі :)

**Кірыл, аднакурснік:** Яна, я вельмі па табе сумую і чакаю нашай сустрэчы. Падчас тваёй адсутнасці я зразумеў, чаму ты класная. Таму што ты цэльная. Ты складаешся з маленькіх кавалачкаў і атрымліваешся такой, якая ты ёсць. Крыху нязграбная, вельмі цёплая, мяккая, задуменная — усміхаешся, плачаш, смяешся. Гэта ўсё ты, і гэтага не змяніць нават засценкам. Вельмі цябе чакаем.

**Маня:** Яна, ты наша сонейка! Калі ты не будзеш даваць святло, як мы будзем саграваца? Не сумуй :)

**Віка:** Дарагая Яна! Дзякуй табе за то, што ты з'явілася ў маім жыцці. Дзякуючы табе, я здолела пераасэнсаваць шмат якія былыя перакананні. Я ніколі не думала, што існуюць такія людзі, як ты. Шчырыя, адкрытыя, гатовыя дапамагчы любым чынам, ахвяруючы свой час і інтарэсы. Я чакаю, калі ты выйдзеш, і са сваім катом буду цябе сустракаць. Упэўненая, вы адно аднаму спадабаецеся.

**Лена:** Прывітанне, Яна. Я рада, што пазнаёмілася з табой, і думаю, што шмат чаму я магу ў цябе навучыцца. Я буду вучыцца, уважліва назіраючы, як сарамлівая вучаніца каля вакна, якая запісвае кожнае слова настаўніка. Трохі дзіўныя асацыяцыі, але гэта таму, што ты ўмееш трымаць дыстанцыю і бараніць свае межы, як мне здаецца. Ты можаш выслухаць мяне, паважаючы маё меркаванне і веды. А калі прошу дапамогі, потым шмат разоў прошу прабачэння і кажаш «дзякуй», як быццам прынесла нейкія нязручнасці, але гэта не так. Цяпер мне падабаецца дапамагаць табе чым магу: лістом ці нечым смачным у перадачы.

## Прыклад бязмежнага святла і дабрыні

**Антон:** Яна — ціхая і спакойная дзяўчынка, яны нібы Інь і Янь разам з Касяй. Розныя, заўсёды побач і заўсёды дапаўняюць адна адну. Яна вельмі добрая, падтрымліваючая і актыўная. Пішу ёй ліст, з нецярплівасцю чакаю адказаў і спадзяюся, што хутка яе адпусцяць, і мы зноў пабачымся.

**Дар'я Рублеўская:** Я люблю Яну, таму што яна — гэта прыклад бязмежнага святла і дабрыні, бездакорнай любові да свету і людзей. Яна вельмі таленавітая і эмпатычная. Калі толькі мы прыдумалі «Майстэрню паштовак салідарнасці», Яна адразу ж пагадзілася дапамагаць маляваць паштоўкі для палітвязняў і перадаваць пажаданні ад дзясяткаў людзей. Яна да апошняга дня турбавалася і пра ўсіх, хто быў побач, і пра тых, хто за мурамі СІЗА.

**Вольга Доўгаль:** Яна заўсёды гатовая выслухаць і падтрымаць. Яна вельмі спачувала ўсім, кожнаму вязню. Яна вельмі класная, і я ганаруся тым, што знаёмая з такім цудоўным і светлым чалавекам. Я вельмі спадзяюся, што хутка яе адпусцяць, і мы здолеем разам выпіць кавы і згуляць у настолкі. Я ведаю, што Яна цвёрда стаіць на сваіх перакананнях. За гэта я яе моцна люблю і паважаю.

**Ангеліна:** Мне падабаецца Яна тым, што яна дзейнічае, нягледзячы на тое, якая перад ёй задача стаіць. Так, з ёй часам складана праз грэблівасць да іншых, але яна здольная быць адкрытай і ўважлівай да незнаёмага чалавека ў складанай жыццёвай сітуацыі. Мне падабаецца, што Яна такая, якая ёсць, — дзіўна-добрая. Але Яна — не Яна без свайго вялікага аб'ёму дабрыні. Магчыма, мы не сышліся характарамі, бо занадта падобныя, але я люблю Яну.

**Адрас для ліставанняў: 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2, СІЗА-1. Арабейка Яне Іванаўне.**

# З вялікага паспеху наробіш смеху

Сяргей ПУЛЬША

**Канстытуцыю Беларусі ўзору 1994 года распрацоўвалі вельмі доўга.**




Канстытуцыйная камісія па распрацоўцы дакумента была ўтвораная 22 чэрвеня 1990 года, праекты Канстытуцыі для грамадскага абмеркавання публікаваліся ў 1991, 1992 і 1993 гадах. Кажуць, што ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваюцца яшчэ некалькі праектаў Асноўнага закону, якія так і не былі вынесеныя на ўсеагульны агляд.

У выніку, ад моманту, калі пачалася праца над Асноўным законам, і да яго прыняцця прайшло чатыры гады. Цяпер жа нам наладзілі нейкую «гонку Канстытуцый».

## Гонка Канстытуцый

Спачатку Лукашэнка, спрабуючы ўтаймаваць народ, заявіў, што хутка будзе прынятая новая Канстытуцыя, у якой менш улады будзе ў кіраўніка краіны, а больш — у іншых уладных структур, а пасля ён сыдзе. Пры гэтым, маўляў, новая Канстытуцыя павінна быць распрацаваная да вясны 2021 года. Прынамсі, гэты тэрмін быў агучаны, калі Палата прадстаўнікоў ды іншыя органы пачалі «збор пажаданняў» ад грамадзян па змесце наступнага Асноўнага закона.

У супрацьвагу гэтай ініцыятыве распрацоўку сваіх канстытуцыйных нормаў пачаў штаб Святланы Ціханоўскай. Праўда, першапачаткова заяўлялася, што пасля перамогі спачатку вернецца легітымная Канстытуцыя 1994 года, а ўжо потым будзе ісці праца над новым варыянтам Асноўнага закона. Але ж цяпер, падаецца, падыход змяніўся.

Праект Канстытуцыі «ад Лукашэнкі» ў грамадстве пакуль што не бачылі. Хто над ім працуе, таксама невядома. У той час, як каманда Ціханоўскай запусціла ў тэлеграме групу «Канстытуцыя», дзе рэгулярна выкладаюцца праекты раздзелаў для грамадскага абмеркавання.

Поўнага тэксту «альтэрнатыўнай» Канстытуцыі таксама яшчэ няма. Але ёсць хоць нешта, над чым можна разважаць. І нават з першага погляду гэты праект Канстытуцыі мае багата хібаў. Некаторыя палажэнні дакумента могуць з часам састарэць — хаця б у сярэднетэрміновай перспектыве. А некаторыя і ўвогуле будуць непрымальныя для часткі соцыуму.

## Высокамаральная Канстытуцыя

Найперш, цікава, што распрацоўнікі некаторых раздзелаў надалі багата ўвагі маральнаму стану грамадзян Беларусі. Словы «мораль и нравственость» сустракаюцца ў тэксце праекта Асноўнага закона не аднойчы, што ў далейшым пацягне за сабою моцны галаўны боль для перакладчыкаў дакумента на беларускую мову. Бо ў беларускай, што «мораль», што «нравственность» — аднолькава «маральнасць» (калі не лічыць сінонім «духоўнасць», але гэта крышку іншае, ці не так?). Што ўжо як бы намякае на выключна «русацэнтрычнае ўпрыгожванне» некаторых палажэнняў праекту беларускага (!) Асноўнага закону.

Напрыклад, нам прапануюць артыкул 14 у такім выглядзе: «Дзяржава падтрымлівае і ўмацоўвае маральныя каштоўнасці — спрадвечны здабытак народа Беларусі. Маральныя асновы праводзяцца ў заканадаўстве і пры яго ўжыванні, абумоўліваюць патрабаванні да службовых асоб органаў улады, выступаюць складовай часткай адукацыі, заахвочваюцца ў культурнай творчасці і ўсіх іншых сферах грамадскага жыцця».

Пра «маральныя каштоўнасці» як «спрадвечны здабытак» лепш, канешне, прамаўчаць. Але вось тое, што «маральныя асновы» будуць праводзіцца ў заканадаўстве ды выступаць патрабаваннямі для службовых асоб, — адразу ўзнікае пытанне: ЧЫЕ маральныя асновы? Хто будзе іх вызначаць? Царква? А якая: праваслаўная, каталіцкая, мячэць, сінагога ці пратэстанты? Улада з новым «маральным кодэксам будаўніка камунізму»? Можа, вызначым агульную мараль на рэферэндуме?

Больш за тое, артыкул 22 праекта Канстытуцыі прапісвае, што «Законам прад'яўляюцца патрабаванні кампетэнтнасці і маральнасці да педагогаў і замацоўваецца абавязак навучэнцаў старанна авалодваць ведамі».

Зноў тая самая «маральнасць». Ва ўсіх яшчэ на слыху, як у Расіі «загнабілі» настаўніцу за тое, што яна выклала ў сацыяльныя сеткі сваё фота з адпачынку на пляжы — у купальніку. Некаторыя палічылі гэта не вельмі «маральным». Падавалася б, нармальны педагог, нараканняў да яе як да прафесіянала не было, дый купальнік быў не вельмі дзёрзкі, мае права на адпачынак і прыватнае жыццё… Але ж «пабарнікі маралі» зацкавалі чалавека і змусілі звольніцца. І ў нас будзе тое ж?

Дык да чаго ж у Канстытуцыі тая «мараль»? Зразумела, для чаго. Нібыта гарантуючы ўсім «роўнасць і братэрства» (артыкул 21 праекта — «Усе людзі свабодныя і роўныя ў сваёй годнасці і правах»), дакумент з пункту «маральнасці» адразу ж абмяжоўвае правы некаторых груп насельніцтва. Што выявілася, напрыклад, у артыкуле 33. Там гаворыцца: «Жанчына і мужчына па дасягненні шлюбнага ўзросту маюць права на добраахвотнай аснове ўступіць у шлюб і стварыць сям'ю».

«Немаральныя» прадстаўнікі ЛГБТК+ і іншыя «вычварэнцы» нервова паляць убаку — разам з іх спадзяваннямі на аднаполыя шлюбы. Бо ясна прапісана: шлюб — толькі для «традыцыяналаў». Больш за тое: гей альбо лесбійка, хай яны і тройчы прафесіяналы, наўрад ці трапяць у органы ўлады — з пункту гледжання «маральных каштоўнасцяў як здабытку народа Беларусі», да таго ж з «маральнымі патрабаваннямі да службовых асоб».

Як там казаў Лукашэнка: «Лепш быць дыктатарам, чым "блакітным"»?

## Крышачку пра прафесійнае

У новым праекце Канстытуцыі замацавана, што кожны мае права на свабоду меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне, і мае права свабодна шукаць, атрымліваць, перадаваць, ствараць і распаўсюджваць інфармацыю любым законным спосабам. Але пры гэтым права на свабоду слова не мае ніхто. Нават сродкі масавай інфармацыі.

Так і запісана: «Сродкі масавай інфармацыі карыстаюцца (карыстаюцца, а не маюць!) свабодай слова і нясуць абавязак служыць праўдзе».

Згадваецца песня Бутусава: «Праўда заўсёды адна, гэта сказаў фараон». Што за «фараон» будзе вызначаць «праўду», якой будуць служыць СМІ, — пакуль невядома. Але мы можам зрабіць высновы, што спадзяванні журналісцкай супольнасці на ліквідацыю «Міністэрства праўды» — то-бок Мініфармацыі, — наўрад ці спраўдзяцца. Як і спадзяванні на стварэнне грамадскіх (а не дзяржаўных) СМІ. Таму што ў праекце Канстытуцыі закладзена такое паняцце, як «дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі», якія пры адборы фактаў, што будуць асвятляць, павінны кіравацца «прынцыпамі грамадскага інтарэсу і справядлівасці».

І асобным радком прапісана, што «доступ да інтэрнэту з'яўляецца неад'емным правам чалавека».

Калі пісалася Канстытуцыя 1994 года, інтэрнэту не было. З сённяшнім развіццём тэхналогій (а жывем мы, па-сутнасці, у эпоху інфармацыйнай рэвалюцыі, якая прыйшла следам за НТР) ніхто не дасць гарантыі, што праз 20 гадоў сетку інтэрнэт не заменіць які-небудзь «Меганэт». Фантасты ўжо пішуць пра розныя міжпланетныя сеткі з рознымі назвамі кшталту «Інтэрстар». А будучыня можа надысці значна раней, чым мы ўяўляем. Прынамсі, яшчэ 30 гадоў таму відэасувязь з ці не любой кропкі свету (тое, што мы цяпер наўпрост маем у мабільных тэлефонах) падавалася выключна выдумкай фантастаў.

Дык навошта закладаць у тэкст Канстытуцыі тэхналогію, якая ў любы момант можа састарэць альбо змяніць сваю назву? Нам потым з-за гэтага Канстытуцыю мяняць?

## Набалелае за 20 гадоў

Што зусім цікава — «моўная практыка» ў праект Канстытуцыі «ад Ціханоўскай» перакачавала з Канстытуцыі Лукашэнкі 1996 года. У праекце Асноўнага закона артыкул аб мовах гучыць так: «Дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы. Паважаючы права кожнага абіраць мову зносін, дзяржава ажыццяўляе меры па пашырэнні выкарыстання беларускай мовы для наступнага надання ёй у Канстытуцыі статусу адзінай дзяржаўнай мовы».

Калі дзяржава сапраўды будзе імкнуцца да «наступнага надання» беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай, не трэба гэта прапісваць у Канстытуцыі. Бо, калі той момант настане, Канстытуцыю, зноў жа, трэба будзе змяняць.

Але тое, што моўнае пытанне адкладаецца да «наступнага», хіба азначае, што гэтага не здарыцца ніколі. Мы ўжо пісалі ў Канстытуцыях і 1994 года, і 1996-га, што «імкнёмся» да адмены смяротнага пакарання, статусу нейтральнай і бяз'ядзернай дзяржавы. У выніку смяротная кара не адмененая, мы — «нейтральныя» чальцы АДКБ і пабудавалі «бяз'ядзерную» АЭС.

«Моўны» артыкул выглядае фарысействам, бо зразумела, што беларуская мова можа адрадзіцца толькі ва ўмовах так званай «пазітыўнай дыскрымінацыі». Чаго проста не атрымаецца зрабіць пры наданні іншай мове статусу дзяржаўнай.

## Ці трэба «гнаць ровар»?

Доктара юрыдычных навук, прафесара і былога суддзю Канстытуцыйнага суда Міхаіла Пастухова такая «гонка» ў дачыненні да распрацоўкі новай Канстытуцыі засмучае. Сам ён у прынцыпе не згодны з падыходам, калі распрацаваць яе трэба «як мага хутчэй».

«Калі мы сапраўды юрысты і прафесіяналы, трэба рабіць усё па законе. На мой погляд, самы просты шлях да ўзнаўлення законнасці — гэта вяртанне да Канстытуцыі 1994 года, а ўжо пасля таго, як будзе абраны дэмакратычны парламент, можна прымаць праўкі ў Канстытуцыю–1994. Таму пакуль я заняў пазіцыю незалежнага эксперта — сачу за напрацоўкамі рабочай групы, што працуе над Асноўным законам».

Па словах Пастухова, сённяшнія распрацоўшчыкі Канстытуцыі хочуць зрабіць яе хутка — і вынесці для прыняцця на рэферэндум, які пройдзе разам з прэзідэнцкімі выбарамі. Такія планы Пастухоў называе «авантурыстычным падыходам». Прынамсі, па дзвюх прычынах. Першая — у тым, што новую Канстытуцыю павінны ацаніць міжнародныя эксперты. Напрыклад, Венецыянская камісія (афіцыйна — Еўрапейская камісія за дэмакратыю праз права, кансультацыйны орган па канстытуцыйным праве, створаны пры Радзе Еўропы ў 1990 годзе), а гэтая камісія прымае да разгляду толькі тыя праекты Канстытуцый, якія прадстаўляюцца легітымнымі ўладамі краін. То-бок, спачатку павінны прайсці легітымныя выбары ў парламент, а значыць, без вяртання да Канстытуцыі 1994 года не абысціся.

Другая ж прычына — на думку юрыста, на рэферэндум можна выносіць толькі пытанні, якія маюць адназначны адказ: «так» ці «не». Прымаць жа на рэферэндуме цалкам Канстытуцыю, тым больш, калі плебісцыт будзе сумешчаны з іншымі важнымі выбарамі, — няслушна. «Адзін раз мы ўжо прынялі Канстытуцыю на рэферэндуме, нічога добрага з гэтага не атрымалася», — кажа Пастухоў.

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №1 (173)
(студзень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб’яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест



# Тамара Аўсяннікава: «Завітаюць вершы — шлю падзяку небу»

**З літаратуразнаўчымі нарысамі, вершамі, апавяданнямі Тамары Аўсяннікавай знаёмыя не толькі чытачы Магілёўшчыны, дзе яна жыве цяпер. Нарадзілася на Гомельшчыне, скончыла філфак БДУ, працавала настаўніцай, бібліятэкаркай, інжынерам, метадыстам, загадчыкам крамы. Атрымала другую вышэйшую адукацыю эканаміста.**
**Сёння захацелася пагутарыць з ёю на «новачасных» старонках «Літаратурнай Беларусі» — з асобаю чулай да харастве роднага слова і чалавечай душы.**

***— Спадарыня Тамара, азіраючыся назад, што вас найбольш цешыць?***

— Цешыць тое, што моладзь мае больш магчымасцяў, чым было ў майго пакалення. Цяпер межы адкрыты, ёсць высокатэхнічныя сродкі для самаадукацыі і самаўдасканалення. Цешыць, што я яшчэ запатрабаваная, працую, магу падзяліцца сваім досведам з моладдзю, поруч з якой не адчуваю свайго ўзросту.

***— А што засмучае?***

— А засмучае тое, што час надта імклівы, не толькі ў нас, на ўсёй планеце, і за гэтай імклівасцю мы не заўсёды зважаем асобнага чалавека, кожны заняты сабою. Засмучае, што мы страчваем сваю нацыянальную адметнасць. Максім Багдановіч у лісце да простых людзей «Хто мы такія?» ставіў пытанне аб ідэнтыфікацыі беларуса. Мінула стагоддзе, а пытанне актуальнае... Дабрыні і павагі стала менш, дрэнных звычак больш.

***— Радзіма для вас — гэта ўся Беларусь ці хутчэй Лоеўшчына?***

— Радзіма — гэта ўся Беларусь. У вёсцы Сяўкі, што на Лоеўшчыне, я пражыла 17 гадоў. Потым быў Мінск, Мёршчына, Магілёў. Я не прымаю выразу «малая радзіма». Родны дом, мясціны, дзе нарадзіўся, дзе прайшло дзяцінства, назаўсёды ў сэрцы і памяці, гэта так. Але я не дзялю Радзіму на малую і вялікую, як нельга падзяліць на часткі «любоў». Ты альбо любіш, альбо не.



**Я не прымаю выразу «малая радзіма». Родны дом, мясціны, дзе нарадзіўся, дзе прайшло дзяцінства, назаўсёды ў сэрцы і памяці, гэта так. Але я не дзялю Радзіму на малую і вялікую, як нельга падзяліць на часткі «любоў». Ты альбо любіш, альбо не**

***— Якія творы і якіх аўтараў вам хочацца чытаць і перачытваць?***

— Я перачытваю добрую паэзію, якая дорыць слёзы радасці. Аўтараў не называю — іх многа. Летам звярнулася да паэзіі Уладзіміра Караткевіча і да яго празаічных твораў: «Ладдзя роспачы», «Старая легенда». А яшчэ так многа непрачытанага!

Маімі настольнымі кнігамі з’яўляюцца слоўнікі, кнігі па вершаскладанні і літаратуразнаўстве, Біблія, паэзія — беларуская, руская, англійская, японская, кітайская...

***— Вы пачалі пісаць ужо ў сталыя гады. Хто альбо што падштурхнула да гэтага?***

— Кожны прыходзіць да творчасці ў свой час. Схільнасць была. Любоў да паэзіі перадалася ад мамы, якая многа ведала на памяць вершаў, многа чытала. Яна не завучвала са мной вершы, не вучыла мяне любіць паэзію. Звычайна вечарамі, за кудзеляю ці за іншаю манатоннаю працаю, у святочныя дні, чытала вершы. Хутчэй для сябе — такая ў яе была патрэба. А я слухала. Мне і сёння многія вершы гучаць голасам мамы. Адпаведны ўплыў зрабілі ўмовы, у якіх выхоўваюцца вясковыя дзеці.



Фотакалаж www.devprojournal.com

Мае набыткі невялікія. Найбольш важнае — гэта заняткі з моладдзю ў літаратурных клубах «Творчая гасцёўня» і «Святліца», а таксама чатырохтомнае выданне «Яўгенія Янішчыц: творы, жыццяпіс, каментарыі», над якім мы працуем разам з кандыдатам філалагічных навук Святланай Калядка. Выйшлі ўжо тры тамы.

***— Падчас працы над гэтым выданнем што было для вас самым цяжкім?***

— Завочная праца з родзічамі, настаўнікамі, аднакласнікамі. Даводзілася па тэлефоне запісваць іх успаміны, потым апрацоўваць і зноў жа па телефоне узгадняць. З некаторымі блізкімі цяжка наладжваўся кантакт. Былі цяжкасці і ў зносінах з некаторымі пісьменнікамі, але гэты бок працы няхай застаецца са мною.

***— Як настаўніца маладых талентаў скажыце, ці адрозніваецца сучасная творчая моладзь ад сваіх папярэднікаў?***

— Моладзь заўсёды моладзь. Адрозніваецца тым, што гістарычныя, эканамічныя і культурныя ўмовы розныя. Час і тэхнічны прагрэс накладае адбітак. Яны больш прагматычныя. Але не ўсе. Творчы чалавек ва ўсе часы няўтульна сябе пачувае ў грамадстве і ва ўсе часы адзінокі. Мне ёсць чаму павучыцца і ў іх.

***— У параўнанні з пачаткам пісьменніцкага шляху ці змяніліся вашы творчыя перавагі, праца над якімі формамі і жанрамі найбольш даспадобы цяпер?***

— Я не аддаю перавагу нейкім жанрам. Раблю тое, што павінна рабіць. Трэба завяршыць пачатае выданне па творчасці Яўгеніі Янішчыц. Трапіла мне ў рукі анталогія беларускай паэзіі на рускай мове «Дыхание времени» ў перакладах Івана Бурсава — і не пакінула абыякавай: напісала артыкул. Запрасілі прыняць удзел у Куляшоўскіх чытаннях — з’явіўся яшчэ адзін артыкул. Завітаюць вершы — шлю падзяку небу. Не сакрэт, што паэзія патрабуе адпаведных абставін і настрою. Калі хутка бегчы, можаш не пачуць яе голасу. Я не той пісьменнік, які жыве толькі пісьменніцкаю працаю і лічыць патрэбным кожны дзень пісаць...

***— Якія крыніцы жывяць ваша натхненне?***

— Прырода, кнігі, людзі, падзеі. Пушкін некалі казаў, што натхненне — гэта ўменне настроіць сябе на працоўны лад.

***— Што на вашу думку шкодзіць, а што ідзе на карысць пісьменніку-пачаткоўцу?***

— Дрэннаму танцору і ногі перашкаджаюць. Калі сур’ёзна — тое, што на карысць, тое і перашкаджае. Адсутнасць тэарэтычных ведаў літаратуры пачаткоўцу шкодзіць, але і дапамагае, бо ён піша раскаваны, не азіраючыся. Набыўшы адпаведныя веды, вопыт, ён страчвае юнацкія амбіцыі, рамантычны запал. Па вялікім рахунку таленавітаму чалавеку ўсё павінна ісці на карысць, асабліва няўдачы.

***— Літаратура будучыні... Якой яна бачыцца вам?***

— Што літаратура будзе, я ўпэўнена. А якой яна будзе — будучыня і пакажа.

***— Найлепшы адпачынак — гэта...***

— Калі ты сам-насам з прыродаю. І — каля мора.

***— І на фотаздымках, і ў рэальным жыцці вы заўжды выглядаеце прывабна і шляхетна. Адкрыйце сакрэт вашай маладосці і прыгажосці, калі, вядома, гэта не таямніца?***

— На такія кампліменты я звычайна адказваю: «Павінна ж і ў мяне быць штосьці добрае». З гадамі мы ўсё больш становімся падобнымі на сваіх бацькоў... *(Задумалася).* Сакрэта ніякага няма, проста калі выходзіш у людзі, трэба пераапрануцца, крышку прыўкрасіць сябе, але галоўнае — узяць з сабою добры настрой.

Наша энергетыка ўплывае не толькі на блізкіх, знаёмых, але і на сонечную актыўнасць. Вучоны А. Л. Чыжэўскі яшчэ ў 1924 годзе ў сваёй працы «Фізічныя фактары і гістарычныя працэсы» сцвярджаў, што лёсы чалавецтва знаходзяцца ў залежнасці ад лёсаў сусвету і што гэта не толькі паэтычная думка, якая натхняе мастакоў на творчасць, але ісціна, прызнаць якую патрабуюць вынікі дакладнай навукі...

**Гутарыла Таццяна Барысік**

# Словы пра Васіля Быкава

Адам ГЛОБУС

### Велічны дуб

На сустрэчы з чытачамі, якая праходзіла ў мінскім Доме літаратараў, Васіль Быкаў атрымаў стандартнае пытанне: «Хто з сучасных пісьменнікаў вам блізкі?».

Зазвычай у адказе пісьменнік пералічвае сяброў і раўналеткаў, з якімі разам прыходзіў у літаратуру і поруч ідзе па жыцці. Быкаў зрабіў інакш, сказаўшы, што на ягоны розум сапраўдны пісьменнік падобны не на дрэва ў густым лесе, а на велічны дуб, які самотна стаіць пасярод голага поля.

Калегі палічылі параўнанне Васіля Быкава абразлівым. Доўгі час у пісьменніцкіх колах абмяркоўвалася ягоная ганарыстасць і пыхлівасць. Каб Васіль Уладзіміравіч са сцэны казаў нешта іншае пра блізкіх і далёкіх для яго пісьменнікаў, я не чуў. Таму чытаючы шматлікія аповеды самых розных людзей пра іх нібыта вялікае сяброўства з Быкавам, я не надта бяру іх на веру.

### «Лета»

У мінскай рэстарацыі «Лета» маладыя беларускія пісьменнікі адзначалі выхад першай кнігі Быкава «Жураўліны крык». Большасць тостаў і большасць добрых слоў сказалі не аўтару, а ягонаму рэдактару — Уладзіміру Дамашэвічу, бо менавіта ён абараняў кнігу ад нападаў недобразычлівых рэцэнзентаў. Дамашэвіч угаварыў баязлівае выдавецкае начальства выпусціць твор маладога правінцыяла. Тая гулянка ў рэстарацыі была запамінальнай, пра яе потым шмат хто распавядаў.

Пісьменнікі казалі, што Дамашэвіч ніколі не нагадваў Быкаву пра свае заслугі і ніколі нічога не папрасіў у Васіля, калі той зрабіўся ўплывовым чалавекам. Казалі пра тое яшчэ і таму, што сам Васіль Быкаў не згадваў баявітага Дамашэвіча, які дапамог яму выйграць змаганне за першую кнігу.

Зразумела, я ведаю гэтую гісторыю з расповедаў свайго бацькі, а таксама Міхася Стральцова і Рыгора Барадуліна. Але іх расповеды былі такімі вобразнымі, што мне цудоўна ўяўляецца, як маладыя беларускія пісьменнікі балявалі ў рэстарацыі і хвалілі Уладзіміра Дамашэвіча, які з маладосці насіў мянушку Дзед.

### Чарнавікі

Пасля заканчэння твора Быкаў знішчаў чарнавікі. Увесь назапашаны матэрыял, усе варыянты, усё, што не ўвайшло ў апошні чысты экзэмпляр рукапісу, Быкаў выкідаў на сметнік. Пасля выхаду твора ў свет ён ніколі не перачытваў уласныя апавяданні, аповесці і раманы. Лічыў, што гэткае перачытванне будзе замінаць працы над новай рэччу. Кожная аповесць і кожны раман Васіля Быкава былі цалкам завершанымі і цалкам асобнымі кнігамі — прынамсі, ён бачыў іх менавіта такімі.

Падобны падыход да літаратурнай працы быў актуальны ў эпоху вялікага кіно, калі паводле паспяховай кнігі адразу рабіўся кінасцэнарый і фільм. У часы серыялаў ён выглядае крыху архаічна, бо не прадуктыўны.

### «Пахаджане»

Прыпавесці Васіля Быкава сабраліся ў кнігу «Пахаджане», вокладку для якой рабіў я. З выхадам кнігі выйшла затрымка, бо я не мог знайсці вядомых пісьменнікаў, якія пагадзіліся б напісаць пару сказаў для вокладкі пра новую прозу Васіля Быкава. Мэтры казалі, што раней Быкаў быў вялікім пісьменнікам, а ягоныя прыпавесці — параза, правал, дэградацыя.


Фота Алены Адамчык

Я меў цалкам супрацьлеглае меркаванне. Для мяне «Пахаджане» — найлепшая кніга Васіля Уладзіміравіча, бо яна напісана для беларусаў, для Беларусі, для нас. У ёй няма плакатнай савецкасці, няма кіношнага схематызму і няма імперскай мілітарыстычнасці.

Вокладку я зрабіў, кніга выйшла і дайшла да чытача. Цікавая метамарфоза адбылася пасля смерці Быкава. Пісьменнікі, якія адмовіліся тады пісаць добрыя словы пра Васіля Уладзіміравіча, гучней за ўсіх пачалі казаць пра сваё сяброўства з вялікім чалавекам.

### Хадакі

Песіміст Васіль Быкаў, гледзячы і апісваючы сучасных беларусаў, назваў іх пахаджанамі. Каб Васіль Уладзіміравіч дажыў да нашых дзён і паглядзеў шэсць сезонаў серыяльнай эпапеі «Гульні тронаў», дык мог бы і пераназваць сваіх пахаджан у хадакоў. Дарэчы, у кіно яны не проста хадакі, а белыя хадакі, амаль што беларускія хадакі.

Быкаў не дажыў і не пабачыў белых хадакоў, а мы дажылі, той-сёй з нас іх пабачыў і паспеў палюбіць. Цяпер на сакраментальнае пытанне беларускага прарока Янкі Купалы «А хто там ідзе?» можна дадаць у адказ: «Хадакі! Белыя хадакі! Беларускія хадакі! Беларусы...».

### Лысіна

Людзі лысеюць, мужчыны — больш, жанчыны — менш. У жанчын шмат спосабаў прыхаваць парадзелыя валасы. Яны і хусткі з капялюшыкамі ў памяшканнях навучыліся не здымаць, яны і парыкі розных фасонаў носяць, яны нават чалму зрабілі моднай па ўсім свеце. У мужчын змаганне з лысінай мае меней сродкаў.

Бываюць перыяды, калі голеная галава робіцца моднай. Тады можна не хвалявацца, што ўсе заўважаць, як ты аблысеў у маладым веку. Бываюць іншыя часы, калі мужчыны носяць доўгія валасы. Тады — бяда.

Можна схаваць лысіну пад кепкай. Так рабіў празаік Іван Пташнікаў. Прачытаўшы ў мяне сказ пра чалавека з кепкай на лысай галаве, ён спытаў: «Адкуль ты ведаеш, што ў чалавека пад кепкай лысіна?» — «Бачу! Яно ж адразу відаць...», — кажу. «Як ты можаш бачыць? Кепка непразрыстая...» — «Кепка інакш сядзіць. А яшчэ мяне вучылі маляваць усе рэчы так, нібыта яны і сапраўды празрыстыя. Каб так маляваць, трэба ўважліва глядзець на кожную рэч...» — «Непераканаўча! Не можаш ты бачыць лысіну пад непразрыстай кепкай!».

Пташнікаў не стаў удакладняць, што ягоную лысіну пад шапкаю прыкрывае яшчэ спецыяльна адрошчаны касмыль валасоў. Тую прычоску, калі лысіна закрываецца касмылём, у народзе называюць заграбонам.

Шмат хто з беларускіх пісьменнікаў хадзіў з такім заграбонам. Найбольш недарэчным ён глядзеўся на галаве Васіля Быкава. Недарэчным, бо Васіль Быкаў вучыўся на скульптара, наведваў мастацкую вучэльню. А мастакі не саромеліся сваіх лысін, ганарыліся высокім ілбом, малявалі ўласныя лысыя галовы з любоўю, з увагай і з павагай.

Каб я быў крыху старэйшы, дык абавязкова параіў бы Васілю Уладзіміравічу ўзяць нажніцы і абстрыгчы заграбонны касмыль, як абстрыг яго Пабла Пікаса. Зрэшты, Якуб Колас свой касмыль не абстрыг.

### Чаравікі

Дайшло да таго, што ў Васіля Быкава не было грошай на новыя чаравікі. Высветлілася гэта выпадкова, калі пісьменніка запрасілі выступіць у Беларускім ліцэі. Ён прыйшоў на выступ у стаптаных і парваных чаравіках.

Выкладчыца Ганна Кісліцына, пабачыўшы парваны абутак на сусветна вядомым пісьменніку, пачала кампанію па дапамозе Васілю Быкаву. Яна патэлефанавала ў Маскву перакладчыцы Тамары Залатухінай, тая праз свае сувязі зрабіла Быкаву запрашэнне за мяжу. У выніку той кампаніі фінскі ПЭН-клуб прывеціў беларускага пісьменніка і прызначыў яму стыпендыю.

Пасля Фінляндыі Васіль Быкаў жыў у Чэхіі і Нямеччыне. У Беларусь ён вярнуўся смяротна хворым, каб пабыць на Радзіме ў самыя апошнія дні.

### Скураны пінжак

Адразу пасля пахавання Васіля Быкава ўзнялася хваля ўхваленняў. Як яго толькі не ўзносілі, з кім толькі не параўноўвалі, чаго толькі не напланавалі для ўшанавання ягонай памяці... Не пераказваць, не пераглядзець і не перачытаць. Запомнілася, што адзін крытык параўнаў Васіля Быкава з Уільямам Шэкспірам. Пэўна, той крытык не ведаў, што Быкаў не любіў тэатр. Ён быў далёкі ад тэатральнага асяродку.

Васіль Быкаў належаў да пакалення вялікіх аматараў кіно. Таму і проза ў яго наскрозь кінематаграфічная, яна лёгка перакладаецца на мову кінасцэнарыяў. Экранізацыі аповесцяў «Сотнікаў» і «Альпійская балада», — можна сказаць, узоры савецкага кіно пра Другую сусветную вайну.

Васіль Быкаў і апранаўся як савецкі кінарэжысёр. Насіў чорны скураны пінжак. Такі пінжак лічыўся модным і прэстыжнай рэччу напрыканцы 70-ых. Калі Быкаў з'яўляўся на сцэне ў бліскуча-чорным пінжаку, у абліччы пісьменніка было нешта вайсковае і нават камісарскае.

### Зоркі

Бачу свайго былога аднакурсніка скульптара Батвінёнка ў дарагім касцюме і пытаюся: «Нашто ты надзеў касцюм? Вяселле ў каго ці яшчэ якая ўрачыстасць?» — «Проста прывыкаю да новага касцюма. Раней, як ты правільна заўважыў, я касцюмы не насіў. Цяпер падумаў... Запрасіць мяне ў які высокі кабінет, а ў мяне няма ў чым туды ісці. Пайшоў і купіў даражэзны, скажу табе, касцюмчык. Цяпер во разношваю і выгульваю. І як толькі атрымаю запрашэнне, дык адразу — раз, і ў касцюм!» — «Ты ж мастак, можаш і ў швэдрыку на прыём пайсці...» — «Несалідна ў швэдрыку...».

Пагаварылі мы і пайшлі ў розныя бакі. Я пра дарагі касцюм Сашы Батвінёнка і забыўся быў, ажно пакуль не пабачыў ягоны праект помніка Васілю Быкаву. На праекце бронзавы Быкаў схіліўся над вялізнай чырвонай каменнай зоркай.

Быкаў усё сваё жыццё хадзіў з рознымі зоркамі і пад рознымі зоркамі. Хадзіў з зоркай на пілотцы, хадзіў з зоркамі на пагонах, хадзіў з залатой зоркай на грудзях. Адпаведна, і на помніку ён атрымаў чарговую зорку.

Выглядала на тое, што Батвінёнак свой праект зацвердзіць, бо ў яго быў дарагі касцюм, каб схадзіць на прыём і вырашыць усе дробныя і вялікія праблемы.

Пакуль не склалася, але будзем спадзявацца, што праекту Батвінёнка зоркі паспрыяюць. Калі зоркі не паспрыяюць праекту Батвінёнка, дык няхай яны спрыяюць яшчэ лепшаму помніку, які заслужыў Васіль Уладзіміравіч.

### Лозунгі

У пакаленні пісьменнікаў-мілітарыстаў, якое ў нас ачольваў Васіль Быкаў, несупынна гучаў лозунг: «Усё для фронта, усё для перамогі!»; у сучаснага пакалення літаратараў-эстраднікаў матываваў зусім іншыя: «Усё дзеля сцэны, усё дзеля авацый!».

### «ІДЗЕ НАРОД...»

***Гэтая песня ў 1974 годзе стала візітоўкай адчайнага змагання чылійцаў супраць вайсковай хунты на чале з генералам Аўгуста Піначэтам. Мелодыю і словы прыдумалі ўдзельнікі папулярнага гурта «Кілапаюн», аранжыроўку дапрацаваў вядомы музыкант Серхіа Артэга Альварада. Першы пераклад тэкста песні на беларускую мову зрабіў Макс Шчур, а я вырашыў прапанаваць сваю версію.***
***Лявон Баршчэўскі***

#### З'яднаных нас многа, за намі перамога!

*Наш годны спеў — пра перамогі час,*
*Адзінства сцяг зноў акрывае нас.*
*І побач тут трывала станеш ты,*
*Пачуеш спеў — як толькі золак наш*
*азорыць дзень,*
*Ягоны*
*Блісне нам прамень.*
*Жыццё святлом заззяе нам тады.*

*Каб нам не жыць, як мы жылі раней,*
*Трыумфу марш, у ім ідзём мы ўсе*
*За тое, каб нам шчасны лёс прыспеў,*
*Тут прагучыць мільён непераможных*
*галасоў*
*Ізноў.*
*Наш вольны, годны спеў,*
*Свабоду ён радзіме прынясе!*

*Цяпер у тым памкненні народ яднае вера,*
*Ён голасам магутным нас клікае:*
*«Наперад!».*
*З'яднаных нас многа, за намі перамога!*
*З'яднаных нас многа, за намі перамога!*

*Наш родны край адзіным паўстае,*
*Адным шыхтом ідзе сюды здалёк,*
*З усіх куткоў айчыны аднае,*
*З лясоў, з далін, з'яднаны ў непахіснай*
*барацьбе,*
*Каб край здабыць сабе*
*І так*
*Зрабіць у будучыню моцны крок!*

*Спявайма ўсе пра пераможны час,*
*Ідзе народ за праўду кожны раз,*
*Магутны люд, агністы батальён,*
*Узняў на сцяг усё, за што здаўна*
*змагаўся ён.*
*Жанчыны тут,*
*Агонь іх сэрц не згас,*
*Рабочы люд, хто стане побач з вас?*

*Цяпер у тым памкненні народ яднае*
*вера,*
*Ён голасам магутным нас клікае:*
*«Наперад!».*
*З'яднаных нас многа, за намі перамога!*
*З'яднаных нас многа, за намі перамога!*

*Не вырваць свабоду ў адзінага народу!*
*Не вырваць свабоду ў адзінага народу!*

**Пераклад з іспанскай Лявона Баршчэўскага**



Фота www.depositphotos.com

# Трэці Эдэм



Валянціна АКСАК

### Белая кроў

*Безліч бязважкіх аблокаў,*
*бязмежжа пунсовага мора,*
*бязмоўная блізкасць жаданага цела,*
*бязлітасны боль*
*вывяржэння бязгрэшнага немаўля,*
*боязь бачыць жалобнае ўзлоб'е*
*на бацькоўскім узложжы,*
*бажавольная вольнасць вандровак*
*да бязлюдных азёраў*
*без мілаты й жагнаты.*
*Божая тайніца без ангажэментаў.*
*Белая Баля.*
*Была.*
*Упунсоўлена ў ейную млосць*
*белае —*
*жэрала збыткаванае,*
*барва зжарсцвелая,*
*забыты,*
*знячэўлены жах,*
*жуда,*
*безупынная зумкасць пустэчы,*
*цвяльба бесстасоўная,*
*бадзянне за поўняй*
*з журбой безагляднай.*
*Бурбалкі ў лужыне*
*бурапеннага жніўня.*
*Белая кроў.*

### РБ

*Замоўклі музы,*
*толькі свішчуць кулі,*
*рулятрымальнікі страляюць трапна,*
*прыцэл наводзячы на тых,*
*каму заўжды*
*спявалі музы.*

### Новы сад

*Раз пайшла такая куляпляска —*
*я закладаю новы сад.*
*Няўдобіцу штодня ўрабляю,*
*каб насадзіць кустоў і дрэваў,*
*няўразлівых да маразоў.*
*Загартаваныя зімовай лютасцю,*
*вясной яны ашчэраць*
*кветкавыя стрэлкі*
*і ўсіх стралкоў*
*праткнуць навылет.*

### Кармазынавы бэз

*Жыву пры гасцінцы,*
*які ўтрамбавалі ўсялякія паязджане.*
*Іх колаў рыпенне*
*даносіцца ў мой*
*адасоблены сад,*
*і гамонкі звяглівыя чуюцца*
*нат пад згусцелымі шатамі вінаграду.*
*Не схавацца ў альтанцы далёкай*
*за шчытнаю квеценню капрыфоляў.*
*Бездапаможна аралія*
*раскрыліла лісце.*
*Ратунку няма —*
*так я ў роспачы думаю.*
*Але раптоўная ўзгадка*
*навукі бабулінай пра колерасхоў*
*прымушае закладваць прысады*
*наўсцяж шляху,*
*якіх анічога не зрушыць.*
*Язмін для пачатку й шукаць*
*анідзе не спатрэбілася.*
*Белапенныя кветкі яго*
*раскашуюць пры кожнай*
*тутэйшай гасподзе.*
*Заканцоўваць прысады*
*надумала млечным жылістэкам.*
*Дзякуй сябру з Уроцлава —*
*Ма́ю акцэнт на заход ад маёе сядзібы.*
*Але ззяе прагал пасярэдзіне,*
*і нічым не магу*
*вартым цэнтру пазначыць.*
*Праз цэлую восень пакута.*
*Бо ж трэба,*
*каб кветкі ў прысадах успыхнулі ўраз*
*і ўсцерабілі*
*чужынцамі ўтоптаны шлях.*
*І іх аглушылі,*
*каб не гойсалі тут, як удома.*
*Панадным самюткім у цэнтр*
*то будзе, бадай што,*
*заўсёднік шляхецкіх маёнткаў*
*водарны бэз.*
*Але ж — бэзавы.*
*Не шчэпка ў ахову.*
*Ды во ўчора нашчадак Сікоры*
*тэлефануе і кажа,*
*што ўжо ма́е*
*густа агністы*
*ахоўнічы бэз.*
*Кармазынавы.*

### Суседзі

*Прыйшла на гасціны суседка.*
*З грушавым струдэлем*
*і каваю з цынамонам.*
*Паказала новыя творы,*
*якіх зачакаліся*
*парыжскія знаўцы*
*яе ювелірнага таленту.*
*І між іншым сказала,*
*што да яе,*
*як снег неспадзеўны ў кастрычніку,*
*звалілася на адпачынак*
*мама з Парыжу.*
*І яна даручыла*
*спытацца,*
*ці маю я нейкія*
*французскія карані.*
*Але з чаго тое раптам?*
*Вашыя кошыкі заваконныя*
*ёй нагадваюць аўру*
*парыжскіх прадмесцяў,*
*і яна тут пачулася,*
*быццам бы дома.*
*Кошыкі з ка́ламі, канамі і пеляргоніямі —*
*о то ж кайф мой штодзённы!*
*А тут апынулася —*
*шчэ і французскі.*
*Але вось сёння ў двары*
*ў няўдобіцу перадваконную*
*я хрызантэмы садзіла.*
*Белыя і кармінныя.*
*І калі завяршала малюнак,*
*сусед аб'явіўся і паабяцаў,*
*што праедзе па кветніку*
*на машыне навюткай сваёй.*
*Чырвона-зялёнай.*

### Трэці Эдэм

*Ліліт, сваёй найпершай любай*
*Адам аддаў усё, што меў:*
*пяшчотны цёплы жвір*
*прыморскага ўзбярэжжа,*
*стракатых галасістых птушак,*
*квяцістыя плады духмяных шатаў*
*неўтаймоўнага кустоўя*
*і таўшчэзных дрэваў.*
*Ліліт з падзякаю дарунак прыняла*
*і дбайнай гаспадыняю*
*надумала ў ім быць.*
*Абладу дзікае красы яна*
*прыручваць стала.*
*У кожнае вяртанне з палявання*
*Адам здзіўляўся пераменам.*
*Прыліў не злізваў болей вогнішча,*
*звяры рахмана следам за Ліліт ішлі*
*і нават усяляк імкнуліся ёй паслужыць,*
*а птушкі спевы зачыналі толькі*
*паводле ўзмаху лёгкіх ейных рук*
*ці грацыёзнага нахілу гордае галоўкі.*
*Адам на сёмым небе быў ад шчасця.*
*Але яго бянтэжыць пачало*
*за нейкім часам,*
*што гармонія ў хаосе*
*вымагала правілаў быцця.*
*Хачу вось тую дулю на вярбе,*
*але пакуль не спелая — не можна.*
*Віна мне налівай,*
*ну й што, што не ўбрадзіла.*
*Граната з дрэва гэтага сарві —*
*які шчэ тут мне Абба*
*можа ўказваць забарону.*
*Сумна стала, адным словам,*
*Адаму з любаю Ліліт.*
*А тут і неспадзеўкі — Ева.*
*Без гармоніі і без забаронаў.*
*Фінал вядомы вам.*
*Ад Адама мацуюцца сыны ў Ліліт.*
*У Евы дочкі падрастаюць.*
*Ну ад каго яны — то ведае той змей,*
*якому сам Адам паддаўся.*
*Астатняе — нам неістотна.*
*А важна,*
*што Эдэмы два намарна існавалі.*
*Для нас.*
*Вось тут.*
*І я запачаткоўваю ўжо трэці.*
*А на спамогу мне*
*аўкніцеся,*
*сыны сыноў*
*каханае Ліліт.*

### Мільтонія

*Хаваю ад вачэй цікаўных*
*маю маленькую сяброўку.*
*Яна — то ўтоеная мілата,*
*цнатлівая краса*
*паміж напышлівых суседак,*
*якія з фанабэрыяй абранасці*
*раскошна чуюцца*
*ў альковах уладарных.*
*А ёй ніяк няўцямна*
*іх крэда дабрадзеек:*
*мы раскрываемся для ўсіх,*
*і ў нас усе ўваходзяць.*
*Яшчэ і дакараюць незгавору:*
*маўляў, і ты ж, як мы,*
*таксама з архідэяў,*
*німфаманістасць якіх*
*вучонымі мазгамі*
*даўно ўжо патлумачана*
*глыбокім лонам*
*нашых кветак.*
*Натура наша, моў, такая —*
*з сіндромам гіперэратызму.*
*Дый нарадзіліся мы ўсе з табой*
*у час з'яўлення*
*самай першае прафесіі.*
*Усмешка светлая ў адказ*
*і шлях са мной*
*у келлю патаемную.*
*Тут, у пілі́паўскай цішы,*
*мы прычакаем*
*абраннікаў шляхетных,*
*якім патрэбна*
*наша мілата*
*й вялікакняжскі тон.*

### Бура

*Ты хвошчаш па мне*
*хваробнай хлуснёю —*
*моўчкі гляджу табе ў вочы.*
*Дубасіш мяне*
*кара́вай даўбешкай —*
*вышэй уздымаю я голаў.*
*Атрутную кулю*
*ў мяне дасылаеш —*
*я не па́даю.*
*Ты нацкоўваеш зграю шакалаў,*
*каб яны разарвалі мяне —*
*нябачнаю я станаўлюся,*
*а яны загрызаюць адзін аднаго.*
*І тады я ўбіраюся*
*ў шлюбныя строі*
*і на высокіх абцасах*
*выпраўляюся ў свет,*
*дзе неба мяне люструе.*
*І там*
*я пяю*
*свае лепшыя песні,*
*ад якіх усчынаецца бура,*
*і зносіць цябе*
*ў Аід.*

### Няўразлівыя

*Бясколерныя шэрагі плябеяў,*
*уражаныя моцным ветрам навальніцы,*
*уздыбарылі поўсць,*
*ашчэрылі крывыя ўсмешкі*
*і лязгатам зубоў*
*спрабуюць заглушыць*
*раскаты грома.*
*Варты жалю выгляд*
*пераляканых гневам неба.*
*Яны былі ж упэўненыя*
*ў сваёй адвечнай важнасці*
*тут і цяпер*
*пад покрывам зямнога божышча,*
*пагардліва глядзелі*
*на ўсіх тых,*
*каму пачуцці самасці*
*ад роду невядомыя.*
*Нас — арыстакратаў.*
*Бо мы — то зоры самавольныя,*
*якія кантралююць шлях свой*
*праз галактыку ў сусвет*
*без тых няшчасных,*
*што засталіся ў лёку*
*ўдрузлае дрыгвы.*

### За брамаю апостала Пятра

*Мой новы сад*
*сыходзіць у зіму.*
*Адно шчэ кроплі*
*пурпуровых хрызантэмаў*
*балюча раняць крылы*
*сняжынкам з вышыні,*
*і тыя на зямлю кладуцца*
*з бязлётнай лёгкасцю*
*на палатне збялелым.*
*Гаючай моцай*
*караняям зіма*
*і одумам*
*для ўмроеных пупышкаў —*
*ці так цвісці, як сёлета,*
*ці новай барвай набрыняць*
*і ці даўжэйшыя шыпы ўзгадоўваць*
*непакорным ружам.*
*Спі, сад!*
*Але не летаргічным сном.*
*Сустрэнемся ў сакавіку!*
*І ты падорыш мне*
*вясняных красак,*
*якія асвятляць усю РБ,*
*а чарната ўратуецца*
*адно за брамаю*
*апостала Пятра.*

# Навальнічная лямпа



Вечаслаў КАЗАКЕВІЧ

**Здаралася ўвечары зашумець дажджу — пачыналіся прыгоды. Страказа, бы прыблудны карабель, падплывала да вакна на шкляных вёслах.**

— Бялізна! — Страшным голасам выгуквала маці.

І ўсе, на злом галавы, кідаліся на падворак.

Міця ведаў, калі на вяроўкі накідваецца вымытая бялізна, адразу падкрадаецца дождж. Маці лаяла дождж за неўразумелую ахвоту да яе выкручаных рэчаў. Але, магчыма, ён прасіўся да яе ў памочнікі, каб яшчэ раз спаласнуць бялізну.

Парасон у хаце быў толькі адзін. І той паламаны і крываваты, як трухлявая хатка. Калі яго з намаганнем адкрывалі, з яго вылазілі сталёвыя пруткі, нібыта парасон збіраўся не пад дождж, а ў гурток вязання.

Губляючы прышчэпкі, маці бязлітасна адбірала ў вяровак прасціны і накідвала іх на бацьку, нібы бурнос. Бацька марна адбіваўся:

— Пачакай, я нічога не бачу!

— Міцька, — не зважаючы на яго, загадвала маці. — Бяжы ў сад, падапры кійком дзверцу склепа!

Міця бег у сад, які размаўляў з дажджом, і, чым вышэй выцягвалася вакол яго трава, тым болей быў шчаслівы.

Цёмна-фіялетавая хмара нібыта языком злізвала з неба рэшткі сонца і парушынкі галак. За языкастай хмарай праглядалася іншая, злавесна-шызая, шматслаёвая, падобная на агромністую старую порхаўку.

— Ой, навальніца будзе! — прарочыла маці.

— Без панікі! — заклікаў бацька.

Па-курынаму атрасаючыся, наўючаныя бялізнай, нібы вярблюды, яны заскоквалі ў калідор. Дзвярны кручок дзюбаў жалезнае колца.

У пацямнелым пакоі загараўся абажур. Маці рэзка тузанула дрот радыё з разеткі. Радыё, быццам яму вырвалі язык, нямела. З трэскам зачыняліся форткі. Маці была цвёрда пераканана, што адчыненыя форткі і ўключанае радыё прыцягваюць да сябе маланкі.

Дождж шумеў усё гучней. Удалечыні ўжо патрэсквала і пагрымлівала, нібыта там сутыкаліся гіганцкія більярдныя шары.

— Усе кветкі палягуць, — бедавала маці.

— Усю бульбу паб'е, — адказваў бацька.

Страказа ўжо не настаўляла ў вакно пукатыя насавыя тэлескопы. Верагодна, яна забілася пад дах і перадавала на сваю планету тэрміновае паведамленне, што трапіла пад незвычайнае мора, што перарываецца і стаіць адносна зямной паверхні амаль вертыкальна. На чужой мове гэта гучала так: «Гыр, мыр, карамыр, сыр-сыр!»

Знянацку ўспыхвала такая велізарная маланка, што ўсе слеплі.

— Не маланка, а белая гарачка! — паблажліва заўважаў бацька, які любіў усё вялікае і моцнае.

— Зараз як ударыць... — прыціскала маці руку да сэрца.

І насамрэч чуўся такі выбух, што, здавалася, хата абрынецца.

Новая маланка лезла ў вочы, нібы іскрыстае павуцінне. Шыбы ў вокнах хісталіся ад грому. Маланкі выглядалі расколінамі ў небе, праз якія можна было ўбачыць іншы свет. Варта было толькі прыкласці вока да іскрыстай расколіны.

Тут абажур патухаў. На імгненне ўсе камянелі ад нечаканасці.

— Паглядзі пробкі, — прамаўляла цемра матчыным голасам.

Пробкі былі на месцы.

— Тэлефануй на падстанцыю, — працягвала маці.

Бацька шамацеў тэлефонным даведнікам. Запалка апякала яму пальцы, і ён з праклёнамі ўпускаў яе на падлогу.

— Ты мне хату спаліш! — адбірала ў яго маці пачак.

— Падстанцыя? — крычаў у тэлефонную трубку бацька. — Як не падстанцыя? А хто гэта? Ветэрынарная станцыя? Пры чым тут ветэрынарная станцыя?

Ён ізноў круціў тэлефонны дыск і, дазваніўшыся, засмучана даведваўся, што на лініі аварыя.

— Ну ўсё! — шпурляў ён трубку. — Праграму «Час» сёння не паглядзіш!

— І фігурнае катанне, — дадавала маці.

Свечак у хаце не было. Магчыма, бацька лічыў, што яны



Фота www.prib.life

пасуюць толькі абраза́м і бабулькам. А паколькі і тыя, і тыя ў гаспадарцы адсутнічалі, дык і свечак не куплялі.

Затое мелася старая газавая лямпа, што захоўвалася разам са слоікамі з сочывам. Зразумела было, што яна рабіла сярод іх: лямпа пахла саладзей за сочыва.

— Ідзі ў камору, — адпраўляла маці бацьку.

Бацька прыносіў лямпу, здымаў з яе шкляную колбу і запальваў кнот. Мятлушка-лімонніца ўзнікала ў яго далонях. Маці асцярожна працірала колбу белай анучкай. Пераймаючы ад анучкі чысціню, шкло паскрыпвала інакш, чым канапа ці чаравікі. Колба размаўляла такім тоненькім камарыным галаскам, што хацелася павесці яе ў госці да цвыркуноў.

Бацька ўстаўляў бліскучае шкло ў зубчастае металічнае венца, якое атачала кнот, колцам павялічваў агонь, і прывідна-жоўтае святло залівала пакой. Такое святло, калі прыглядзецца, выпраменьваюць спелыя антонаўкі.

Жоўтая пустэльня акружала стол. Вешалка на сцяне і табурэтка пад ёй адступалі ад лямпы. Рэчы, як бандыты, любяць цемру.

— Не паднось руку да лямпы зверху, — папярэджваў сына бацька.

Міця і сам ведаў: набліжаць далонь да верхняй адтуліны шкла недарэчней, чым закрываць рукой вывяржэнне вулкана. Але ўсё-роўна хацелася гэта зрабіць.

— Пачытаем услых, — бадзёра казаў бацька і прыносіў з залы гарчычнага колеру кнігу.

Лямпа выклікала дух Гогаля. Гэтым Гогалем бацька асабліва ганарыўся. Кожны раз, дастаючы яго, ён не мог стрымацца, каб не прыгадаць, як яму пашэнціла.

— Зайшоў на кірмашы ў кнігарню. А там усе шэсць тамоў стаяць на прылаўку, шпагатам звязаныя... Падрыхтавалі для некага па блату. Я палец у пяцельку і да касы: «Прадаецца? Колькі?». І выйшаў як па паветры!

Міця быў перакананы: кірмашнага Гогаля, патрапанага, пакарабачанага, напаўз'едзенага чытачамі і мышамі, з паліняльым шрыфтам і старонкамі з кепскай паперы, запоўненымі плямамі тлушчавага, чайнага і нявызначанага паходжання, відавочна звязалі для здачы ў макулатуру і надта ўзрадаваліся, калі на яго знайшоўся пакупнік.

І ўсё ж ён з задавальненнем слухаў знаёмы расповед, выразна ўяўляючы перад сабой падрапаны драўляны прылавак і стосік кніг, перахопленых шпагатам, да якіх з роблена-абыякавым выглядам кіруецца бацька. Вось ён утыкае палец у пустэчу, атачаную вяровачнай пятлёй, і з годнасцю падыходзіць да прадавачкі.

Свайго ўлюбёнага «Тараса Бульбу» бацька чытаў услых толькі тады, калі патухала святло. Электрычнасць прападала рэгулярна, але не надта часта. Таму бацька пастаянна забываўся, на якім месцы спыніўся. Выпадковыя паперкі і запалкі, што засоўваліся ў кнігу замест закладак, бясследна зніклі. Мажліва, іх раскрадалі гаспадарлівыя казакі.

Але нумар старонкі быў не такі ўжо важны. Міця даўно ўжо прачытаў «Тараса Бульбу» і нават паплакаў напрыканцы, калі Тараса схапілі ў палон і ланцугамі прыкавалі да вогненнага дрэва. Навошта ён нахіліўся па сваю люльку? Усё ж такі паленне — шкодная звычка!

Бацька чытаў у асобах. Ён нюхаў лямпу, як лазутчык-татарын, раскідваў рукі, як п'яны запарожац, намагаўся станчыць гапака, іржаў па-конску, біўся на кулаках, пакуль яго не супакойвала маці. Народны артыст прападаў у ім! Ён бы чыгунную гармату паспяхова паказаў, калі б замест яго гэтую ролю не ўзяў на сябе гром.

— Усё залье, — уздрыгвала маці. — Рабінавая ноч будзе!

«Казакі яшчэ толькі запальваюць і раскурваюць свае люлькі!» — з пачуццём чытаў бацька.

Незразумела было, чаму ноч з навальніцай называлася арабінавай. Але гучала гэта пагрозліва. Мроілася чорная цемрадзь з вогненнымі плямамі. А вось залева з усімі сваімі вынікамі Міцю не палохала. У глыбіні душы ён нават хацеў, каб дождж ліўся ўсю ноч, увесь дзень, увесь тыдзень...

Звычайны дождж — без рук, без ног, без галавы, з адным толькі шоргатам за душой, што мірна шпокаў у забытым у агародчыку эмаліраваным тазіку і адараў паветранымі шарыкамі любую лужыну, каб яна ўзляцела, мог лёгка ператварыць Зямлю ў суцэльны акіян.

Міця разумеў, што пад вадой знікнуць палеткі з трактарамі і пшаніцай, заводы і фабрыкі. Але вось дзіўна: яго зусім не займала, што стане з трактарамі і заводамі. Нават пра іх прысядзібны ўчастак з бульбай і кветкамі, якія немінуча ператворацца ў тапельцаў, ён не думаў.

Пад шоргат дажджу ўтульна было ўяўляць, што іх драўляная хата не патоне, а паплыве па хвалях, як быццам так і трэба. З цаглянага коміна будзе выходзіць дым, як у парахода. Разам з сям'ёй адправяцца ў плаванне галубы на гарышчы, слоікі з сочывам, зламаны парасон і пажоўклы Гогаль з фрызурай, як у Махно. Можна будзе проста з ганка лавіць рыбу!

Бацька тым часам асаджаў горад Дубна. Жыхары ўжо елі зямлю. Міця аднойчы пакаштаваў зямлю. Есці яе было немагчыма.

Парывісты Андрый з мяшкамі хлеба прабіраўся падземным ходам у горад, уваходзіў у высокі дом, ахоплены сном, як зачараваны замак, паўставаў перад палячкай, якой павінны былі прыслугоўваць анёлы, і вымаўляў страшныя словы: «Што мне бацька, таварышы і айчына? Няма ў мяне нікога!».

Міця ведаў, што Андрый загіне, ужо загінуў! І насуперак волі шкадаваў яго, без памяці закаханага, прыбранага перад смерцю ў залатую браню. «Знайшоў каго шкадаваць! — палымнела шкло лямпы. — Здрадніка!». Але спачуванне да нядаўняга шкаляра, што лазіў у кіеўскія сады па яблыкі, не пакідала Міцю.

Яму здавалася, што і самому Гогалю таемна больш падабаўся перабежчык Андрый, чым яго занудны брат і астатнія казакі. Толькі прызнацца ў гэтым ён не мог. Скажы пра сваю шкадобу Міця, нічога б не было. Можа, маці папярэдзіла б, што ў школе такое гаварыць нельга. А бацька б толькі паморшчыўся і сказаў «Вушы вянуць!». Але калі б Гогаль прызнаўся, што ён за Андрыя, не прадавалі б яго звязанага на кірмашы.

— Чытакі, — папярэджвала маці. — Заўтра не прачнецеся!

Бацька сцягваў з цыгарэтнага пачка цэлафанавую абгортку і клаў яе ў кнігу. Падарожны казак з аселедцам падбіраў лёгкую здабычу, пагардліва яе разглядаў і, неахайна скамячыўшы, надзімаў і шпокаў цэлафанавым пухірам аб далонь.

Гром грымеў за ваконнай фіранкай.

Прайшло шмат гадоў. Як яно і павінна было здарыцца, Міця здрадзіў сваёй радзіме. Але ж ад яго радзімы нічога не засталося. Захавалася толькі іх старая драўляная хата. Нават дым над цагляным комінам не разбурыўся.

Ранкам Міця выходзіць на ганак і збіраецца памыцца. Але спачатку бярэ старую раскудлачаную швабру і адпіхае ёю велізарную надакучлівую белую акулу.

**Пераклад з рускай мовы Веры Лойка**

# Мой бацька ідзе ў пажарнікі



Бруна ШУЛЬЦ
(1892–1942)

У першыя дні кастрычніка мы з маці вярталіся з лецішча, што знаходзілася ў суседнім дэпартаменце, у лясістым прырэччы Слатвінкі, наскрозь працятым крынічным пошумам тысячы струменяў. Усё яшчэ захоўваючы ў вушах расшыты птушыным цвырканнем шолах алешын, мы ехалі ў вялікай старой калымазе, што разбухла ў вялізны будан — рыхтык цёмны разложысты шынок, — заціснутыя клункамі ў глыбокім, высланым аксамітам заглыбленні, куды праз акно карта за картай падалі каляровыя карціны пейзажу, нібы іх паволі тасавалі ў руках.

Пад вечар мы прыехалі на выдзьмутае вятрамі плато, на вялікае здзіўленае раздарожжа краю. Неба над гэтым раздарожжам стаяла глыбокае і задыханае, паварочваючыся ў зеніце каляровай ружай вятроў. Тут была самая далёкая застава краю, апошні паварот, за якім у доле адкрываўся разлеглы і позні восеньскі краявід. Тут была мяжа, тут стаяў стары спарахнелы памежны слуп з зацёртым надпісам і граў на ветры.

Вялікія абады калымагі зарыпелі і захраслі ў пяску, балбатлівыя бліскучыя спіцы замоўклі, і толькі вялікі будан глуха грукатаў і цёмна паляпваў на крыжовых вятрах раздарожжа, быццам аселы на пустках каўчэг.

Маці заплаціла мыта, шлагбаўм заставы падняўся, і тады калымага цяжка ўехала ў восень.

Мы выкаціліся ў звялую нуду вялізнай раўніны, у выцвілае і бледнае веянне, што адчыняла тут, над жоўтай далеччу, сваю ціхамірную і бясколерную бясконцасць. Нейкая позняя і бязмежная вечнасць паўставала з пабляклых даляў.

Як у старым рамане, перагортваліся зжаўцелыя старонкі краявіду, усё больш бледныя і бяссільныя, быццам мусячы скончыцца нейкай вялікай развеянай пустэчай. У гэтым развеяным небыцці, у гэтай жоўтай нірване мы маглі выехаць за межы часу і рэчаіснасці і ўжо назаўсёды застацца ў тым краявідзе, у тым цёплым няплодным веянні — нерухомы дыліжанс на вялікіх колах, захраслы сярод аблокаў на пергаміне неба, старая ілюстрацыя, забытая ў старасвецкім рассыпаным рамане гравюра, — але вазніца з апошніх сілаў тузануў лейцы, вывеў калымагу з салодкай спячкі гэтых вятроў і павярнуў у лес.

Мы ўехалі ў густую і сухую пышнасць, у тытунёвае завяданне. Неўзабаве вакол нас зрабілася ўтульна і карычнева, як у скрынцы «Trabucos». У тым кедравым паўзмроку нас праміналі камлі дрэў, сухія і пахкія, як цыгара. Мы ехалі, лес усё больш цямнеў, усё больш пахнуў водарным тытунём і ўрэшце замкнуў нас — быццам у сухім корпусе віяланчэлі, якую глуха настройваў вецер.

У вазніцы не было запалак, і ён не мог павесіць ліхтар. Сапучы ў цемры, коні знаходзілі дарогу інстынктыўна. Маці заснула. Час, нязлічаны, сплываў, творачы ў сваім сплыванні дзіўныя вузлы, абрэвіятуры. Цемра была непранікальная, над буданом яшчэ гудзеў сухі шум лесу, як раптам зямля пад капытамі коней збілася ў цвёрды вулічны брук, павозка павярнула на месцы і спынілася. Спынілася так блізка ад сцяны, што ледзь яе не зачапіла. Насупраць дзверцаў калымагі маці намацала ўваход у дом. Вазніца выгружаў клункі.

Мы ўвайшлі ў вялікую разлапістую вітальню. Там было цёмна, цёпла і ўтульна, як у старой пустой пякарні на досвітку, калі ў печы ўжо дагарэла, або як у лазні позняй ноччу, калі ў цемрадзі, у цішы, што адмяраецца гукам кропель, стынуць пакінутыя ночвы і цэбры. Цвыркун цярпліва выпорваў з цемры падманлівыя швы святла, ніклыя шыўкі, ад якіх не рабілася святлей. Мы навобмацак знайшлі сходы.

Калі на павароце дасягнулі рыплівай пляцоўкі, маці прамовіла:

— Прачынайся, Юзаф, ты падаеш з ног, яшчэ толькі некалькі прыступак.

Але я, сонны і непрытомны, прытуліўся да яе мацней і глыбока заснуў.

Ніколі потым я не мог дазнацца ў маці, колькі рэальнага было ў тым, што бачыў я ў тую ноч праз заплюшчаныя павекі, змораны цяжкім сном, зноў і зноў правальваючыся ў глухое забыццё, а колькі — плодам майго ўяўлення.

Была там нейкая вялікая спрэчка паміж маім бацькам, маці і Адэляй, пратаганісткай той сцэны, спрэчка, якая, як я цяпер здагадваюся, мела надзвычайнае значэнне. Калі маé спробы адгадаць яе няўлоўны сэнс усё яшчэ застаюцца марнымі, то вінаваціць у гэтым, несумненна, варта прабелы ў маёй памяці, сляпыя плямы сну, якія я намагаюся запоўніць выдумкай, здагадкай, гіпотэзай... Ноч дыхала чыстымі пульсамі і раптоўна скідвала празрыстую заслону зор, звысоку зазірала ў мой сон старым сваім і вечным тварам. Заблытаўшыся ў маіх вейках, промень далёкай зоркі разліваўся срэбрам па сляпым бялку вока, і скрозь шчыліны павек я бачыў пакой у святле свечкі, што завязла ў блытаніне залатых ліній і зігзагаў.

Зрэшты, гэтая сцэна магла адбыцца і ў іншы час. Многае паказвае на тое, што я быў яе сведкам нашмат пазней, калі ў нейкі дзень мы з маці і прыказчыкамі вярталіся пасля закрыцця крамы дадому.

На парозе нашага жытла маці выдала здзіўлены і захоплены крык, прыказчыкі аслеплі і анямелі. У сярэдзіне пакоя стаяў цудоўны масянжовы рыцар, сапраўдны святы Юр'я, узвялічаны кірасай, залатымі шчытамі нараменнікаў, усім звонкім рыштункам адпаліраваных залатых бляx. Уражаны і радасны, я пазнаў бацькавы натапыраныя вусы і ўскудлачаную бараду, што тырчалі з-пад цяжкага прэтарыянскага шлема. Панцыр хадзіў ходырам на яго ўзбуджаных грудзях. Узбуйнелы ад зброі ў бляску залатых бляx, ён быў падобны да архістратыга нябесных войскаў.

— На жаль, Адэля, — прамовіў бацька, — ты ніколі не разумела праблемы найвышэйшага парадку. Усюды і заўсёды ты перакрэслівала мае пачынанні выбухамі бяздумнай злосці. Але закуты ў зброю, сёння я смяюся з казытання, якім ты даводзіла безабароннага да роспачы. Бяссільная лютасць змушае цяпер твой язык да вартай жалю балбатні, бязглуздасць і грубасць якой мяшаюцца з дурасцю. Павер, яны напаўняюць мяне толькі сумам і спачуваннем. Пазбаўленая высакароднага палёту фантазіі, ты гарыш неўсвядомленай зайздрасцю да ўсяго, што ўзносіцца над звычайнасцю.

Адэля змерыла бацьку поўным бязмежнай пагарды поглядам і, звяртаючыся да маці, абураным голасам прамовіла:

— Ён забірае ўвесь наш сок! Выносіць з дому бутлі з малінавым сокам, які мы разам нагатавалі гэтым летам! Хоча аддаць яго на выпіванне тым нягоднікам-пампавальнікам. І ў дадатак абсыпае мяне грубасцямі.
— Адэля коратка ўсхліпнула.
— Капітан пажарнай каманды, капітан шалапутаў, — крычала яна, змяраючы бацьку поўным нянавісці позіркам. — Яны тут усюды. Калі я ранкам хачу спусціцца па хлеб, то не магу адчыніць дзверы. Ну вядома — двое з іх заснулі ў вітальні на парозе і заблакавалі выхад. На сходах, на кожнай прыступцы ляжыць адзін у касцы і спіць. Напрошваюцца ў кухню, сунуць у дзвярныя шчыліны свае трусіныя твары ў масянжовых бляшанках, казыраюць двума пальцамі, як вучні ў школе, і ўмольна хныкаюць: цукру, цукру... Вырываюць у мяне з рук вядзерца і бягуць па ваду, танцуюць вакол, заляцаюцца, ледзь хвастамі не віляюць. А да ўсяго раз-пораз лыпаюць чырвонымі павекамі і агідна аблізваюцца. Толькі глянеш па-хуткаму на каторага з іх, а ў яго ўжо пухне твар бессаромным мясам, як у індыка. Даваць такім наш малінавы сок!..

— Твая прымітыўная натура, — прамовіў бацька, — брудзіць усё, да чаго дакранаецца. Ты накрэсліла вобраз гэтых сыноў агню, варты твайго дробязнага глузду. Што да мяне, то ўся мая сімпатыя належыць гэтаму нешчасліваму роду саламандраў, гэтым бедным абяздоленым вогненным істотам. Уся віна гэтага цудоўнага колісь роду палягае ў тым, што яны падаліся да людзей на службу, прадаліся за лыжку ўбогай чалавечай ежы. За гэта ім аддзячылі пагардай. Дурасць плебсу не мае меж. Гэтых далікатных істот давялі да заняпаду, да канчатковай дэградацыі. Чаго ж дзіўнага, што ім не смакуюць харчы, гэтыя моташлівыя прасцецкія харчы, што гатуе жонка школьнага вартаўніка для іх і гарадскіх арыштантаў у агульным катле? Іх паднябенне, далікатнае і геніяльнае паднябенне вогненных духаў прагне высакародных і цёмных бальзамаў, водарных і каляровых флюідаў. Таму ў гэтую святочную ноч, калі мы сядзем у вялікай зале гарадской Стаўрапігіі за накрытыя белым сталы, у зале з высокімі, ярка асветленымі вокнамі, што кідаюць свой бляск углыб восеньскай ночы, а горад навокал раіцца тысячамі агнёў ілюмінацыі, кожны з нас будзе з піетэтам і гурманствам, уласцівымі сынам агню, мачаць булку ў кубак з малінавым сокам і паволі папіваць гэты высакародны і густы эліксір. Такім чынам падмацуецца ўнутраная сутнасць пажарніка, адродзіцца багацце колераў, якія гэты люд вывяргае з сябе ў выглядзе феерверкаў, ракет і бенгальскіх агнёў. Душа мая поўніцца жалем да іх убоства, да іх незаслужанага заняпаду. Калі я і прыняў з іх рук капітанскую шаблю, то толькі ў надзеі, што мне ўдасца выцягнуць гэтае племя з нэндзы, вызваліць ад прыніжэння і развярнуць над імі штандар новай ідэі.

— Ты так змяніўся, Якуб, — прамовіла маці, — ты цудоўны. Ты ж не сыйдзеш з дому на ноч? Не забывай, што з моманту майго вяртання ў нас не было магчымасці нармальна паразмаўляць. А што да пампавальнікаў, — прамовіла яна, звяртаючыся да Адэлі, — то мне сапраўды здаецца, што ты кіруешся нейкай перадузятасцю. Яны мілыя хлопцы, хай сабе і нягоднікі. Я заўсёды з прыемнасцю гляджу на гэтых рослых маладзёнаў у зграбных мундзірах, хіба што трошкі перацягнутых у поясе. У іх столькі натуральнай элегантнасці, а іх старанасць ды імпэт, з якім яны штохвіліны гатовыя ўслужыць да́мам, так кранаюць... Колькі б у мяне на вуліцы ні выпадаў з рук парасон, колькі б ні развязваўся на чаравічку матузок, хтосьці з іх заўсёды тут як тут, поўны хвалявання і палкай гатоўнасці. Калі, выканаўшы свой рыцарскі абавязак, ён адыходзіць, яго тут жа акружае натоўп прыяцеляў, жыва абмяркоўваючы інцыдэнт, прычым герой жэстамі паказвае, як усё адбывалася.

**Яны тут усюды. Калі я ранкам хачу спусціцца па хлеб, то не магу адчыніць дзверы. Ну вядома — двое з іх заснулі ў вітальні на парозе і заблакавалі выхад. На сходах, на кожнай прыступцы ляжыць адзін у касцы і спіць**

— А вось я лічу іх дармаедамі, — прамовіў старшы прыказчык Тэадор. — Мы ж не пускаем іх тушыць пажары праз іх дзіцячую безадказнасць. Варта толькі паглядзець, з якой зайздрасцю яны звычайна спыняюцца перад групай хлопчыкаў, што забаўляюцца, кідаючы ў сцяну гузікі, каб ацаніць сталасць іх трусінага розуму. Як толькі з вуліцы даляцае дзікі галас гульні, можна не сумнявацца: вызірнуўшы ў акно, сярод хлапечага натоўпу напэўна заўважыш гэтых захопленых і ступленых абібокаў, амаль непрытомных ад шумлівай бегатні. Убачыўшы пажар, яны шалеюць ад радасці, пляскаюць у далоні і танцуюць як дзікуны. Не, залучаць іх да тушэння пажараў не варта. Гэтым займаюцца камінары і гарадскія міліцыянеры. Пампавальнікам застаюцца толькі гулянні і народныя святкаванні — вось тады яны незаменныя. Напрыклад, восенню, пры т. зв. штурме Капітолія на цёмным досвітку, яны пераапранаюцца карфагенянамі і з пякельным галасам абложваюць Базыльянскі пагорак. Усе тады спяваюць «Hannibal, Hannibal ante portas» (Ганібал, Ганібал ля брамы! (лац.)).

А пад канец восені яны робяцца лянівымі і соннымі, засынаюць стоячы, а калі выпадае першы снег, іх ужо амаль не ўбачыш. Адзін стары пячнік расказваў, што, рамантуючы коміны, знаходзіць іх у канале дымахода — яны чапляюцца за сценкі і ў сваіх пурпуровых мундзірах і бліскучых касках дранцвеюць, як кукалкі. Так яны і спяць, стоячы, напіўшыся малінавага соку, поўныя ўнутры ліпкай слодычы і агню. Тады іх, п'яных ад сну і непрытомных, выцягваюць за вушы і адпраўляюць у казармы па ранішніх восеньскіх вуліцах, каляровых ад першых прымаразкаў, а вулічны зброд кідаецца ў іх камянямі...

— Як бы там ні было, — прамовіла Адэля, — соку я ім не дам. Не дзеля таго псавала я сабе на кухні скуру, гатуючы яго, каб гэтыя нягоднікі выпілі.

Замест адказу мой бацька падняў да вуснаў свісток і пранізліва свіснуў. Увайшлі чатыры рослыя маладзёны, якія быццам толькі што падслухоўвалі праз адтуліну для ключа, і пашыхтаваліся ля сцяны. У пакоі пасвятлела ад бляску іх касак, і яны, стаўшы па-вайсковаму, чакалі загаду. На знак бацькі двое з іх схапілі з абодвух бакоў вялікую аплеценую лазой бутлю з пурпуровай вадкасцю і перш, чым Адэля паспела ім перашкодзіць, з тупатам збеглі па сходах. Двое астатніх па-ваеннаму пакланіліся і сышлі следам за першымі.

Нейкае імгненне здавалася, што Адэля вось-вось дазволіць сабе нешта безадказнае — такія ў яе прыгожых вачах бліскалі маланкі. Але бацька не чакаў выбуху яе гневу. Ён адным скачком аказаўся на падаконні і раскінуў рукі. Мы пабеглі за ім. Рынак, густа засеяны агнямі, раіўся каляровымі натоўпамі. Пад нашым акном восем пажарнікаў расцягнулі колам вялікі кавалак парусіны. Бацька яшчэ раз павярнуўся, бліснуў усёй сваёй раскошай рыштунку, моўчкі нам адсалютаваў, а затым з раскінутымі рукамі, яркі, як метэор, скокнуў у ноч, што палымнела тысячай агнёў. Гэта было такое прыгожае відовішча, што мы ўсе захоплена запляскалі. Бацька тым часам спружыніста саскочыў з парусіны і, з трэскам страсянуўшы бляшаныя шкарлупіны, стаў на чале атрада, які, раздзяліўшыся на двойкі, расцягнуўся ў маршы доўгай калонай і паволі аддаляўся ўздоўж цёмных шпалераў натоўпу, паблісквaючы масянжовымі бляшанкамі касак.

**Пераклад з польскай мовы**
**Ганны Янкута**



Людміла АНДЗІЛЕЎКА

# Два аповеды




## Стары

Рыхтавацца на базар ён пачынаў ужо з вечара серады. Апаражняў заплечнік, шматлікія яго кішэні ад лішняй, непатрэбнай у чацвер драбязы. Лічыў грошы, адпушчаныя на трату. Аглядаў, чысціў ровар. Мыў загадзя лепшыя штаны, вытрасаў-выбіваў у двары на дроце сваю адзіную на ўсе выпадкі жыцця і пагоды камуфляжную ватоўку.

Базар з'язджаўся ў Падсвілле раз на тыдзень, заўсёды ў чацвер, і прапусціць яго стары не мог. Гэты адзін дзень з тыдня ён рабіў сабе выходным, амаль што, бо пад вечар зноў вяртаўся ў буданчык «два на тры», дзе каторы год праходзіла яго жыццё з двухразовым на дні веласіпедным марш-кідком на чатыры кіламетры праз лес да сваёй хаты — пакарміць рабога ката Юзіка.

Кот быў малады, дужы і запраста мог абысціся без падкормкі: лоўшы быў кот — мышэй цягаў, складаў ля ганка «штабялямі», але прывык да ласкі і сумаваў, калі гаспадару не выпадала ўкрасціся са службы і дастацца, каб перамовіцца, пачасаць за вухам, напомніць, як завуць. Стары хоць на паўгадзіны, хоць на дваццаць хвілін, але заўсёды адмыкаў замок на дзвярах сенцаў, запускаў ката ў хату «паганяць дзіч, каб не завялася здань», прысядаў на ложак, падзываў ката — той і сам бы прыбег, ускочыў, ды не насмельваўся парушаць заведзены парадак, заглядаў у вочы, цярпліва чакаў, калі гаспадар пачне паляпваць па сваім сцягне шырокай загарэлай даланёй — сігаў на пеліну, будыкаўся, цёрся: стары гладзіў каціную спіну, бліскучую, выгінастую — той удзячна працягла мурлыкаў.

Яшчэ адным чацвярговым рытуалам было купіць «Віскі», так гаспадар называў каціны корм любой маркі. Пад заканчэнне базару ён абыходзіў усе прыватныя крамкі пасёлка, пачынаў ад лёнзаводаўскіх пяціпавярховікаў, дзе стаяў павільёнчык пад назвай «Корзинка», там заўсёды быў «каціны халадзец». Стары запіхваў бліскучыя каляровыя пакецікі ў левы вонкавы кішэнь заплечніка і радаваўся, здаецца, больш за ката, бо той не надта гнаўся за фірмовымі прысмакамі, але заўсёды з'ядаў пакладзенае ў міску — да апошняга скрылька, у знак павагі і ўдзячнасці гаспадару.

Затым стары ішоў у «Партнёр», такую ж багатую і поўную разнастайным асартыментам прыватную крамку ў цэнтры пасёлка насупраць універмага. Тую ж, што стаяла на адным баку з універмагам, — «Віларa» — звычайна мінаў. Толькі калі батарэйкі ў ліхтары замяніць, ці мух многа завядзецца ў службовым будане, тады зазірне набыць ліпучку, а так — шмацце яго не цікавіла. Апошняй, на самым выездзе з пасёлка, у драўляным будынку панскіх часоў, месцілася крама Калакольцаў, так звалі яе жыхары па прозвішчу гаспадара, сама ж крама назвы не мела. Яна цанілася тым, што стаяла ля бальніцы, і ў яе прыбягалі хворыя ў шэрых фланэлевых халатах; бальнічныя і былі тут заўсягдатаямі-пакупнікамі, то можна было сустрэцца з даўнім знаёмым, каго дарэмна лічыў пакойнікам, а во табе — жывы чалавек, кратаецца яшчэ пацiху. Такі ўжо век, восемдзесят тры — не жарт! Не сёння — заўтра рыхтуйся сам і будзь гатовы пачуць усякае.

Падсвілле гуло ў базарны дзень. З усіх вёсак з'язджаўся люд, хто закупіцца — хто што прадаць «з гаспадаркі». Пастаіць, паслухае ля таго, ля таго — тут і поўдзень настае, базар пасля першай гадзіны пачынаў складацца, зварочвацца. Вось тады і вяртаўся стары ў самую галоўную краму ў цэнтры на «біржы», тут, у былым пры саветах рэстаране «Бярозка» адкрылі новую кропку «Вин-кон». Назва шыфравала высокае начальства він і кансервавага заводаў. Крама лічылася найвыгаднейшай. Яе не міналі ні мясцовая эліта, ні пралетарый, ні «пан», ні калгаснік, ні апошні жабрак. Тут налівалі з краніка, падвозячы з варот завода трактарам напрасткі акуратненькую пузатую цыстэрначку, запраўлялі праз шланг спецыяльна ўсталяваную ў магазіне ёмістасць — культурна абслугоўвалі насельніцтва; тут прадавалі віно ў маленечкіх, нібы ёгурт, пластыкавых «службовіках» па сто-дзвесце грамаў, пад фольгавай накрыўкай — вынесь, пі за рогам ці ў скверыку, што насупраць. Толькі тут прадавалі не з-пад палы — як ва ўсіх іншых магазінах пасёлка, а адкрыта і без пароляў сваё мясцовае харошае віно. Стары браў сабе пару бутэлек моцнага.

Сын прывозіў з Мінска сухое — дарагое, «нярускае», у вузкіх, высокіх бутэльках з крута заглыбленым дном — раіў на тое асобна звяртаць увагу, маўляў, гэта і ёсць паказальнік сапраўднасці. «Сікі-сікамі — тваё дарагое віно!» — выплёўваў стары «сцулі» з рота і наліваў свайго, і ніколі не даваў веры ніякім «паказальнікам», акрамя ўласнага смаку; ні чужым пахвальбам, ні тэлевізійнай рэкламе: паспытаеш — пазнаеш.

Ён даўно мог лічыцца глыбокім пенсіянерам. Ды пашэнціла яму праз сына атрымаць месца вартаўніка сядзібы якогась сталічнага бізнесоўца. Чалавек з Мінска паставіў добры дом ля рэчкі ў лесе пры самай шашы. Нейкі час над ім лунаў на флагштоку белы сцяг з чырвоным пасам пасярод. Спачатку вартавых было трое, і заробак давалі сур'ёзны. Потым грошы ўрэзалі, а хутка і зусім пакінулі чвэрць ранейшага — ніхто не згаджаўся вартаваць за такі заробак. Стары застаўся адным, на каго хапіла ў мясцовага раённага начальства якойсьці сакрэтнай чвэрцьстаўкі пад аплату яго службы. Гаспадара, казалі, пасадзілі, а дом жа не кідаць «бясхозным» — прыйшлася сядзіба пад адпачынак тутэйшых. Заязджалі з дзяўчатамі ў лазню, спраўлялі застоллі. Так дзед застаўся служыць соднямі, бясспынна. Па шашы снавалі машыны — спыняліся пагаманіць. Стары выходзіў за вароты, слухаў навіны: хто памёр, хто «папаўся», хто «выкруціўся»... Ён выслухваў гаворкі, зрэдку ківаў галавой ці перапытваў, не дачуўшы: «Га?». Праз адзіноту і няўважлівасць да пустых плётак ён зрабіўся тугавухім: «Га? А-а-а...» — ці то згаджаўся, ці то адмахваўся ад нецікавага ён.

Удаўцом хадзіў даўно. Першыя гады яму сваталі кандыдатак, угаворвалі пазнаёміць з жанчынамі, прывозілі здалёк: «Прыглядзіся, будзеш на старасці жыць з «інцілігенткай» — настаўніца!». Ён галіўся, стрыг валасы, ішоў у лазню, прыбіраў у хаце — інтэлігентная настаўніца ў першы вечар знаёмства напівалася, як бэля, і стары не мог дачакацца цягніка, каб выправіць кандыдатку ў належным напрамку. Другая настойліва цікавілася, ці добрая ў яго пенсія? «А ну яе! — злаваў жаніх. — Я ў роднай жонкі ніколі пад пятой не сядзеў — а буду нейкай бабе са свету патураць?!» Сватоў адва́дзіў, але самі кандыдаткі ўпотай не раз прыходзілі на хутар, нават маладуха з-за парты прысунулася пад градусам аднойчы, каб паведаміць, што працуе путанай і бярэ не дорага — за паўцаны згодзіцца. Атрымала пад зад і шуравала цёмным лесам назад у пасёлак: «Хто сам набіваецца, той цаны не назначае!». Пытанне жаніцьбы давялося закрыць.

Інтэліге-енткі... Ды ў яго свая жонка была — Цар-баба! Ён тутэйшы, шафёрам працаваў пры эмтээсе. А яна, хоць нарадзілася ў суседніх мясцінах, — з Харбіну сюды прыехала. Страх — прыгожая! Валасы — хвалямі! Вочы выразныя, вясёлыя! А сама жывая, смелая... Якаясь таямніца вадзілася за ёй... Працавала ў Харбіне з паперамі сакрэтнымі і ніколі за жыццё не пахвалілася — што да чаго... А ён не лез пытацца — халера на іх з іхнімі сакрэтамі! Да жонкі ў сяброўкі набіваліся самыя важныя пані, але ўсё больш з выгадай, даводзілася ёй слугаваць ім: то бульбу дапамажы выкапаць — «я доктар, у мяне дзяжурства», то стравы нагатуй пад свята, то шпалеры паклей, прыбяры пасля рамонта. Быццам яна дзвюжыльная, ці сваёй працы не хапае. Сяброўства! Вось жонка заўсёды ўмела трымацца інтэлігенткай.

Сын, едучы па сваіх сядзібах з Мінска на Браслаўскія азёры, мог заскочыць у вартавую будку, пахваліцца сталічным жыццём, як сабак кормяць «акарачкамі Буша», як чарговы раз купіў-прадаў яшчэ адну кватэру, як грошы лічаць не купюрамі — запячатанымі ляскамі банкаўскай пакоўкі: «Перабі, Міша!» — і слугач яго, пасліняўшы пальцы, доўга шалясцеў у шырокай скуранай сумцы. «Ай, сын, не ўчаствуй ты з імі! — махаў рукой у бок кагосьці нявартага ўвагі і нават назову стары. — Ты лепш людзям памагай. Памагай, чым можаш.» І заўсёды пратэжыраваў яму чарговага прасіцеля, не надаючы ўвагі, што сам прасіцель быў з тых, на каго махала рука старога, і шукаў ён паратунку не ад жабрацтва-гаротнасці — хацеў выкруціцца з няўдалай афёры, якая пагражала на гэты раз кра́тамі.

Сын меў «вялікія сувязі», суадносна «рашаў вялікія пытанні»... Ён хлопчыкам з'ехаў у сталіцу, каб стаць суворaўскім курсантам. Ці адыграла якуюсь ролю сакрэтная таямніца маці, ці не — невядома, бацьку і ў галаву не прыходзіла, што ў тую навучальную ўстанову не ўсіх прымаюць. Што не кожнага з сірот ваенных афіцэраў возьмуць бесперашкодна. Сын не прайшоў стоадсоткава адбор па фізічных патрабаваннях, але курсантам залічылі. Вучыцца — і добра, думаў бацька, паступіў на юрыста — маладзец, працаваць афармілі пры галоўным сталічным аддзеле МУС — таксама не блага: «Старайся жыць, сын».

Сын стараўся: ён пераняў ад бацькі бязмежную цярплівасць, бездамоўнасць перад вышэй стаячым па рангу, звычку жыць па статуту: выконваць, не перапытваць. Прыкладам ад малку застаўся ўспамін, як пасля цяжкай працы ў міжкалгаснай будаўнічай арганізацыі бацька вечарамі мусіў начальству па розных патрэбах — вяселле, народзіны, юбілеі — цягаць браканьерскай сеткай рыбу. Як валіўся на дол выпрастаць скручаную радыкулітам спіну, як цёр збалелыя, сашморганыя да крыві вузлаватай рыбацкай сеткай рукі. Тады і ўелася ў сына гэта цяга: бездакорна дагадзіць начальству.

— Во мабільнік зноў зламаўся, — паведаміў стары сыну, які заскочыў «транзітам» на хвілінку.

— А дзе твой ранейшы? Гэта ж не той, што я прывозіў!

— Дык той нешта зламіўся. Піт забраў яго, мне гэты прывёз, трыста рублёў даў яму.

— Ты што, здурнеў?! За гэты чарапок ніхто шасцідзесяці не заплоціць. Трыста даў!

— А што я панімаю ў гэтых мабільніках? Ён сказаў — трыста, я і даў. Халера з імі, тымі грашмі. Але во і гэты ціліфон ня робіць — мне ён да лямпачкі, табе я званю заўсёды з дамашняга. Але Піт злавацца будзе. Ён па гэтых днях дзеўку возіць у лазню, а мне дазваніцца не зможа...

— Дык няхай за свае грошы купляе табе мабільнік, калі гэта яму нада. Чаму за твае?

— А ну іх, тыя грошы.

— Ты б лепі мне даў...

Стары адшпіліў рамяні заплечніка, сунуў руку ў дальні ўнутраны аддзел, выняў стосік купюр.

— На. Нахалера яны мне. У мяне ўсё ёсць. Адзежы мне не нада. Есці ёсць што, у ката таксама. Нахалера мне грошы?

Сын паклаў цючок у нагрудную кішэню. Міргануў свайму слугачу Мішу:

— Піт! Я ж табе казаў пра яго... Тут у бліжнім калгасе старшынёй быў, дабіў калгас да ручкі — абрабавалі купай звераферму, норак папі...дзілі. За гэта яго на вышэйшы ўзровень паднялі — удасканальвайся! Практыкуйся ў раённым маштабе! Першы намеснік цяпер — гаспадар у раёне!

Стары гаворкі быццам не дачуў. Яго даўно не цікавіла ніякае начальста. У яго жыцці нічога не мянялася ні з тымі прозвішчамі, ні з другімі. Абы работа была. Во без работы — гібель!

— А! Во, забыўся. Піт пытаўся, можа, каму ў Мінску норкі патрэбны на футра?

— Пашлі ты яго на х... з яго норкамі.

Сын вазіў старога да сябе. Пад Мінскам у яго вялікі пляц,

паставіў на ім чатыры будынкі. Але працавалі ў яго адны бадзякі пітушчыя, работнікі з іх — зжалься, Божа, трудоў! Стары прачнуўся рана — лапату ў рукі і траншэю капаць. Да паўдня, пакуль прачнулася брыгада, выкапаў роў — тыдзень капалі б.

— Гэты чай такі дарагі, ты нават уявіць не здольны! — хваліўся сын, частуючы бацьку.

— Дык я, напэўна, з табой, сын, ніколі, не разлічуся...

Сын міргаў свайму слугачу, маўляў, стары зусім з глузду з'ехаў, баіцца — буду грошы спаганяць...

**Магутны мужык**

— Не, бляха муха, — мяне гэта казыча! Ну як яму магла такая клёвая мянушка дастацца?! — Кірык глыбока зацягнуўся і неяк раздражнёна з гукам выдзьмуў цыгарэтны адхон Янусю проста ў твар.

— Ідзі ты! — адмахнуўся той ці то ад дыму, ці то ад пытання. — Табе што, няма чым заняцца, як гісторыю мянушкі высвятляць? — пад канец фразы эмацыйны ціск аслаб, бо Янусь засяродзіўся на нейкім аб'екце ў канцы двара. Яны стаялі на гаўбцы трэцяга паверха, — вызначыць, куды канкрэтна ўглядаецца вочы Яна, не падавалася магчымым.

— Ну ты ж крыху даўней працуеш тут, няўжо не ведаеш, чаму яго так завуць?

— Яго так звалі яшчэ да майго прыходу сюды.

— Трэба ў Адама Папругі запытацца...

— Глядзі, каб ён табе распавёў...

— Чаму — не?

— Адась плёткамі не займаецца: так разане, што цябе «на раз» адвучыць...

...Нікому Восіч не перашкаджаў. Прыходзіў у офіс пунктуальна, абавязковым быў у справах. Далікатна трымаўся з усімі ўзроставымі катэгорыямі. Адно крыху злавала і абяззбройвала зялёную ўніверсітэцкую моладзь, толькі-толькі прыторкнутую стажорамі на выпрабавальны тэрмін у прэстыжную кампанію, якую не раз наведваў «грозны Бацька», характэрная прытоенасць усмешкі і хітраваты позірк блёклых старэчых вачэй Восіча. Калі ў курылцы хтосьці спрабаваў аканфузіць «стараржымнага дзеда» сучаснай камп'ютарнай фішкай, прынесенай са студэнцкай тусоўкі, высвятлялася, што дзед і сам не хіла прасунуты, тырчыць у тэме і валодае сучасным слэнгам не горш кодэра ці прогера.

Працоўны калектыў прадпрыемства, якое за апошнія гады вырасла ў геаметрычнай прапорцыі, патрабаваў быць у рэжыме. Калі чвэрць веку назад з сябрамі, былымі аднакурснікамі, арганізоўвалі яны адну з першых у краіне прыватную кампанію новага накірунку, усе здаваліся роўнымі, ва ўсякім разе, думалася так. Цяпер амаль нікога з былых не засталося, акрамя генеральнага, на чые грошы ўсё абапіралася, і вось самога Восіча. Менавіта гэтым і тлумачыла сабе прысутнасць «лядашчага пенсіянера» ў калектыве нецярплівая моладзь: маўляў, за тое, што плячо ў плячо з зубрамі стаяў ад вытокаў, тут і трымаюць яго з павагі. Вельмі хацелася хутчэй заняць аўтарытэтнае месца ў калектыве, ды змагацца са старым лічылася «не камельфо». Насамрэч, кожны з іх у свой час займеў шанец апячыся перад вопытам, спрытам, кемлівасцю і ведамі дзеда. Карацей, «цярпелі і трымалі» яго тут зусім не за выслугу гадоў. Былыя саратнікі Восіча — хто памёр, хто сыйшоў на пенсію ад імклівага руху электроннага прагрэсу, які даганяць не проста. «На здароўе!» — адказваў Восіч былым калегам, якія агітавалі таксама пакінуць працу, пайсці на заслужаны адпачынак: паказвалі кашы з грыбамі, нахвальвалі ўраджай на лецішчах. Лецішча і Восіч меў, садзіў грады, паліваў сам — жонка гадоў пяць як памерла. Любіў і грыбы збіраць. Усё ў яго ішло без мітусні. Заробак дазваляў дапамагаць сем'ям дарослых дзяцей і паездзіць у вандроўкі па свеце, чаго не мог раней дазволіць сабе на дзяржаўны заробак. І ездзіў у вандроўкі Восіч зусім не ў сумнай адзіноце...

Каханне яго жыцця прычакала Восіча на сходзе гадоў. Блакітнавокую, мініяцюрную Эмілію ён любіў ад студэнцкіх гадоў. Выйшла замуж Эма не за Восіча — за іх агульнага сябра, аднакурсніка, потым калегу, навуковага кіраўніка вось гэтай жа кампаніі: высокага, яскравага Яраша... Восіч ажаніўся на Тасі, роднай Эмілінай сястры. І пражылі вясёлай кампаніяй больш за сорак гадоў, нарадзілі дзяцей, дачакаліся ўнукаў і аўдавелі адзін за адным, спачатку Восіч, а хутка і Эмма.

Па выхадных і святах Восіч рэгулярна гасцюе ў сваячаніцы. Святкуюць разам свае дні народзінаў, дзяцей-унукаў, пляменнікаў, разы тры на год кавалер вывозіць даму сэрца ў замежную вандроўку.

Ёсць... таямніца яго мянушкі.

У калектыве ведаюць: Восічу хапае сто грамаў каньяку, каб асалавець. Тады ружовая лысіна і густа пабарвавелы твар пачынаюць ільсніцца, белы пушок на галаве робіцца яшчэ бялейшым, тырчыць у розныя бакі, бы намагнічаны, у такі момант яго прытомлены гадамі арганізм, дзе б яго ні застаў хмель, патрабуе адкінуцца на паўгадзіны для адпачынку.

Неяк генеральны дырэктар кампаніі ў момант прыліву сентыментальнага ўспаміну юнацтва ўздумаў наведаць ветэрана-аднакурсніка. Ён зазірнуў у кабінет без асаблівай патрэбы, без справы — так, па-сяброўску, і тут яго вачам адкрылася выразная карціна: на працоўным месцы, проста за сталом спаў вядучы спецыяліст кампаніі. Офісны кампутар, «зараджаны парнаграфічнай кінастужкай», дэманстраваў актыўны сэкс, на экране манітора шчыравалі спатнелыя партнёры, ля ног Восіча ляжала маленькая парожняя пляшачка з-пад каньяку. Генеральны торкнуўся па інерцыі ўглыб кабінета, потым спыніўся, пахітаў галавой і выйшаў, шчыльна закрыўшы за сабой дзверы.

— М-могу-учий мужик! — пачулі на калідоры выпадковыя сведкі.

І падхапілі... Хутка мянушка прыжылася, а Восіч, здаецца, не даведаўся пра няўдалы візіт начальніка. Пачуўшы два гэтыя прыемныя словы, Восіч палічыў за права прыняць іх як ганаровы статус, належную і зусім не беспадстаўную ўзнагароду за доўгія працоўныя поспехі на прадпрыемстве.

# Тугі вузел

**Мініяцюры**



Мікалай МАРОЗ

***

Хтосьці думае, што за грошы можна купіць усё. Але мінулае не купіш.

А трызніць такой паталагічнай думкай той, хто не хоча ашчасліваць сённяшні дзень і наблізіць шчаслівы заўтрашні.

Ён жыве мінулым, а значыць, адсталым, збеглым.

Важна падтрымаць жывога, а не нябожчыка...

***

Каму мы цягалі ўсё жыццё каштаны з агню? Хто ўсё жыццё трымаў нас у паслушэнстве, рабіў з нас рабоў, нажываўся праз нас, даводзячы, што робіць нас шчаслівымі і вольнымі?

А рабілі нас тымі, каго зрабілі, не абставіны, а людзі. Такія ж, як і мы, з такімі ж мазгамі, нават з такой жа прыкладна адукацыяй. Але як умелі яны намі маніпуляваць! Гэта быў талент, якім валодалі не ўсе, і тыя, абраныя, ляпілі з нас, пластылінавых, што хацелі.

І сёння лепяць. Толькі ўжо іншыя, але з такім жа запалам, з такім жа смяротным адчаем, ад чаго валасы ўзнімаюцца дыбара. І яны па-свойму таленавітыя і такія ж абраныя. Абраныя не Богам, а чалавекам, які «трохі вышэй за Бога».

***

Апошні дзень жыцця — гэта па сутнасці ўжо божы дзень, і нікому не дазволена ўмешвацца, смакаваць апошнія хвіліны, калі чалавек размаўляе з Богам. Аднак умешваюцца. Як вось у праграме расійскага тэлеканала пад назваю «Апошні дзень». Паглядзеў толькі першую перадачу, на другой спатыкнуўся: разлічваў, што раскажуць пра артыста без «грыму», усё, як было, без потайкі, аднак жа ўтаілі тое, чаго я чакаў.

Перастаў глядзець. І таму, што дарэмная згуба часу, а яшчэ — не трэба прыпадабняцца да так званай некрафільскай дзяржавы, дзе ахвотна, з запалам гавораць пра нябожчыка, а павінны шанаваць творцу пры жыцці.

***

Паэт Алег Салтук, мой добра знаёмы, ужо нябожчык, не раз казаў жартам: «Мікола, павер, хто жэніцца — у таго жыццё сабачае, затое смерць чалавечая, а хто не — у таго сабачая смерць, затое жыццё чалавечае». Я ведаў, што гэта словы Косміча з рамана Караткевіча «Чорны замак Альшанскі». Мы разам смяяліся з гэтага жарта, пацяшаліся тым, што ў словах ёсць, відаць, ладная доля праўды. Нярэдка так бывае: чалавек пражыве пад абцасам у жонкі, і свету не бачыць, і грошай, а памрэ па-людску. У шыкоўнай дамавіне, з вянкамі, з кветкамі, можа, калі ўмеў жыць і дагаджаць, то і ўсцешанае слова скажуць пра яго тыя, каму трэба гэта сказаць.

Пагавораць і пра таго, хто памёр няслаўна. Ад гарэлкі, ад безграшоўя ці таму, што зняверыўся чалавек у шчаслівай долі.

І пра аднаго, і пра другога будуць гаварыць. Пра першага нядоўга і са здзекам («Вось ён, падабцаснік?!» — скажуць), пра другога доўга і з павучаннем для іншшых («Не пі, бо будзе, як з Мікіткам»).

Па-мойму, Косміч з «Чорнага замка...» — гэта ў нейкай ступені сам аўтар, сам Караткевіч, які позна жаніўся, доўгі час правёў, даруйце, такім жа бабылём і ўклаў у вусны галоўнага героя словы, блізкія самому. Праўда, не ведаю, ці думалася таму Космічу-Караткевічу, ужо жанаціку, што жыццё сабачае...

***

Каб выжыць, чалавеку патрэбны тры рэчы: хлеб, цыбуля і мыла. Вядома ж, і вада.

А яшчэ шчырае, сардэчнае слова таварыша, з якім будзеш дзяліць апошні гамёлак хлеба...

***

Чалавек усведамляе свой узрост са спазненнем. Здараецца нешта такое, як здрада жонкі ці мужа: уся вёска гудзе, а яму ці ёй на гэта напляваць.

Не напляваць на тое, што з гадамі. Іх не можаш не заўважаць, яны выпіраюць брыдкімі мяшэчкамі пад вачыма, адышкай, болямі ў суставах, сівізной ці лысінай праз усю галаву, стэнакардыяй, дэменцыяй, іншымі хваробамі.

Таму навучыся адпачываць, чалавеча!..

***

Ма́рылі людзі пра Марс, пра тое, што прыйдзе час, калі і там зажыве чалавек. Злёталі, але не абнадзеілі.

А так хочацца некуды знікнуць, на той жа Марс, каб не чуць пра злашчасны каронавірус, не бачыць, як паміраюць (і маладыя таксама) медыкі, звычайныя людзі — суседзі, сябры, проста добра знаёмыя, а самы «чалавечны чалавек», як здзекліва назваў фармальнага лідара краіны адзін з маскоўскіх філосафаў, ладзіць у царкве «бяседу», і ніхто не засцерагаецца ад заразы маскамі. Гэтае «шапказакідальніцтва» і трывожыць, непакоіць гэтае геройства чалавека, які не беражэ сваіх суайчыннікаў.

Такіх людзей называю дэфіністамі (ім усё да ядронай фені!). Яны дадаюць трывогі, а маглі б больш настойліва, ва ўсе званы званіць пра тое, што спараджае такія вірусы — пра глабальнае пацяпленне. Пра парніковыя эфекты і так званыя азонавыя дзіркі...

Чалавек на самога сябе навыдумляў столькі брыдоты, назапасіў столькі зброі, залез так глыбока ў нетры зямлі, што ўшчыльную падышоў да «чырвонай» рысы.

Сказала праўду шведская дзяўчынка Грэта Гунберг і сказала з горыччу: «Як вы адважыліся?! Вы сваімі пустымі абяцаннямі ўкралі мае мары». І падагуліла: навошта, маўляў, вучыцца дзеля будучага, калі яго можа і не быць?

Многія лідары краін свету адрэагавалі на словы актывісткі паблажліва, а то і са здзекам.

***

Асаблівае майстэрства сказаць так, каб нічога не сказаць. Каб заблытаць нас сваімі думкамі-выкрутасамі, пустымі абяцаннямі, сваім талентам слоўнага эквілібрыста.

Такіх трэба ў цырк, а не ў палітыку.

***

«Женщина всегда права» — такая важкая ідыёма ўганаравала святочную імпрэзу, якую ладзілі ў Шумілінскай дзіцячай школе мастацтваў з нагоды Жаночага дня. Выраз збянтэжыў не таму, што гэта не можа быць няпраўдай. Азадачыў ён тым, што паважаныя настаўнікі ад мастацтва паказалі сваю выключную эмансіпіраванасць, жаданне хоць у такі дзень пабыць у матрыярхаце. Калі, як прызналася адна з гераіняў фільма «Дзяўчаты», «во дзе яны ў нас сядзелі», і сціснула кулачок. Маецца на ўвазе, мужчыны.

Свята, аднак, не застольнае, не гульбішчае, дзе можна і пацяшацца, і пажартаваць. Тут выраз не да месца. Не ратуе яго нават французская прыказка: «Калі жанчына не мае рацыю, папрасі ў яе прабачэння». Просяць, і нярэдка. Лепш усё ж можна было арыентавацца на больш дасканалую лірыку, скажам, на Яўгенія Еўтушэнку (не раўня ж Ірыне Панароўскай!), які мовіў: «Бог — гэта жанчына, а не мужчына...». Няхай у словах шмат экспрэсіі, асабістага, няхай гэта мастацкі вобраз, таму і дыскусійны, тым не менш няма ў іх той катэгарычнасці, на якую спаўзлі ў школе мастацтваў.

***

Нехта выгукнуў: «Мне выразалі страх. Смерць мяне не хвалюе».

Не ведаю, чаго ў словах больш: бравады ці ўсведамлення сябе жывым трупам.

Без страху няма жыцця. Не паталагічнага, не таго, што з клінікай, а звычайнага, нармальнага. Страх за дзетак, за ўнукаў, страх за сваяка, які ў бальніцы і з цяжкім дыягназам, за краіну, за яе вольны і незайздросны лёс...

Страх — як праяўленне трывогі. Што, гэта хіба не чалавечае пачуццё? Навошта яго выразаць? Каб зрабіць з чалавека манкурта?..

# Францішак Багушэвіч

## Апошні аповед з будучай кнігі «Айчына: маляўнічая гісторыя»

Уладзімір АРЛОЎ

**Францішак Багушэвіч — наш першы выдатны нацыянальны паэт. Ён на поўны голас абвясціў пра існаванне беларускага народа і багацце яго мовы, якую назваў «адзежаю душы». Погляды песняра леглі ў аснову беларускага нацыянальнага Адраджэння.**

### Маладыя гады

Францішак прыйшоў на свет 21 сакавіка 1840 года ў фальварку Свіраны пад Вільняй. Блізкім часам бацькі — Канстанцыя і Казімір Багушэвічы — перабраліся жыць у спадчынны маёнтак Кушляны Ашмянскага павета. Там, між прыгожых беларускіх лясоў, лугоў і палёў, прайшло Францішкава дзяцінства. Там у ягоным сэрцы назаўсёды пасялілася любасць да беларускай зямлі і роднай мовы.

Бацькі-шляхцічы выправілі яго вучыцца ў Віленскую гімназію. У ёй сябрамі будучага паэта сталі разумныя і смелыя хлопцы Цітус і Кастусь Далеўскія, Зыгмунт Мінейка, Юльян Чарноўскі. Праз дзесяць гадоў, у векапомным 1863-м, гэтыя юнакі сталі паўстанцкімі важакамі і праславілі сябе адвагаю і геройчнымі ўчынкамі. Францішкавым аднадумцам быў і ягоны малодшы брат Валяр'ян, які таксама вучыўся ў Вільні.

З гімназіі Багушэвіч выйшаў у дарослае жыццё ў ліку чатырох найлепшых вучняў. Веды дазволілі яму паступіць на фізічна-матэматычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Але вучыцца там Багушэвічу не давялося.

Акурат тады ўвялі новыя правілы для студэнтаў. Іх пазбавілі шматлікіх ранейшых правоў: забаранілі праводзіць у сценах універсітэтаў сходы і канцэрты, закрылі касы ўзаемадапамогі, увялі плату за наведванне лекцый. Гэта адразу адчулі на сабе юнакі з небагатых сем'яў.

Францішак з таварышамі пастанавілі змагацца за справядлівасць і адмовіліся атрымліваць заліковыя кніжкі. Некалькі сотняў студэнтаў выйшлі на дэманстрацыю па пецярбургскім Неўскім праспекце. Паліцыя арыштавала дзясяткі ўдзельнікаў пратэсту. Іх адправілі за краты ў Петрапаўлаўскую фартэцу. Шмат каго выключылі з універсітэта, а сама навучальная ўстанова была часова зачыненая. У тых умовах Багушэвіч напісаў рэктару заяву, дзе прасіў звольніць яго «з прычыны неспрыяльнага клімату, каб з парады доктара вярнуцца ў мясціны сваёй Радзімы».

Вярнуўшыся з Пецярбурга ў Беларусь, Багушэвіч пайшоў настаўнічаць у вясковую школку ў Доцішках на Лідчыне. Там у 1863-м яго і заспеў пачатак збройнага змагання.

### Баявыя пабрацімы

Будучы паэт разам з братам Валяр'янам без ваганняў стаў у шэрагі паўстанцаў. Змагарам дапамагала ўся сям'я Багушэвічаў. Сястра Ганна за ўдзел у барацьбе пазней патрапіла ў турму, арыштоўвалі і бацькоў. Валяр'ян Багушэвіч з'ехаў з радзімы ў эміграцыю.

Францішак ваяваў пад камандаваннем легендарнага Людвіка Нарбута. Аддзел вёў баі з карнымі войскамі ў наваколлі Ліды. Паўстанцаў падтрымлівалі беларускія сяляне. У той самы аддзел быў залічаны і італьянец па нацыянальнасці, але перакананы ліцьвінскі патрыёт мастак Міхал Андрыёлі.

Дзеля будучага шчасця Айчыны жыццём рызыкавалі ўсе лепшыя людзі краю. Яны паказалі свету, што Беларусь не стала перад Расеяй на калені і хоча быць свабоднай краінай. Пра гэта нашы ваяры спявалі ў сваіх песнях, якія меў кожны аддзел. Баявы марш для пабрацімаў-нарбутоўцаў напісаў Францішак Багушэвіч. У той час у яго ўжо абудзіўся паэтычны талент.

Супроць аднаго беларуса-ліцьвіна ваявала дзесяць, дваццаць, а часам і сто ворагаў. У няроўным баі загінуў Людвік Нарбут. У Вільні карнікі схапілі і расстралялі Цітуса Далеўскага — гімназічнага сябра Францішка.

Не спыняючы баёў, нарбутоўцы пасля смерці камандзіра перайшлі за Нёман у Аўгустоўскія лясы. Там у гарачай сутычцы з ворагамі нядаўні малады настаўнік Багушэвіч быў паранены і пакінуў змагарскія шэрагі.

### Расстанне з Бацькаўшчынай

Ратуючыся ад астрожнай камеры і кайданоў, Францішак патаемна пераехаў на Украіну.

Былы змаганец быў таленавітым канспіратарам. У горадзе Нежын Чарнігаўскай губерні ён скончыў юрыдычны ліцэй і доўга быў судовым следчым ва Украіне і ў Расеі. Ён раскрыў шмат злачынстваў і дапамог многім людзям. За паспяховую следчую працу Францішка ўзнагародзілі ордэнамі святога Станіслава і святой Ганны. Але для Багушэвіча нязмерна даражэйшая за ордэны была галінка каліны з белымі кветкамі, якую калісьці ўручыў яму за мужнасць Людвік Нарбут…

Следчага Багушэвіча паважалі калегі, ён меў надзейных сяброў і прыяцеляў. Аднак сэрца клікала туды, дзе жыў яго народ, дзе гучала мілагучная беларуская мова, якую ён любіў і ніколі не забываў, хоць царскія чыноўнікі лічылі яе не мовай, а «бедная мужыцкая гаворкай».

Зноў прайсці па дарагіх з юнацтва віленскіх вуліцах і пляцах Багушэвіч змог толькі праз дваццаць гадоў. Ён прыехаў на радзіму з жонкай Габрыэляй (родам з Менска) і малымі дзецьмі: Канстанцыяй і Тамашом.

Францішак уладкаваўся ў Вільні на пасаду адваката ў акруговым судзе. Ён найперш браўся за справы сялянаў і гарадскіх беднякоў. Простыя людзі паважалі яго за тое, што з беларусамі ён гаварыў па-беларуску. Пад вокнамі кватэры Багушэвічаў на віленскай вуліцы Конскай (па-літоўску яна называецца Арклю) часта спыняліся вясковыя вазы і ў чаканні заступніка тупалі купкі сялянаў у саматканым адзенні.

Жыхары Вільні ды навакольных вёсак і мястэчак з любоўю называлі Багушэвіча «мужыцкім адвакатам». Пакуль што амаль ніхто не ведаў: Францішак не толькі бароніць беларусаў у судах. Ён складаў для беларусаў на іх роднай мове вершы.

### «Дудка беларуская»

Багушэвіч вастрыў сваё пяро нататкамі пра віленскія падзеі, якія друкаваў у пецярбургскім польскамоўным часопісе «Край». Біёграфы песняра адзначалі, што ў нешматлікіх радках яму ўдавалася цікава, трапна, часам афарыстычна перадаць пульс разнастайнага жыцця вялікага горада. У «Краі» Багушэвіч змясціў паўсотні артыкулаў і нататак, ды ўжо быў упэўнены: яго пакліканне — паэзія.

У 1891 годзе ўбачыла свет першая паэтычная кніга Францішка Багушэвіча — «Дудка беларуская». У царскай Расеі друкаваць кнігі на нашай мове забаранялася. Таму «Дудка беларуская» была выдадзеная ў Кракаве, што знаходзіўся ў складзе Аўстра-Вугоршчыны. На вокладцы замест прозвішча аўтара стаяў псеўданім — Мацей Бурачок. Гэтая і наступныя кнігі Багушэвіча друкаваліся па-беларуску лацінкаю, гэтаксама, як выдаваў «Мужыцкую праўду» Каліноўскі.

«Дудка беларуская» пачыналася з прадмовы, у якой Багушэвіч разважаў пра нашую мову, якую каланізатары не пускалі ў школы і друкарні, у цэрквы і касцёлы. Мацей Бурачок пісаў, што толькі цёмныя людзі завуць мову продкаў «мужыцкай». Народ, які забыў родную мову, ён параўноўваў з тым чалавекам, каму жыць засталося нядоўга.

Учытаемся ў гэтую прадмову, каб адчуць яе глыбіню і мудрасць:

«<…>Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людзям, і гаворым жа мы ёю шмат добрага, але так ужо мы самі пусцілі яе на здзек, не раўнуючы, як і паны вялікія ахвотней гавораць па-французску, як па-свойму. Яно добра, а нават і трэба ведаць суседскую мову, але найперш трэба ведаць сваю. Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек прад сканаўнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!»

У гэтай знакамітай прадмове Багушэвіч выявіў сябе і знаўцам гісторыі:

«Літва пяцьсот дваццаць гадоў таму ўжо была ад Балтыйскага мора ўдоўжкі аж да Чорнага, ад Дняпра і Днястра-ракі да Нёмна; ад Каменца места аж да Вязьмы — у сярэдзіне Вялікаросіі; ад Дынабурга і за Крамяньчук, а ў сярэдзіне Літвы, як тое зерне ў гарэху, была наша зямліца — Беларусь!».

У той час царскі ўказ забараняў ужываць назву «Беларусь» у кнігах і дакументах. Паэт смела сцвярджаў, што, нягледзячы на прыгнёт, Беларусь — жыве! Пры канцы прадмовы аўтар «Дудкі» даваў адказ на пытанне, дзе ж тая Беларусь цяпер:

«Там, братцы, яна, дзе наша мова жыве: яна ад Вільні да Мазыра, ад Віцебска за малым не да Чарнігава, дзе Горадня, Менск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак».

Прадмову да «Дудкі беларускай» часам называюць беларускім нацыянальным маніфестам.

### Дзякуй, браце Бурачок!

Першым у «Дудцы беларускай» быў надрукаваны верш, які так і называўся — «Мая дудка»:

*Эх, скручу я дудку!*
*Такое зайграю,*
*Што ўсім будзе чутка*
*Ад краю да краю!..*

Спеў паэтычнай дудкі Францішка Багушэвіча сапраўды быў пачуты. Інакай і не магло здарыцца, бо ён з вялікім талентам пісаў пра лёс багатага душой, але паняволенага народа, выкрываў прыгнятальнікаў, верыў у лепшую долю беларусаў. «Дудку беларускую» чыталі і перадавалі з рук у рукі не толькі сяляне ў вёсках. Яе высока цанілі ў адукаваных колах грамадства. У водгуках пісалі, што паэт «падабраў жывая парасткі беларускага жыцця».

Адзін з прыхільнікаў Францішка, гаспадар сельскагаспадарчай крамы ў Вільні, дарыў «Дудку беларускую» кожнаму пакупніку-селяніну. Цікава, што таемным перавозам кніг з Кракава ў Беларусь займаўся малады шляхціч-рэвалюцыянер беларус з паходжання Язэп Пілсудскі. Пазней ён стаў кіраўніком адроджанай Польскай дзяржавы.

### Вершы, байкі, апавяданні

Праз год пасля «Дудкі беларускай» зноў за мяжой выйшаў асобнаю кніжкай аповед Багушэвіча «Тралялёначка», а следам за ім — новы зборнік вершаў «Смык беларускі». Неўзабаве Францішак атрымаў да сваяка спадчыну. Грошы дазволілі Багушэвічу разлічыцца з пазыкамі і адбудаваць бацькоўскую сядзібу ў Кушлянах. Ён звольніўся са службы і цалкам аддаўся літаратурнай творчасці.

Пры жыцці яго кнігі былі забароненыя расейскімі чыноўнікамі. Дагэтуль невядома, дзе схавалі яны рукапіс трэцяй кніжкі вершаў «Скрыпка беларуская». Знік з Віленскай друкарні і зборнік «Беларускія апавяданні Бурачка». Але насуперак усім перашкодам справа паэта засталася жыць.

Францішак Багушэвіч узбагаціў нацыянальнае прыгожае пісьменства творамі розных літаратурных жанраў. Вялікую папулярнасць мелі паэма «Кепска будзе!», вершаваныя аповеды «У астрозе» і «Свая зямля», байка «Воўк і авечка», апрацоўкі народных казак, кароткія дасціпныя апавяданні «Сведка» і «Палясоўшчык». Вершы з вялікай нізкі «Песні» сапраўды рабіліся песнямі.

Жывучы ў родных Кушлянах, пясняр складаў слоўнік нашай мовы, які, на жаль, не збярогся. Ён марыў выдаць і беларускую граматыку, бо літаратурная мова ў той час была яшчэ недастаткова развітая. Але першым чынам сцвярджаў велізарнае багацце і магчымасці беларускага слова ў творчасці. Багушэвіч верыў, што працуе дзеля будучыні народа:

*Ой, дайце ж мне смык,*
*Каб усюды граў!*
*Хоць бы сам я знік,*
*Абы голас даў…*

На пачатку XX стагоддзя справу Францішка Багушэвіча прадоўжылі Янка Купала, Якуб Колас, Цётка (Алаіза Пашкевіч), Максім Багдановіч…

### Вольнае слова не забароніш!

Жыццёвы шлях Багушэвіча завяршыўся ў 1900 годзе ў Кушлянах. Паэт так і не дачакаўся, калі яго кнігі будуць вольна друкавацца ў Беларусі. У час рэвалюцыі 1905–1907 гадоў яны выдаваліся асобнымі кніжкамі і ўлёткамі-пракламацыямі, аднак адразу ж зноў патрапілі пад забарону.

Сваім ідэйным папярэднікам і настаўнікам лічылі Францішка Багушэвіча стваральнікі Беларускай Народнай Рэспублікі, пра якую пойдзе гаворка ў трэцяй частцы «Айчыны».

У савецкай Беларусі вальналюбныя глыбока нацыянальныя творы Багушэвіча таксама, як і ў царскай імперыі, хутка трапілі пад шматгадовую забарону. Бальшавікі загадвалі спальваць усе знойдзеныя ў бібліятэках кнігі класіка. Гэтую пастанову скасавалі ў часе вайны СССР з гітлераўскай Нямеччынай. Савецкія ўлады вырашылі, што патрыятычныя вершы Багушэвіча будуць натхняць беларусаў на барацьбу з нямецкімі захопнікамі.

Цяпер кніг Францішка Багушэвіча ёсць у кожнай бібліятэцы Беларусі.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Выратавацьбаявога Кудзіна

Сяргей КАЙКО

**У жніўні ён выйшаў у цэнтр роднага Маладзечна і надаваў кухталёў міліцыянерам, якія намагаліся разагнаць пратэст. У лістападзе ўпотай — як сам казаў, у багажніку аўтамабіля — выехаў з Беларусі, каб пазбегнуць крымінальнага пераследу. Тады ж выклаў у сацсеткі фота з геалакацыяй у Парыжы, але ў студзені быў нечакана затрыманы ў Маскве.**

Гэта ўсё — пра Аляксея Кудзіна, 36-гадовага байца змешаных адзінаборстваў, шматразовага чэмпіёна свету па тайскім боксе і кікбоксінгу, бацьку пяці дзяцей. І аднаго з самых яскравых сімвалаў беларускага пратэсту, які не здолеў цярпець несправядлівасць і цяпер знаходзіцца на мяжы свабоды і шматгадовага зняволення.



Rh.by



## Паміж Парыжам і Масквой

Два месяцы пасля вымушаных уцёкаў з краіны Кудзін не даваў значных інфармацыйных нагодаў. Пра яго было амаль не чуваць. Зрэдку ён выходзіў на сувязь з журналістамі — і распавядаў, як прагне пераменаў, як хоча вярнуцца на радзіму і як раскідваў маладзечанскіх сілавікоў на гарадской плошчы. Зрэдку нешта посціў у інстаграме, транслюючы аптымізм датычна будучыні Беларусі.

Ці даехаў ён да горада Парыжу ў тым багажніку, дагэтуль дакладна не вядома. Ёсць меркаванне, што не даехаў, а тая геалакацыя была спробай заблытаць сляды. І нібыта ўвесь гэты час Аляксей правёў у расійскай сталіцы, дзе «палітычны прытулак» яму далі сябры па байцоўскім братэрстве.

Прынамсі, на кватэры аднаго з калег — расіяніна Руслана Абдо — Кудзіна і схапілі. Раніцай у чацвер, 21 студзеня, туды ўварваўся спецназ ФСБ, праўда, дзейнічаў карэктна, і затрыманне не суправаджалася гвалтам. Пазней гэта пацвердзіла адмысловае відэа, на якім Аляксея вядзе па лесвіцы маскоўскі паліцыянт, а той, нягледзячы на кайданкі, дэманструе ў камеру бадзёры жэст і шырока ўсміхаецца праз антыкавідную маску.

Ён з'ехаў з Беларусі напрыканцы лістапада, ратуючыся ад суда па крымінальнай справе, які дакладна адмераў бы яму некалькі гадоў турмы. Іншага чакаць не даводзілася, бо за просты надпіс на асфальце ў сённяшняй Беларусі людзей з лёгкасцю этапуюць у калонію.

Разважаў спартовец тады проста. Чым сядзець за кратамі, лепш карміць сваю вялікую сям'ю. За мяжой, нягледзячы на пандэмію, віруе жыццё — трэніроўкі, актагон, турніры ды баі. Баі — гэта заробак, якога заўтра можа ўжо не быць. Да заканчэння кар'еры параўнальна немаладому Кудзіну застаецца не так многа, і пакуль ёсць сілы і рэйтынг, час марнаваць нельга.

На чужыне ён дакладна трэніраваўся і спарынгаваў, але афіцыйна ў рынг так і не выйшаў. Не паспеў — па яго прыйшлі няпрошаныя госці са зброяй.

Характэрна, што ў сеціве адразу ўзнялася хваля: маўляў, знайшоў, дзе хавацца. Бо ў кантэксце вядомых дамоўленасцяў паміж сілавымі структурамі Беларусі і Расіі яны па запыце павінны ўзаемадзейнічаць. І ў гэтым сэнсе няма прынцыповай розніцы, куды ехаць па паратунак — у Маскву ці ў Дзятлава альбо Лельчыцы. І Кудзін — не першы з беларускіх пратэстоўцаў, каго пасля выбараў схапілі ў суседняй пуцінскай краіне.

Аднак ці быў у яго выбар, нам не вядома. Дакладна можна сказаць толькі тое, што месца замежнага прабывання Аляксей замаўляў не ў турфірме з прыгожымі буклетамі і мноствам міжнародных маршрутаў.

## Ад Маладзечна да Жодзіна

У цэнтр свайго Маладзечна ён выйшаў вечарам 9 жніўня. Як пазней патлумачыў: «Выйшаў выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю адносна выбараў, якія былі сфальсіфікаваныя».

Пратэставала ў тыя дні літаральна ўся Беларусь, і на маладзечанскіх вуліцах працэс таксама зацягнуўся. У нядзелю Кудзін у замес не патрапіў, ён увогуле выходзіў з мірнымі намерамі. Яго прыгоды пачаліся на наступны дзень — у панядзелак, 10 жніўня.

Калі здарыўся жорсткі разгон — з традыцыйным перастукам гумовых дубінак і распырскваннем слезацечнага газу, чэмпіён свету па кікбоксінгу не ўключыў заднюю. Атрымаўшы колькі разоў паміж лапатак, ён не вытрываў і пачаў даваць сіметрычны адказ. А паколькі ёсць навык і цяжкая (звыш 93 кілаграмаў) вагавая катэгорыя, то і нападнікі ў спецвопратцы пачалі перад ім валіцца, як кеглі.

Часы былі яшчэ немудрагелістыя, і, памахаўшыся з сілавікамі, навесіўшы ім некалькі накаўтаў, баец Кудзін спакойна адправіўся ў лякарню — самому ў фармаце «адзін супраць некалькіх» таксама моцна дасталася. На падыходах да гарадской паліклінікі яго і ўзялі — сіламі адмыслова выкліканага САХРа.

Затрымлівалі як мае быць у сучаснай Беларусі — са збіццём, стрэламі з траўматычнага пісталета, імклівым закідваннем у камеру мясцовага РАУС. Тут ужо Аляксей супраціву не аказваў — бо, вядома, сабе даражэй. Але ж і па таннаму тарыфу разлічыцца не атрымалася. «На целе былі гематомы: адна вялікая ў вобласці сэрца, на грудзях сляды ад гумовых куль, — распавядаў ён пасля ў інтэрв'ю. — Адна куля трапіла ў мечападобны адростак, іншая — у вобласць сэрца, а трэцяя — у цэнтр грудной клеткі. Прайшло ўжо чатыры месяцы, але боль у грудзях яшчэ застаўся. Акрамя таго, мне разарвалі мезенец да косткі — наклалі сем-восем швоў».

Магутнае здароўе выратавала волата ад незваротных наступстваў, аднак у пэўным сэнсе па вузенькай кладцы ён прайшоў. Калі ў пастарунак пасля працяглых ваганняў сілавікі ўсё ж выклікалі лекара, той адразу сказаў, што хлопца трэба везці ў бальніцу. Міліцыянты, паводле слоў Кудзіна, упарціліся, і тады доктар адрэзаў: «Калі вам тут патрэбны "жмур", то я здымаю з сябе адказнасць». У выніку пад нагляд медыкаў спартсмен усё ж патрапіў — хай сабе і пад канвоем.

Агулам у няволі ён прабыў каля двух тыдняў. Этап з Маладзечна ў Жодзіна, крымінальная справа за прымяненне сілы да службовых асоб, следства, допыты. Біць больш не білі, але дзеля выхаду на волю пад падпіску аб нявыездзе Аляксей быў вымушаны пагадзіцца на «пакаяльнае відэа». І яго выпусцілі да суда.

## Бацькі і дзеці

Цяпер, вядома, за такое не вызваляюць. Зараз за які штуршок ці спробу крануць балаклаву трымаюць пад вартай да самага прысуду пад грукат судовай кіянкі — і даюць гады калоніі, бо давараюць сведчанням Івана Іванавіча Іванова.

У жніўні з гэтым было крыху прасцей, але, меркавана, Кудзіну далі падыхаць свежым паветрам і з іншых прычын. Бо вельмі ж ён у сваім Маладзечне слынны і паважаны чалавек. З аднаго боку, зорны — адных толькі тытулаў чэмпіёна свету ў яго ажно адзінаццаць, з другога — просты і адкрыты.

Са сваёй чэмпіёнскай біяграфіяй ён даўно мог бы з'ехаць з правінцыйнага Маладзечна — у шматлюдны Мінск ці куды яшчэ. Дзе больш магчымасцяў і ўвогуле агні вялікага гораду. Але ён не з'ехаў — застаўся там, дзе нарадзіўся, вырас і сваімі высілкамі, без аніякай чужой дапамогі, дабіўся ў жыцці поспеху.

Кудзін не проста застаўся ў Маладзечне, але і працягнуў звыклы лад жыцця. У перапынках паміж зборамі, трэніроўкамі і спаборніцтвамі жыў у прыватным сектары ва ўласным доме, калоў дровы і займаўся іншымі гаспадарчымі справамі, гадаваў дзяцей.

Так, іх у яго пяць, прычым трое — не свае, прыёмныя. Засталіся ад старэйшага брата жонкі — што цікава, былога мясцовага міліцыянера. Той рана пайшоў з жыцця, а другім бацькам для яго дзяцей ахвотна стаў Аляксей Кудзін — грозны толькі з выгляду 110-кілаграмовы дзяцюк з пудовымі кулакамі і з празвішчам Цагліна.

Маладзечна — не такі вялікі горад, такую сям'ю мясцовыя добра ведалі і, адпаведна, паважалі. Але разам з тым Маладзечна — дастаткова вялікі, каб галава гэтай сям'і аднойчы незаўважна для ўсіх бясследна знік.

Аляксея Кудзіна мусілі судзіць 19 лістапада. Ранкам таго дня ён выйшаў з хаты, развітаўся з жонкай... І знік, так і не скіраваўшыся да суда.

## Кудзін і Пуцін

Ужо больш за тыдзень беларускі чэмпіён вымушаны сілкавацца маскоўскімі казённымі харчамі. Яму пагражае дэпартацыя на радзіму — і амаль гарантаванае доўгатэрміновае зняволенне (артыкул прадугледжвае да пяці гадоў пазбаўлення волі).

Пакуль, аднак, расійскія ўлады вяртаць яго ў Беларусь не спяшаюцца. Хутчэй нават наадварот: Дамадзедаўскі суд наклаў на спартсмена арышт, адмераўшы яму два месяцы. Здаецца, гэта той выпадак, калі 60 дзён «у гасцях» лепш за 15 сутак «дома». Зрэшты, паведамляецца, што пытанне дэпартацыі будзе вырашана раней — да 1 сакавіка.

Магчыма, такое стаўленне да затрыманага беларуса прадыктавана бягучымі абставінамі. І менавіта — чарговай хваляй салідарнасці, што паднялі нашы суайчыннікі, ратуючы трапіўшага ў бяду аднадумца. Фонд спартыўнай салідарнасці, вядома, адразу ж «упісаўся» за Кудзіна — уласнымі сіламі і магіяй вядомых падпісантаў чарговага звароту ў замежныя інстанцыі.

Фонд склаў адкрыты ліст з заклікам не дэпартаваць Аляксея на радзіму. У тэксце адмыслова падкрэслена, што на радзіме адзінаборцу пагражае фізічная расправа, і згоду з тым выказалі ўжо многія атлеты. За лічаныя дні пад лістом нарасло шмат гучных прозвішчаў. Наталля Зверава і Меліціна Станюта, Віталь Гуркоў і Мікалай Сігневіч, Алена Леўчанка і Кацярына Сніцына, Ягор і Мікіта Мешчараковы, Аляксандра Герасіменя і Вольга Барабаншчыкава, Дзмітрый Валент і Эльвіра Герман, Васіль Хамутоўскі і Аляксандра Рамаnoўская, Наталля Лешчык і Дзмітрый Асанаў... І іншыя, іншыя — усяго больш за 300 імён.

Падтрымалі гэтую ініцыятыву і расійскія атлеты — большай часткай адзінаборцы. У сацсетках тым часам шырока разышоўся красамоўны хэштэг #закудина. Матывы грамадскай актыўнасці вычарпальна патлумачыў другі знакаміты баец — Віталь Гуркоў: «У Беларусі Кудзіна чакае страшны несправядлівы суд і крымінальны пераслед. Крымінальны пераслед з-за таго, што Аляксей адважны, сумленны і справядлівы мужык».

Свой ліст Фонд спартыўнай салідарнасці адправіў па некалькіх расійскіх адрасах: генеральнаму пракурору Ігару Краснову, міністру ўнутраных спраў Уладзіміру Калакольцаву, упаўнаважанаму па правах чалавека Таццяне Маскальковай, старшыні камітэта Дзярждумы па фізічнай культуры і спорце Барысу Пайкіну, прэзідэнту алімпійскага камітэта Станіславу Пазнякову...

Спіс адрасатаў дастаткова доўгі, каб зразумець: лёс заслужанага майстара спорту, беларускага чэмпіёна Аляксея Кудзіна будзе вызначаць адзін чалавек — і яго прозвішча Пуцін.

Сам беларускі баец тым часам папрасіў у Расіі палітычны прытулак, працягвае заставацца ў камеры і спадзяецца на лепшае.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТАДЖЫКІСТАН. Музей для Лідара нацыі

Пры Таджыкскім нацыянальным універсітэце (ТНУ) адкрыўся музей Лідара нацыі — у гонар прэзідэнта Эмамалі Рахмона. Музей створаны згодна з рашэннем навуковага савета ТНУ. Такім чынам вырашана было ўвекавечыць заслугі прэзідэнта перад народам і дзяржавай.

Тое, што музей знайшоў прытулак у ТНУ, — не выпадкова. Кіраўнік Таджыкістана ў 1977–1982 гадах навучаўся на эканамічным факультэце ТНУ. У музеі Лідара нацыі сабраныя ягo студэнцкія дакументы, фотаздымкі, а таксама матэрыялы пра ўнёсак Рахмона ў развіццё Таджыкскага нацыянальнага ўніверсітэта.

Музей складаецца з прыёмнай і двух залаў: «Навучанне» і «Незалежнасць». Сярод экспанатаў першага можна ўбачыць стол студэнтаў 70–80-х гадоў XX стагоддзя, за якім сядзеў Рахмон, яго студэнцкі білет, заліковую кніжку, дыплом, загад аб заканчэнні ВНУ і гэтак далей. Другую залу, сярод іншага, упрыгожваюць працы Эмамалі Рахмона і прысвечаныя яму матэрыялы.

Застаецца дадаць, што гэты музей адкрыў асабіста Лідар нацыі. Як піша афіцыёз, экспазіцыя стане каштоўным арыенцірам для выкладчыкаў і студэнтаў універсітэта, паколькі ўвасабляе мудрую палітыку таджыкскага гаранта.

**Паводле таджыкскай прэсы**

### ВЕНГРЫЯ. Пакаяліся

Венгрыя аказалася адзінай краінай ва Усходняй Еўропе, якая на самым высокім афіцыйным узроўні адзначыла 75-ю гадавіну пачатку масавай дэпартацыі этнічных немцаў. Падобныя мерапрыемствы праводзіліся пасля вайны таксама ў Польшчы і Чэхаславакіі. З нагоды гадавіны прэм'ер-міністр Венгрыі Віктар Орбан усклаў вянок да тэматычнага мемарыялу, а кіраўнік мясцовага МЗС назваў выгнанне немцаў з венгерскай тэрыторыі «незаменнай стратай» для свайго народа.

Нагадаем, што 19 студзеня 1946 года першы вагон вывез з краіны на Захад першую партыю венгерскіх немцаў. Усяго за пару гадоў край пакінулі каля 250 тысяч чалавек. Пры гэтым іх уласнасць была экспрапрыяваная. Таксама немцаў пазбаўлялі грамадзянства. Тыя, хто найбольш шчыльна супрацоўнічаў з нацыстамі і служыў у SS, былі адпраўленыя на Усход — у Савецкі Саюз на прымусовыя работы.

Тое, што толькі Венгрыя ўспамінае ахвяраў дэпартацыі, напэўна, можна растлумачыць велізарным гістарычным унёскам немцаў у развіццё краіны. Невыпадкова нават камуністы пазней шкадавалі пра акцыю 1946-га і ўжо на пачатку 1970-х легалізавалі арганізацыі немцаў, якія дзіўным чынам засталіся ў краіне.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. Навальны і літаратура

Справу Аляксея Навальнага, які ў вачах грамадскасці здабыў статус адзінай альтэрнатывы Уладзіміру Пуціну, прымусіў многіх у Расіі прыгадаць раман «Шкілет бога» пісьменніка-фантаста Георгія Зотава, які, дарэчы, быў надрукаваны роўна пяць гадоў таму.

У рамане апісваецца сцэнар зменаў у Расіі. Імператара, у якім лёгка пазнаецца Пуцін, апанаваў старэчы маразм. Ён ізалюецца ў сваім палацы, застаючыся ва ўпэўненасці, што кіруе дзяржавай. Яго змяняе новы цар, што надзвычай нагадвае Навальнага. Кіруючая партыя старых жулікаў «Цар-Бацюхна» замяняецца на партыю новых злодзеяў «Цар-Кармільца», хаця ў цэлым у краіне асабліва нічога не мяняецца.

Дапускаюць, што Навальны, верагодна, чытаў гэты твор і разлічваў, што калі ён вернецца на радзіму, яго — як на старонках кнігі — падтрымае частка пуцінскай эліты. Пакуль такія фантазіі застаюцца фантазіямі. Зрэшты, яшчэ рана і ставіць крыж на такой перспектыве.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЗША. Прыбіральні Белага дома

Паколькі прэзідэнцтва Трампа скончылася, супрацоўнікі Белага дому пачалі распавядаць пра некаторыя дзіўныя забабоны былога кіраўніка Злучаных Штатаў. Сярод іх — гісторыі з прыбіральнямі.

Яго дачка Іванка Трамп забараніла супрацоўнікам службы бяспекі, якія ахоўвалі яе сям'ю, карыстацца ўсімі шасцю прыбіральнямі. Тым даводзілася пры патрэбе спачатку бегаць у суседнія рэстараны, а пасля здымаць непадалёк памяшканне з прыбіральняй — гэта каштавала амерыканскім падаткаплатнікам больш за сто тысяч долараў штогод.

Мелані, жонка Трампа, увогуле адклала пераезд у Белы дом збольшага таму, што «не хацела карыстацца тым жа душам і прыбіральняй, што і Мішэль Абама». Сам прэзідэнт быў зацыклены на кепскім напоры вады ва ўнітазах будынка. Больш за тое, калі верыць чуткам, дзяржсакратар Рэкс Тылерсан быў, быццам, звольнены праз тое, што доўга сядзеў у прыбіральні. Яго пасаду на нейкі час атрымаў Мэцью Уітакер, які раней працаваў у фірме, што гандлявала ўнітазамі.

Чаму гэтая тэма была такая важная для Трампа, незразумела. Зрэшты, цяпер у Дональда і яго сямейнікаў ёсць падстава радавацца фіяске на выбарах. Як мінімум, не давядзецца яшчэ чатыры гады жыць у памяшканнях з кепскімі прыбіральнямі.

**Паводле брытанскай прэсы**



Фота www.bbc.com

# Чорны Майдан

Алег НОВІКАЎ

**Тое, што цяпер адбываецца ў далёкай афрыканскай Угандзе, міжволі выклікае пачуццё дэжа-вю.**

Ідзі Амін — безумоўна, самы вар'яцкі тыран з тых, на якія так багатая гісторыя Чорнага кантынента. За тры гады кіравання краінай (1972–1975) ён паспеў абвясціць вайну Вялікабрытаніі, адмяніць заробкі бюджэтнікам, абвясціць сябе ўладаром рыбаў і нарабіць шмат чаго яшчэ.

Цяпер такое ўражанне, што часы Аміна вяртаюцца. Пра гэта сведчыць фармат выбараў прэзідэнта краіны, якія прайшлі 15 студзеня абсалютна ў парадыгме логікі Аміна. Напрыклад, асноўны апазіцыйны кандыдат з лістапада знаходзіўся пад хатнім арыштам, аднак усё ж праводзіў сваю выбарчую кампанію.

Зрэшты, гэта не вельмі дапамагло дзейнаму прэзідэнту краіны паралізаваць дзейнасць апазіцыі. За час кампаніі ў краіне арыштавалі каля трох тысяч пратэстоўцаў. Часткова феномен тлумачыцца тым, што адзіным кандыдатам ад апазіцыі выступаў папулярны сярод моладзі рэпер Роберт Кіагуланы Ссэнтаму, вядомы пад сцэнічным псеўданімам Бобі Вайн. Сродкамі агітацыі для Вайна былі не білборды і тэлешоу, а музычныя запісы, якія мабілізавалі моладзь.

Як вынік, арышту Вайна для «элегантнай перамогі» аказалася недастаткова. Напярэдадні выбараў урад закрыў сацыяльныя сеткі — у тым ліку Facebook, Instagram і Twitter. Прэзідэнт Ёверы Кагута Мусевені накіраваў на вуліцы спецназ і ваенныя машыны. На фоне такіх дэкарацый мясцовы ЦВК абвясціў вынікі галасавання. Паводле іх, Мусевені (дарэчы, шосты раз запар, пачынаючы з 1986 года) з 57 працэнтамі атрымаў чарговы дазвол народа на кіраванне краінай. Бобі Вайну намалявалі 30 з лішкам працэнтаў.

Штаб апошняга сцвярджае, што галасаванне было сфальсіфікаванае. Напярэдадні выбараў кааліцыя, якая прадстаўляе сотні арганізацый грамадзянскай супольнасці, паведаміла, што з 1900 запытаў на акрэдытацыю на выбары ўрад задаволіў толькі 10. Выбарчая камісія Уганды таксама адхіліла прапанову па прыездзе назіральнікаў Еўрапейскага саюза, нягледзячы на тое, што ЕС раней назіраў за трыма выбарчымі кампаніямі ў перыяд з 2006 па 2016 год.

Тое, што адбылося ва Угандзе, стала для міжнароднай супольнасці разрывам шаблону. Праект Мусевені лічыўся ледзь не ўзорным для іншых афрыканскіх дзяржаў. Пры Мусевені за кошт супрацоўніцтва з МВФ краіна, насуперак спадчыне Ідзі Аміна і двум грамадзянскім войнам, зрабіла вялікі крок наперад. Тэмпы эканамічнага развіцця 2005–2010 гадоў дасягалі 8 працэнтаў на год. Гэты рост суправаджаўся ростам аб'ёму інвестыцый у 1,5 разы за пяцігодку (2001–2006 гады).

Дзякуючы такім дасягненням, на шматлікія фокусы прэзідэнта заплюшчвалі вочы. У жніўні 2005 года парламент прагаласаваў за змену Канстытуцыі, каб зняць абмежаванне на колькасць прэзідэнцкіх тэрмінаў, што дазволіла Мусевені балатавацца на трэці тэрмін. Галоўны палітычны супернік прэзідэнта быў вымушаны эміграваць.

**Напярэдадні выбараў кааліцыя, якая прадстаўляе сотні арганізацый грамадзянскай супольнасці, паведаміла, што з 1900 запытаў на акрэдытацыю на выбары ўрад задаволіў толькі 10**

Угандзе нават прабачылі адкрытыя атакі на рух ЛГБТ. Яшчэ ў 2009 годзе Мусевені анансаваў закон пра ўвядзенне смяротнай кары за гомасексуалізм, бо, паводле яго меркавання, такая практыка супярэчыць волі Бога. Ён нават абвінаваціў белых геяў, што яны разбэшчваюць афрыканцаў.

Аднак выхадка з арыштам Бобі Вайна, падаецца, перайшла ўсе межы. Амбасада ЗША ва Угандзе распаўсюдзіла заяву, у якой гаворыцца, што выбары «былі заплямленыя праследам апазіцыйных кандыдатаў і ўціскам сродкаў масавай інфармацыі». Еўрапейскі саюз вырашыў не віншаваць Мусевені — абмежаваўшыся заявай, што «прымае да ведама» вынікі выбараў.

«Ва ўмовах актывізацыі ўсё больш маладой і незадаволенай апазіцыі, заходнія дзяржавы могуць з меншай верагоднасцю цярпець падыходы ўраду Уганды. Мусевені таксама больш не з'яўляецца гарантам стабільнасці Уганды, якая стала на шлях нестабільнасці», — піша Deutsche Welle. Журналіст выдання таксама дапускае, што «надышоў час прыглядзецца да памераў замежнай дапамогі для Уганды».

З улікам крытычнай залежнасці Уганды ад знешняй фінансавай падтрымкі даводзіцца задацца пытаннем: на што ж разлічвае ўгандыйскі гарант у такой сітуацыі? Магчыма, у офісе прэзідэнта спадзяюцца згуляць на канфлікце інтарэсаў заходніх дзяржаў. Напрыклад, рэакцыя Вялікабрытаніі на выбары, наадварот, была менш жорсткай. Лондан вітаў «адносна спакойны ход выбараў» і прызнаў перамогу Мусевені.

Акрамя таго, з геапалітычнага пункту гледжання Уганда лічыцца ледзь не вядучай стабілізуючай сілай у рэгіёне, які традыцыйна быў (і фактычна застаецца) інкубатарам і арэнай канфліктаў. Любая лакальная дэстабілізацыя пагражае новымі цунамі мігрантаў у кірунку Еўропы. Да таго ж угандыйскія вайскоўцы прымаюць удзел у місіі Афрыканскага саюза для падтрымкі грамадзянскага міру ў Самалі, якую цяпер актыўна падтрымліваюць ЗША. Мусевені таксама можа актывізаваць кантакты з Пекінам, каб узняць сваю каштоўнасць у вачах Вашынгтона.

Таму большасць экспертаў лічаць, што ўсё ж рэзкіх рухаў на адрас Мусевені не будзе — прынамсі, да таго, як высветліцца канчатковы лёс Бобі Вайна. «Мы павінны паглядзець, як Мусевені дасць рады пытанню Вайна. Гэта будзе галоўным фактарам, які вызначае надзейнасць ЗША і ЕС», — кажа адзін з брытанскіх афрыканістаў. Аднак, у прынцыпе, усе згодныя, што адсутнасць кансенсусу наконт падтрымкі рэжыму робіць сыход Мусевені непазбежным.

# Беларускія лялькаводы расійскіх пратэстаў

Алег НОВІКАЎ

**Адна з самых папулярных цяперашніх тэмаў расійскіх медыя — абмеркаванне пытання, ці стане жонка Навальнага Юлія расійскай Святланай Ціханоўскай?**



Фота www.kommersant.ru

Пасля таго, як скончыліся мітынгі ў падтрымку Навальнага, многія каментатары прыйшлі да высновы: арганізатары пратэставых акцый абралі для сябе беларускі сцэнар. «Падобна, на Захадзе вырашылі: калі ў Беларусі схема "разварушвання рэжыму" працуе, то навошта прыдумляць для Расіі нешта іншае? Ужо занадта аднолькавыя ўсе крокі. Аж да таго, што кіраўнік штаба арыштаванага на 30 сутак блогера-апазіцыянера Навальнага заклікае з Германіі збірацца на несанкцыянаваныя мітынгі ў Расіі ў наступныя выходныя», — піша расійская «Комсомольская правда».

У такім выпадку, відавочна, трэба чакаць выхаду на авансцэну расійскага варыянту Ціханоўскай. Гэтыя лаўры ўжо прадракаюць жонцы Навальнага. Розніца толькі ў тым, што ў Беларусі гомельскую хатнюю гаспадыню раскручвалі экспромтам, за пару месяцаў да выбараў. У Расіі, як лічаць некаторыя аналітыкі, гульня плануецца працяглая. Галоўны прыцэл — прэзідэнцкая кампанія 2024 года з Юліяй Навальнай у амплуа бясспрэчнага правадыра апазіцыі.

Якія шанцы ў «расійскага аналага Святланы Ціханоўскай»? На першы погляд, далёка не кепскія. Жанчыны на чале пратэсту цяпер у модзе, і інфармацыйна іх лёгка раскручваць. Тым больш, у сітуацыі, калі жонка выступае ў ролі прадаўжальніцы справы. Прэзідэнт Карасон Акіна на Філіпінах, Віялета дэ Чамора ў Нікарагуа, прэм'ер Беназір Бхута ў Пакістане прыходзілі ў палітыку як прадаўжальніцы справы загінулых або мужа, або сваяка.

Але гэта — толькі тэорыя. Зрабіць з Юліі Навальнай другую Беназір Бхута, і нават Святлану Ціханоўскую, будзе не так проста.

Юлія Навальная нарадзілася ў 1976 годзе ў Маскве ў сям'і навуковага работніка, скончыла факультэт міжнародных эканамічных адносінаў Расійскай эканамічнай акадэміі імя Пляханава, некаторы час працавала ў адным з маскоўскіх банкаў. У 2000 годзе стала жонкай Аляксея Навальнага, нарадзіла двух дзяцей. Пасля 2007 года Юлія нідзе не працавала афіцыйна, дапамагала мужу — крытыку Пуціна. Яна стала публічнай асобай праз рост папулярнасці Навальнага, і нават атрымала мянушку «першая лэдзі апазіцыі».

Нягледзячы на такі гучны тытул, пра саму Юлію вядома вельмі мала. Яна заўсёды падкрэслена грала ролю «жонкі дзекабрыста» і ні на хвіліну не выходзіла за межы такога вобраза. Гэты аспект і выклікаў дэбаты — ці пацягне яна ролю правадыра?

Па гэтым пытанні згоды няма. Напрыклад, выданне «Рабкор» лічыць, што праект Юліі Навальнай будзе паспяховым, і нават больш эфектыўным, чым Ціханоўскай. У тым ліку праз тое, што Юлія не прыйшла ў палітыку з вуліцы, у адрозненне ад Святланы Ціханоўскай. У жонкі Навальнага ёсць уяўленне пра палітычную кухню, адчуваецца нейкі вопыт публічнай камунікацыі.

**У Ціханоўскай ёсць статус альтэрнатыўнай кандыдаткі ў прэзідэнты, якая, як мяркуюць яе прыхільнікі, нават выйграла прэзідэнцкія выбары. Гэта было вынікам збегу абставінаў, але такой стартавай пляцоўкі ў Юліі Навальнай няма**

Трэба адзначыць, што тых, хто скептычна ацэньвае лідарскія таленты Юліі, значна больш. Увесь апазіцыйны рух трымаецца на харызме Аляксея Навальнага. Ён ніколі не дапускаў нават тэарэтычнай магчымасці канкурэнцыі з сабой. Гэта тычылася прыхільнікаў, паплечнікаў, часовых саюзнікаў — і Юліі Навальнай у тым ліку.

Ці зможа Юлія стаць эрзацам Аляксея ў вачах шараговых актывістаў? Асабліва з улікам таго, што за ўвесь час знаходжання ў палітычнай сферы спадарыня Навальная ніводнага разу не выяўляла якасцяў, якія неабходныя, каб цяпер падмяніць мужа?

Акрамя таго, пішуць, што ў Навальнай будзе шмат арганізацыйных спраў. Старая аўдыторыя Аляксея — канапавыя барацьбіты за свабоду, — настолькі інертная, што і палітычнай цэнзуры не трэба. Яны варацца самі ў сабе і на акцыі не ходзяць.

Зрэшты, можна пагадзіцца з тымі, хто заклікае не рабіць хуткіх высноў, а дачакацца першых разгорнутых інтэрв'ю Юліі. Паводле іх зместу можна будзе ацаніць патэнцыял жонкі Навальнага.

Нельга забываць і пра Любоў Собаль — «правую руку» Навальнага. Пасля арышту Аляксея, па логіцы, менавіта яна павінна ўзначаліць рух. Ці пагодзіцца яна саступіць месца лідара?

На яшчэ адзін мінус праекту «расійскай Ціханоўскай» у каментары «Новаму Часу» звярнуў увагу маскоўскі журналіст Дзмітрый Кастэнка:

— Улады сапраўды баяцца, што Юлія Навальная можа стаць новым сімвалам пратэсту — як Святлана Ціханоўская. Але ёсць важная дэталь: для простага народа Юлія — ніхто. У Ціханоўскай ёсць статус альтэрнатыўнай кандыдаткі ў прэзідэнты, якая, як мяркуюць яе прыхільнікі, нават выйграла прэзідэнцкія выбары. Зразумела, што гэта было вынікам збегу абставінаў. Ціханоўскую ці не выпадкова зарэгістравалі на выбарах, і яна на пратэставай хвалі, як ні круці, набрала шмат галасоў. Таму яна выклікае ў людзей эмацыйныя пачуцці. Такой стартавай пляцоўкі ў Юліі Навальнай няма, і ніхто яе ёй не надасць. Дамагчыся нефармальнага тытула лідара апазіцыі і інфармацыйнай пазнавальнасці, напэўна, можна, але ў народзе ўсё роўна будуць тупа казаць: «Хто такая гэтая Навальная?».

Пакуль праект Навальнай не выклікае вялікага энтузіязму. У любым выпадку, калі ён і стартуе, то вельмі хутка. Сваю заяву наконт паходу ў палітыку, як і ў выпадку з Ціханоўскай, Юлія Навальная, згодна з законамі жанру, павінна была агучыць адразу пасля зняволення мужа. Мяркуюць, што адпаведны вердыкт на адрас Аляксея Навальнага будзе агучаны на пачатку лютага.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Дуглас Рос



Лідар шатландскіх кансерватараў заявіў пра намер яго партыі сарваць рэферэндум наконт незалежнасці Шатландыі, калі ён будзе арганізаваны без згоды Вестмінстэра. Такім чынам ён пракаментаваў нядаўнюю заяву Шатландскай нацыянальнай партыі (SNP), што мясцовы парламент прызначыць дату рэферэндуму ў выпадку перамогі нацыяналістаў на травеньскіх выбарах.

У адказ урад Шатландыі Ніколы Стэрджэн паабяцаў прыняць закон, які дазволіць шатландскаму парламенту прызначаць рэферэндумы без санкцыі цэнтра. Такі сцэнар спрабуе сарваць Дуглас Рос, які заклікаў байкатаваць рэферэндум. «Я спадзяюся, што ніхто — не толькі прыхільнікі дзяржаўнага адзінства, але і людзі, якія падтрымліваюць дэмакратыю, не прымуць удзел у гэтых дзікіх неафіцыйных рэферэндумах», — заявіў ён.

Ён таксама спадзяецца, што да байкоту падключыцца электарат лейбарыстаў і лібералаў. У такім выпадку легітымнасць рэферэндуму сапраўды выглядала б сумнеўнай. Аднак у шэрагах названых партый, наадварот, хутчэй расце папулярнасць ідэй незалежнасці, што фіксуе сацыялогія. Да перагляду схемы адносін Лондана і Эдынбурга заклікаюць і лідары партый. Былы прэм'ер-міністр лейбарыстаў Гордан Браўн заклікаў прэм'ера Барыса Джонсана стварыць канстытуцыйную камісію для рэформы адміністрацыйнай сістэмы Вялікабрытаніі.

Што тычыцца нацыяналістаў, то яны магчымага байкоту з боку торы не баяцца. Каментуючы заклік да байкоту, адна з лідарак SNP заявіла: «Апазіцыйныя партыі маюць права выступаць супраць незалежнасці, але яны адназначна не маюць права адмаўляць шатландскаму народу ў магчымасці вызначаць сваю будучыню».

### Сяргей Міронаў



Лідар расійскай сацыял-папулісцкай партыі «Справядлівая Расія», якую ў народзе называюць «эсэры», паведаміў, што паміж партыямі «Справядлівая Расія», «За праўду» і «Патрыёты Расіі» можа быць падпісана пагадненне пра аб'яднанне. У выніку на палітычнай сцэне можа ўзнікнуць фарміраванне з незвычайнай абрэвіятурай — СРПЗП.

«Мы аб'ядноўваемся, разлічваючы на ўзбуйненне на левым флангу ўсіх патрыятычных сіл напярэдадні выбараў у Дзяржду-му», — патлумачыў Міронаў сэнс стварэння картэля. Прэса, у сваю чаргу, лічыць, што матывы аб'яднання (ці, хутчэй, паглынання) — іншыя. На думку журналістаў, аўрал наконт аб'яднання выкліканы тым, што да пачатку думскай кампаніі трэба размеркаваць акругі і месцы ў спісах, каб ужо пачаць працу з электаратам. А СРПЗП відавочна дарučaльні быць галоўнымі спойлерамі для КПРФ, электаральны патэнцыял якой непакоіць Крэмль — асабліва на фоне апошніх падзей. Некаторыя рэгіянальныя партыйныя бароны кампартыі негалосна сімпатызавалі пратэстам Навальнага.

Што тычыцца праекту Міронава, то перспектывы ў яго вельмі сумнеўныя. Невыпадкова лідар ЛДПР Уладзімір Жырыноўскі параўнаў кіраўніка «Справядлівай Расіі» з героем паэмы Мікалая Гогаля «Мёртвыя душы» Чычыкавым, заявіўшы, што Міронаў перад выбарамі збірае «мёртвыя партыі». Між тым, апетыты ў Міронава відавочна растуць. Ён заявіў, што ў будучыні да СРПЗП далучацца камуністы і ліберал-дэмакраты.

### Хасан Рухані



З падачы прэзідэнта Ірана ў краіне рыхтуюць дамову аб абароне і бяспецы, якую, як чакаецца, падпішуць усе яго шыіцкія саюзнікі на Блізкім Усходзе. Новае пагадненне ўжо вырашылі назваць «шыіцкім NATO», паколькі, як і ў Паўночнаатлантычным альянсе, у яго статуце будзе замацаваны прынцып калектыўнага рэагавання на любы напад, перш за ўсё з боку Ізраіля або ЗША.

Цесныя стасункі паміж Іранам і гербарыем шыіцкіх рухаў на Блізкім Усходзе ні для каго не сакрэт, аднак яны не замацаваныя ў асобным пагадненні. Не выключана, што Тэгеран мае намер змяніць гэта, каб паказаць сваім рэгіянальным супернікам ступень падтрымкі, якой ён валодае. Асабліва гэта актуальна на фоне чутак пра падрыхтоўку Ізраілем ваеннага нападу на ядзерныя аб'екты ў Іране. Цяпер для стварэння «шыіцкага NATO» ў парламенце збіраюцца ўсе неабходныя подпісы, каб заканадаўчая ініцыятыва была вынесеная на галасаванне.

У экспертным асяроддзі кажуць, што аформіць у адзіную структуру праіранскія фарміраванні будзе дастаткова цяжка ў сілу іх аўтаномнасці. Напрыклад, палесцінскія групоўкі, якія на працягу доўгага часу карысталіся падтрымкай Тэгерана, адмовіліся выконваць інструкцыі Тэгерана адкрыта падтрымліваць прэзідэнта Башара Асада, бо палічылі, што гэта не адпавядае іх інтарэсам.

# Як бальшавікі выкралі консула

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Сітуацыя абвастрэння дыпламатычных стасункаў паміж Мінскам і Варшавай восенню 2020 года нагадала мне падзеі пачатку Другой сусветнай вайны, калі савецкія ўлады ў абыход шматлікіх міжнародных пагадненняў, што рэгулявалі працу дыпламатаў, пачалі перашкаджаць працы і рэпрэсаваць тых, хто афіцыйна прадстаўляў інтарэсы Другой Рэчы Паспалітай у СССР.**



**17 верасня 1939 года, Ракаў**

Дыпламатычная «геаграфія» У пачатку 1930-х гадоў на тэрыторыі СССР дзейнічала амбасада Польшчы ў Маскве, а таксама консульствы ў Мінску (генеральнае), Кіеве, Ленінградзе, Тыфлісе (генеральнае), Харкаве (генеральнае). 1 жніўня 1934 года, у сувязі з пераносам сталіцы УССР у Кіеў, туды ж з Харкава пераехала і польская дыпустанова. Як адзначае польскі даследчык Войцах Скура, у польскіх консульствах працавалі 33 службоўцы, грамадзяне Другой Рэчы Паспалітай. Дапаможны персанал — прыбіральшчыцы, кухары, кіроўцы, — часцей за ўсё набіраўся з ліку савецкіх грамадзян. На тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай савецкія консульствы дзейнічалі ў Львове, Варшаве (консульскі аддзел пры амбасадзе) і ў вольным горадзе Гданьску. У верасні 1937 года бальшавікі запатрабавалі ўсталяваць парытэт у колькасці консульскіх устаноў у Польшчы і СССР. Польскія ўлады вымушаныя былі ліквідаваць сваё консульства ў Тыфлісе.

З 1 кастрычніка 1937 года генеральным консулам Польшчы ў Кіеве быў Ежы Матусінскі. Ён нарадзіўся ў 1890-м у Варшаве, скончыў паліталагічны факультэт Школы палітычных навук у Варшаве і юрыдычны факультэт Ягелонскага ўніверсітэта. У 1918–1920 гадах працаваў журналістам на Далёкім Усходзе, а пасля вяртання ў Польшчу — у Другім аддзеле Міністэрства вайсковых спраў. Са жніўня 1923 года Матусінскі займаўся пытаннем рэпатрыяцыі палякаў з СССР. З траўня 1926-га выконваў абавязкі намесніка Агульнаконсульскага аддзела МЗС. З 1933-га — працаваў генеральным консулам у Пітсбургу, а пазней — у Нью-Ёрку. З 1935 па 1937 гады Матусінскі ўзначальваў польскае Генеральнае консульства ў Лілі. Пасля гэтага дыпламата накіравалі на працу ў небяспечны Савецкі Саюз.

## Папярэджанне з Мінска, якое не пачулі

Да пачатку Другой сусветнай вайны савецкія ўлады прытрымліваліся закону аб дыпламатычным імунітэце супрацоўнікаў замежных амбасад і консульстваў. Разам з тым,



**Польскі консул Ежы Матусінскі**

савецкія спецыяльныя органы пастаянна назіралі за будынкамі замежных дыпустаноў і іх супрацоўнікамі. Здараліся нават правакацыі. У лютым 1938 года вайсковы аташэ пры амбасадзе Польшчы падпалкоўнік Канстанцін Забароўскі накіраваўся ў паездку ў Мінск. Дыпламат вырашыў ехаць не праз Смаленск, а праз Поўдзень Беларусі. За машынай аташэ накіраваўся эскорт «гаспадароў» (так палякі называлі супрацоўнікаў НКУС, якія сачылі за перасоўваннем замежных дыпламатаў. — І.М.). Цікава, што чэкісты выкарыстоўвалі машыны ГАЗ М1, якія былі абсталяваныя найлепшым рухавіком і маглі набіраць хуткасць да 110 кіламетраў на гадзіну. І ўсё ж дасведчаны падпалкоўнік Забароўскі скінуў хвост. А калі ён ехаў назад у Маскву, у раёне Бабруйска ў машыну дыпламата ўрэзаўся грузавік. Забароўскі не пацярпеў, а савецкія ўлады заявілі, што аварыя адбылася выпадкова. Такія выпадкі былі дастаткова частымі ў 1930-я гады.

Напярэдадні пачатку Другой сусветнай вайны дзейнасць польскіх дыпламатаў у СССР яшчэ больш ускладнілася. Варшава не была ўпэўненая ў пазіцыі Крамля ў выпадку нападу Германіі на Польшчу. У жніўні 1939 года пляцоўку Другога аддзела польскага Галоўштаба ў Консульстве ў Мінску, якое знаходзілася па вуліцы Савецкая, 92, узначальваў маёр Рафал Пратасавіцкі, які ў сталіцы БССР карыстаўся псеўданімам Уладзіслаў Вольскі. «У сувязі з тым, што Саветы выкарыстоўвалі метады, якія больш нідзе не выкарыстоўваліся, у СССР трэба было высылаць добра падрыхтаваных людзей, якія выдатна ведалі тэрыторыю», — адзначаў польскі выведнік.

Вялікую ўвагу Пратасавіцкі надаваў вывучэнню перспектыў збліжэння Берліна і Масквы. Летам 1939 года ён шмат ездзіў па тэрыторыі Савецкай Беларусі, і не мог не заўважыць, што ў памежнай рэспубліцы адбываецца канцэнтрацыя войскаў Чырвонай Арміі. Танкі, артылерыя, кавалерыя і пяхота сцягваліся на мяжу з Другой Рэччу Паспалітай.

Кіраўнік польскай выведвальнай пляцоўкі ў Мінску накіраваў у Варшаву дэпешу, у якой адзначаў, што савецка-германскі пакт аб ненападзе ўтрымлівае і таемны пратакол, які тычыцца тэрытарыяльных зменаў у Еўропе. «У вайне Польшчы і, магчыма, хаўруснікаў супраць Германіі Саветы таксама прымуць удзел. Аднак не ў фармальным вайсковым хаўрусе з Германіяй, а самастойна, уласнаручна і ў абмежаваных мэтах, што звязана з антынямецкімі настроямі грамадства і сусветнага інтэрнацыяналу», — адзначаў Пратасавіцкі.

Аднак інфармацыю маёра ў польскай сталіцы «не заўважылі». Пазней афіцэр выведкі паведаміў у Варшаву, што ў Беларускай асаблівай акрузе адменены манеўры, якія былі прызначаны на восень 1939 года, і спынена перакідка войскаў на Далёкі Усход. На гэта варшаўскія стратэгі таксама не звярнулі ўвагі.

Вольскі-Пратасавіцкі спрабаваў перадаваць паведамленні з дапамогай радыёстанцыі. Тэкст радыёграмы быў наступны: «Таварыш Рыдз-Смiглы, наперад». Гэта азначала, што савецкія войскі сканцэнтраваныя на мяжы з Другой Рэччу Паспалітай і хутка распачнуць баявыя дзеянні. 16 верасня 1939 года маёр праз Бухарэст перадаў сваё апошняе паведамленне, што Чырвоная Армія сканцэнтраваная на мяжы з Польшчай і гатовая для «кідка на Захад». На наступны дзень савецкія ўлады інтэрнавалі супрацоўнікаў Генконсульства Другой Рэчы Паспалітай у Мінску. Паводле адной інфармацыі, у будынак дыпустановы ўварваліся «незадаволеныя» савецкія грамадзяне, якія сарвалі шыльду з польскім арлом ля ўваходу ў будынак. Пазней у калідоры консульства з'явіўся супрацоўнік НКУС. Толькі праз месяц польскія дыпламаты змаглі пакінуць тэрыторыю СССР і праз Скандынавію выехаць у Францыю. Але тады ўратаваліся не ўсе.

## Напярэдадні вайны

Яшчэ ў верасні 1938 года консульскі аддзел МЗС Другой Рэчы Паспалітай распрацаваў сакрэтную інструкцыю для сваіх дыпламатычных устаноў у Чэхаславакіі, Германіі і СССР на выпадак уварвання на тэрыторыю ўстановы варожых асобаў. Перш за ўсё, супрацоўнікі консульства павінны былі знішчыць шыфры. Далей трэба было спаліць усю дакументацыю з грыфам «сакрэтна». У выпадку пачатку ваенных дзеянняў дыпламаты павінны былі знішчыць пячаткі, гербы, пашпартныя кніжкі, сцягі. Супрацоўнікам консульстваў і амбасадаў прызначаліся нейтральныя дзяржавы, куды тыя павінны былі эвакуявацца. Новую інструкцыю па гэтым пытанні супрацоўнікі Консульства Другой Рэчы Паспалітай у Кіеве атрымалі ў сакавіку 1939 года.

У мінскім і кіеўскім консульствах былі радыёстанцыі, якія выкарыстоўвалі для сувязі з пляцоўкамі Другога аддзела польскага Галоўштаба (кіеўскае консульства мела сувязь з пляцоўкай польскай выведкі ў Роўна, а мінскае — з Экспазітурай №1 Другога аддзела Галоўнага штаба Войска Польскага ў Вільні. — І.М.). Польскія ўлады разлічвалі, што ў выпадку крызіснай сітуацыі праз гэтыя радыёстанцыі яны перададуць сваім дыпламатам інфармацыю пра завяршэнне дзейнасці і падрыхтоўку да эвакуацыі. Дзеля гэтага ў польскіх дыпустановах у СССР былі ўведзены кругласутачныя дзяжурствы ля радыёстанцый. У траўні 1939 года польскія консульствы на тэрыторыі СССР атрымалі валютны грашовы рэзерв на тры месяцы.

Перад пачаткам вайны ў Консульстве Польскай Рэспублікі ў Кіеве (размяшчаўся на вуліцы К.Лібкнехта, 1) працавалі шэсць супрацоўнікаў: саветнік Амбасады Польшчы ў СССР, кіраўнік Генконсульства Ежы Матусінскі; супрацоўнікі Людамір Чэрвінскі, Генрых Славікоўскі, Генрых Вісьнеўскі, Юзаф Здановіч (на самай справе, капітан выведкі Ян Крачкевіч), Антоні Пянькоўскі (так называлі супрацоўніка выведкі, ротмістра Уладзімежа Прасіньскага), сакратар консульства Эўгеніюш Зарэмбскі (маёр Мечыслаў Зігфрыд Славікоўскі), Юзаф Здановіч (капітан Ян Крачкевіч), а таксама два кіроўцы і два рамізнікі.

## «Знікненне» консула

З 4 верасня 1939 года Консульства Польшчы ў Кіеве пачало паведамляць Варшаве, што Саветы сцягваюць войскі да мяжы з Другой Рэччу Паспалітай. 10 верасня 1939 года НКУС забараніў супрацоўнікам польскага консульства выязджаць з горада на машыне. 12 верасня Эўгеніюш Зарэмбскі (маёр Мечыслаў Славікоўскі) паехаў цягніком у Маскву. Па дарозе ён убачыў час бачыў вайсковыя эшалоны, што рухаліся на Захад. Пасля сустрэчы з амбасадарам Гжыбоўскім маёр Славікоўскі вырашыў паведаміць пра ўбачанае польскім уладам. 14 верасня 1939 года ён паспрабаваў выслаць з Кіева дэпешу ў Польшчу, аднак аказалася, што савецкая пошта ўжо не прымала адпраўленні ў Другую Рэч Паспалітую. 16 верасня 1939 года ў 0.15 ночы ён разам з Генрыхам Славікоўскім выехаў на цягніку ў Польшчу (у бок Корасценя. — І.М.). «Мы ехалі ўначы і бачылі цягнікі з войскам, што стаялі на станцыях. Яны былі накіраваныя ў бок нашай мяжы. Мы зразумелі, што канцэнтрацыя войска, якое чакала загаду аб пачатку аперацыі, ужо была скончаная», — пісаў ва ўспамінах Славікоўскі.

У Роўна польскія дыпламаты ўжо не сустрэлі польскія ўлады і выехалі на станцыю Здалбунаў, каб вярнуцца ў Кіеў, аднак раніцай 17 верасня 1939 года Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу. Калі 21 верасня 1939 года маёр Мечыслаў Славікоўскі і практыкант Генрых Славікоўскі паспрабавалі вярнуцца ў Кіеў, супрацоўнікі НКУС арыштавалі іх у Шэпэцьўцы.

19 верасня 1939 года савецкія ўлады праінфармавалі польскіх дыпламатаў, што яны больш не карыстаюцца дыпламатычным імунітэтам. 22 верасня 1939 года ў Маскву прыехалі супрацоўнікі польскага консульства з Ленінграда, а праз некалькі дзён — з Мінска.

Раніцай 17 верасня 1939 года людзі ў «валошкавых» фуражках узялі ў ачапленне будынак Генконсульства Польшчы ў Кіеве і забаранілі супрацоўнікам выходзіць з будынка. 30 верасня 1939 года Ежы Матусінскага выклікалі ў прадстаўніцтва Наркамата замежных спраў (НКЗС) у Кіеве і праінфармавалі, што супрацоўнікі консульства павінны рыхтавацца да выезду ў Маскву. Тады ж консул даведаўся пра лёс затрыманых Эўгеніюша Зарэмбскага і Генрыха Славікоўскага. Ноччу з 30 верасня на 1 кастрычніка 1939 года консула Матусінскага зноў выклікалі ў прадстаўніцтва НКЗС у Кіеве, каб удакладніць дэталі выезду персаналу консульства ў Маскву. Матусінскі паехаў на сустрэчу ў суправаджэнні кіроўцаў Анджэя Аршынскага і Юзафа Лычка.

У 6 гадзін раніцы супрацоўнікі консульства адчулі нядобрае і накіравалі рамізніка, каб той праверыў, ці знаходзіцца ля савецкай установы машына консула. Аднак савецкія ўлады забаранілі супрацоўнікам консульства выходзіць з будынку. У 9 гадзін раніцы віцэ-консул «Юзаф Здановіч» патэлефанаваў у НКЗС і атрымаў адказ, што там нічога не ведаюць пра візіт і знаходжанне пана Матусінскага. Праз паўгадзіны патэлефанавалі ўжо ў консульства: савецкі чыноўнік спакойным голасам паведаміў, што польскага консула... не выклікалі ў НКЗС. У 14 гадзін у польскае Генконсульства прыйшлі так званы Эўгеніюш Зарэмбскі і Генрых Славікоўскі. 4 кастрычніка 1939 года супрацоўнікі Генконсульства Польшчы ў Кіеве выехалі ў Маскву.

# Другой Рэчы Паспалітай

### «…арыштаваць па-за памяшканнем былога консульства»

Лёсам польскага консула з Кіева цікавіўся амбасадар Італіі ў СССР Аўгуста Роса, аднак савецкі бок нічога новага не паведаміў. 5 кастрычніка 1939 года амбасадар Германіі Вернэр фон Шуленбург закрануў гэтае пытанне ў размове з савецкім наркамам замежных спраў Вячаславам Молатавым. Апошні ўпэўніў немца, што «Матусінскі не знаходзіцца ў савецкіх руках». 10 кастрычніка 1939 года польскія дыпламаты выехалі з СССР у Фінляндыю.

Што ж адбылося на самай справе з консулам Ежы Матусінскім? У Архіве СБУ захоўваюцца дакументы, датычныя гэтай справы. Загад супрацоўнікам НКУС пра арышт польскага дыпламата аддаў асабіста кіраўнік савецкай Украіны Мікіта Хрушчоў.

Пра тое, што загад аб правядзенні аперацыі даваў сам Хрушчоў, сведчыць сакрэтная шыфр-тэлеграма № 3149, накіраваная на імя кіраўніка НКУС Лаўрэнція Берыі, у якой, у прыватнасці, пазначалася: «[Па] распараджэнні ЦК КП(б)У тав. Хрушчова мной сёння [у] 1 гадзіну 30 хвілін ночы арыштаваны польскі консул Матусінскі і шафёры Лычак і Аршынскі, якія знаходзіліся пры ім. Прашу ўказанняў [у] адносінах астатняга складу консульства. Гарлінскі». З гэтага дакумента можна зрабіць выснову, што нкусаўцы былі гатовыя арыштаваць усіх польскіх дыпламатаў у сталіцы савецкай Украіны, аднак такога распараджэння Крэмль не даў, відавочна, баючыся міжнароднага скандалу.

«30 верасня, у 24 гадзіны мяне выклікаў да сябе ў ЦК тав. Бурмістрэнка і аб'явіў, што з Масквы тав. Хрушчоў перадаў распараджэнне ЦК ВКП(б) арыштаваць па-за памяшканнем былога консульства былога консула Польшчы Матусінскага. Я гэта пытанне ўзгадніў з таварышам Мамулавым, пасля чаго ў 2 гадзіны 1 кастрычніка арыштаваў на вуліцы ў машыне былога польскага консула і двух яго кіроўцаў, папярэдне арганізаваўшы выклік Матусінскага па тэлефоне з консульства. Арыштаваныя змешчаны пад варту. У памяшканні былога консульства знаходзіцца 17 чалавек былых служачых консульства і членаў іх сем'яў. Прашу вашых указанняў. Гарлінскі», — адзначалася ў сакрэтным нкусаўскім дакуменце, накіраваным Лаўрэнцію Берыі.

Удзельнікі спецаперацыі па арышце польскага дыпламата далі распіскі: «Даю гэтую падпіску начальніку 3-га Спецаддзела НКУС УССР капітану Дзяржбяспекі тав. Заўгароднему ў тым, што я абавязуюся аб правядзенні аперацыі ў ноч з 30.09.1939 на 1.10.1939 нікому і ні пры якіх абставінах не распавядаць. У адваротным выпадку нясу адказнасць па ўсёй строгасці закона».

### У руках НКУС

Пасля арышту Матусінскага пачалі дапытваць. Вось вытрымка з аднаго з пратаколаў:



Парад, Заходняя Украіна

«Пытанне: На допыце 13 кастрычніка 1939 года вы паказалі, што перад сваім ад'ездам з Варшавы ў СССР вы мелі гутарку спецыяльнага парадку з афіцэрамі выведкі. […] Выкладзіце падрабязна, якія пытанні пры гэтым абмяркоўваліся?

Адказ: З супрацоўнікамі 2 аддзела Польгенштаба я сапраўды меў і наступныя сустрэчы. […] Незбжыцкі (кіраўнік аддзела «Усход» польскай выведкі. — І.М.) папрасіў мяне распавесці пра абстаноўку і ўмовы маёй працы ў Кіеве. На працягу гутаркі ён задаў мне некалькі пытанняў. У прыватнасці, яго цікавіла, якой будзе магчымая пазіцыя Савецкага Саюза ў выпадку ваеннага сутыкнення Польшчы з Германіяй. Ці можна разлічваць, што СССР пойдзе на вайну з Германіяй? […] Падчас гутаркі, якой кіраваў Незбжыцкі, абмяркоўвалася тры пытанні.

1. Судэцкія падзеі і магчымасць выступлення СССР для аказання ўзброенай падтрымкі Чэхаславакіі; 2. Мерапрыемствы савецкай контрвыведкі ў адносінах польскага консульства ў Кіеве; 3. Пра плануемыя ў адказ рэпрэсіі ў адносінах да савецкага паўпрадства ў Варшаве і савецкага консульства ў Львове. […] Казалі, што асноўнай выведвальнай задачай з'яўляецца высвятленне таго, ці адбываецца канцэнтрацыя Чырвонай Арміі на савецка-польскай мяжы. […] На гэта даручэнне я заўсёды арыентаваў аднаго з прыкамандзіраваных да мяне кіроўцаў 2-га аддзела, які выязджаў па чыгуначнай дарозе для асабістых назіранняў за вайсковымі эшалонамі».

А вось вытрымка з пратакола допыту консула Ежы Матусінскага ад 9–10 снежня 1939 года:

«Пытанне: Распачынайце паказанні пра польскую выведвальную агентуру ў СССР.

Адказ: Мне вядомыя наступныя агенты польскай выведкі, якія займаліся шпіянажам на тэрыторыі СССР. Пятроўскі — былы ўпаўнаважаны НКУС у Кіеве. […] Юшкевіч — былы ўпаўнаважаны НКУС у Кіеве. […] Данец — артыст у Кіеве (спявак); Петрусенка — артыстка (спявачка); Зарэмбоўская — пражывае ў Кіеве. Гадоў каля 80-ці. […] Гербіх Ванда — жыве ў Кіеве, здаецца, асістэнтка ўрача. Франко Пётр — сын вядомага ўкраінскага пісьменніка Франко Івана. […] Тэнэнвурцэль — жанчына сталага веку, яўрэйка, пражывае ў Харкаве. […] Карповіч, 13 гадоў, беларус. У ліпені 1939 года Карповіч з'явіўся ў консульства, сказаў, што ён збег з дзіцячага дома ў сувязі з тым, што яго абвінавацілі ў крадзяжы бялізны. Карповіч патлумачыў, што ў консульства прыйшоў таму, што некалі ўжо быў тут з маці, якая ўзбуджала хадайніцтва аб выездзе ў Польшчу, дзе ў іх у Заходняй Беларусі маецца нейкія сваякі. На пытанне Карповічу, ці ён жадае ехаць у Польшчу, ён адказаў адмоўна. Калі я запытаў, чаго ён жадае, ён адказаў: "Дайце трошкі грошай"».

Пазней арыштаванага польскага консула Ежы Матусінскага накіравалі ў Маскву.

Да сёння няма адназначнага адказу, чаму савецкія ўлады пайшлі на арышт польскага консула. Па прызнанні аднаго з арыштаваных кіроўцаў, які ацалеў у сталінскіх лагерах і потым уратаваўся з Арміяй Андэрса, Саветы арыштавалі Матусінскага, бо лічылі яго кіраўніком рэзідэнтуры. Пры гэтым чэкісты не ўзялі пад арышт тых асобаў са складу польскага консульства ў Кіеве, хто фактычна шпіёніў супраць СССР. Да таго ж ёсць пытанне, чаму НКУС не арыштавала польскага консула ў Мінску і супрацоўнікаў польскай амбасады ў Маскве? Можна дапусціць, што «спецаперацыя» была ідэяй Хрушчова, які банальна жадаў выслужыцца перад Сталіным.

### Праўда пра трагедыю

Знікненнем польскага дыпламата ў СССР працягвалі займацца польскія ўлады ў выгнанні. Пасля заключэння польска-савецкай дамовы аб супрацоўніцтве 12 ліпеня 1941 года польскія чыноўнікі на тэрыторыі Савецкага Саюза шукалі адказы, што здарылася з Ежы Матусінскім. Пасля амністыі ў жніўні 1941 года з савецкіх лагераў, турмаў і спецпасяленняў пачалі вызваляць грамадзян Другой Рэчы Паспалітай. У польскае прадстаўніцтва ў Маскве звярнуўся капітан Кіпаньскі, які распавёў, што на Лубянцы сустракаў аднаго з кіроўцаў польскага консула ў Кіеве, які расказаў, што Матусінскі быў арыштаваны НКУС.

23 верасня 1941 года амбасада Польшчы запатрабавала ад НКЗС пачаць пошук Матусінскага і яго кіроўцаў. Аднак бальшавікі маўчалі. У гэтай сітуацыі зноў дапамаглі паказанні польскіх вязняў, што выходзілі на волю па амністыі. Ротмістр Тадэвуш Тхужэўскі згадаў, як у ліпені 1941 года падчас эвакуацыі адной з маскоўскіх турмаў у Саратаў ён сустрэў кіроўцу Анджэя Аршынскага, які распавёў пра арышт Матусінскага.


Чырвонаармейцы размаўляюць з мясцовым насельніцтвам, Заходняя Беларусь, верасень 1939 года

Урэшце да польскіх уладаў на Бліжнім Усходзе звярнуўся той самы кіроўца консульства Польшчы ў Кіеве Анджэй Аршынскі. Ён паведаміў, што ў 2.20 ночы 1 кастрычніка 1939 года машына консульства выехала ў Наркамат. Побач з будынкам савецкай установы стаяў легкавы аўтамабіль. Калі машына з польскімі дыпламатамі яго праехала, з аўто выйшлі шэсць мужчын у цывільнай вопратцы. Трое з іх выхапілі зброю і скіравалі яе на консула Матусінскага. Пачуўся крык: «Рукі ўверх». Консула запыталі, ці ён узброены, а калі пачулі, што ён дыпламат, адказалі: «Мы ведаем». Усіх траіх затрыманых абшукалі і ў машыне НКУС перавезлі ў турму на вул. Караленкі. Польскіх грамадзян размясцілі ў асобных камерах. На працягу васьмі дзён Аршынскага ні разу не дапытвалі. У пэўны дзень кіроўцу вывелі з камеры і вывезлі на вакзал, дзе ён убачыў консула Матусінскага. Арыштаваных правялі ноч у турэмным вагоне. Анджэй Аршынскі чуў голас консула, які прасіў канвойнага даць яму газету, а таксама голас іншага кіроўцы Юзафа Лычка, які скардзіўся, што яму холадна. 10 кастрычніка цягнік быў у Маскве. Польскіх вязняў перавезлі на Лубянку. Там кіроўцу пачалі дапытваць, абвінавачваючы ў шпіянажы супраць СССР. Асабліва шмат пытанняў было пра супрацоўнікаў консульства Польшчы ў Кіеве і іх «шпіёнскую» дзейнасць. Кіроўцу закідалі, што ён вазіў Матусінскага на сустрэчу з савецкімі грамадзянамі, на якіх польскі дыпламат аддаваў чалавеку нейкія рэчы. Асабліва нкусаўцаў цікавіў так званы Эўгеніюш Зарэмбскі, які сапраўды быў супрацоўнікам польскай выведкі. Пра яго Аршынскага пыталі больш, чым нават пра Матусінскага.

У 1941–1943 гадах польскія ўлады некалькі разоў спрабавалі высветліць лёс Ежы Матусінскага і шафёра Юзафа Лычка, аднак безвынікова. Пазней удалося высветліць, што другі кіроўца консульства Польшчы ў Кіеве таксама быў вызвалены падчас амністыі 1941 года, аднак неўзабаве загінуў на тэрыторыі СССР пры нявысветленых абставінах. Пасля раскрыцця праўды пра Катынскае злачынства ў 1943 годзе стала зразумелым, што Матусінскі, хутчэй за ўсё, стаў ахвярай сталінскіх катаў, і яго парэштки былі пахаваныя ў адной з безыменных расстрэльных брацкіх магіл.

Застаецца адзначыць, што 15 сакавіка 1940 года быў вырашаны лёс будынку былога Генконсульства Польшчы ў сталіцы савецкай Беларусі па адрасе вул. Савецкая, 92. Яго па рашэнні Пасяджэння Бюро ЦК КП(б)Б № 137 перадалі НКУС БССР. А вось будынак на вул. Спірыдонаўскай, 30, дзе да 9 кастрычніка 1939 года знаходзілася амбасада Польшчы ў Маскве, пазней аблюбавалі прадстаўнікі Германскага вайсковага аташата і гандлёвай місіі. Паперы гэтых устаноў знайшлі на сталах і ў шафах польскія чыноўнікі, якія вярнуліся ў будынак пасля заключэння польска-савецкай дамовы 30 ліпеня 1941 года.

## ВЫРАТУЙ ЖЫЦЦЁ



## Гэты прыгажун пакуль не мае свайго імя і дому

Жыццё гэтага шыкоўнага ката пачыналася зусім звычайна, як і тысяч іншых. Ён нарадзіўся ў закінутых гаражах у адным са старых раёнаў Мінска.

Котка гадавала кацянят як магла, мясцовыя жыхары падкормлівалі, але ніхто не быў гатовы адразу забраць іх дадому. Раптам за сям'ёй прыехалі з Гурскага — відаць, не ўсім падабаліся такія суседзі.

Але, нібыта ў прадчуванні бяды, літаральна за суткі да нечаканага візіту котка перанесла дзяцей у сутарэнні аднаго з суседніх дамоў. Малыя раслі. Адзін трапіў пад машыну — яго пахаваў мясцовы жыхар, іншыя кацяняты кудысьці сышлі. Знікла і котка. А гэты прыгажун застаўся адзін…

Неабыякавы жыхар яго падкормліваў падчас шпацыраў са сваім сабакам. Калі малое чула, што ідзе менавіта гэты сабака, то ўжо само выбягала паесці.

Сэрца чалавека не вытрымала — і ў дадатак да сваіх двух катоў ды сабакі ён забраў яго на перытрымку.

Кот пакуль не мае імя. Яму каля 7 месяцаў, стэрылізаваны, паводле агляду ветэрынарам — цалкам здаровы прыгажун.

У ежы неперабарлівы, латок ды драпалка з першага дня — выдатна. Добра ладзіць з сабакам ды іншымі катамі.

**+375 (29) 754-00-85 Вадзім.**

## Болту будзе цудоўным кампаньёнам для шпацыраў!

Яго знайшлі ўначы з 6 на 7 жніўня. Шчанюк ішоў з апошніх сілаў. Куды — ніхто не ведае. Рэдкія машыны пралячалі па трасе міма, але адна, у якой ехала валанцёрка, спынілася.

Ён важыў 650 грамаў, калі яго прывезлі ў клініку. Дактары змагаліся за яго жыццё. Некалькі разоў яму пералівалі кроў. Ён перамог усё — і цяпер шукае свайго чалавека.

Болту, можна проста Болцік. Шчыры, барадаты, ласкавы. Ён пойдзе за вамі на край свету. Ён будзе заўсёды побач. Яму вельмі патрэбны Чалавек, да якога ён будзе бегчы па першым жа воклічы.

Болту каля 6 месяцаў, есць сухі корм, але заўсёды будзе рады любым прысмакам. Прывучаны да выгулу (2–3 разы). Да катоў ставіцца насцярожана і недалюблівае іх.

Болцік будзе вашым шыкоўным кампаньёнам на штодзённых шпацырах пасля маршаў!

Ён вас чакае!

**+375 29 321-33-42 Святлана**



# «Хочацца зрабіць нешта для будучых пакаленняў»

**Пакупніца адной з самых старажытных сінагог Беларусі, дзіцячая пісьменніца і педагог з Мінска, якая выступае пад псеўданімам Іянна Рыўз, расказала ў інтэрв'ю «Свабодзе» пра стан помніка і свае планы аднаўлення будынка.**




Сапраўднае імя пакупніцы сінагогі — Ілона Караваева, але яна просіць называць яе Іяннай. Рыўз піша англамоўныя казкі, з'яўляецца сябрам Еўразійскай крэатыўнай супольнасці, выкладае дзецям музыку і вакал. Да пандэміі, як сама расказвае, актыўна займалася з імі як педагог і крэатыўны аўтар. Праводзіла сустрэчы ў школах, бібліятэках і дзіцячых дамах. Але каронавірус прымусіў прыпыніць гэтую дзейнасць.

Слонімская сінагога — адна з найстарэйшых у Беларусі. Яе пабудавалі ў 1642 годзе ў стылі барока. Яна ўваходзіць у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі. У 1881 годзе будынак моцна пацярпеў падчас вялікага пажару, але быў адбудаваны на ахвяраванні гараджан. Дзейнічала да 1940 года, а пасля Другой сусветнай вайны камуністы зрабілі ў сінагозе склад і гандлёвыя памяшканні. Цэнтр габрэйскага мастацтва пры Габрэйскім універсітэце ў Ерусаліме ўключыў слонімскую сінагогу ў лік сямі найбольш важных гістарычных сінагог Еўропы, якім пагражае небяспека.

Помнік архітэктуры XVII стагоддзя прадалі на аўкцыёне з трэцяй спробы. За набыццё будынка Іянна заплаціла 30 тысяч рублёў. Рашэнне купіць сінагогу яна называе спантанным і выпадковым. Пабачыла прапанову на аўкцыёне — і «нават не думала разглядаць варыянты з іншымі будынкамі».

«Я ў нейкім сэнсе паломніца, якая з 12 гадоў пастаянна наведвае рэлігійныя культавыя святыні па ўсім свеце. І вынікам гэтага стала набыццё сінагогі. Я гэтага не планавала, усё адбылося абсалютна выпадкова, калі ўбачыла гэты помнік архітэктуры на аўкцыёне. Пэўным штуршком стала і тое, што пасля Другой сусветнай вайны мая сям'я жыла ў Слоніме. Я служу мастацтву, і мне хацелася б унесці свой уклад у захаванне гэтага помніка, зрабіць вялікую справу для сучаснасці. Хочацца зрабіць нешта для будучых пакаленняў і для культуры», — кажа Іянна.

Сур'ёзныя намеры адбудаваць сінагогу ў Слоніме меў Фонд габрэйскай спадчыны. Яшчэ два гады таму ён аплаціў рамонт даху, каб узімку ў сінагогу не намятала снегу. Ініцыятарам



рэканструкцыі з'яўляецца брытанскі інжынер Сайман Каплінскі, бацька якога нарадзіўся ў Слоніме. Фонд габрэйскай спадчыны збіраўся купіць сінагогу, але не паспеў аформіць неабходную дакументацыю.

Работы для рэканструкцыі, паводле розных падлікаў, каштуюць сама меней мільёны долараў. Каб сабраць сродкі на аднаўленне сінагогі, Іянна мае намер заснаваць уласны фонд.

«Маю намер звярнуцца ў мясцовыя органы, каб удакладніць нюансы. Збіраюся максімальна супрацоўнічаць з фондамі іншых краінаў, якія могуць дапамагчы. Вядома, у тым ліку і з габрэйскімі, паколькі гэта помнік габрэйскай культуры. Я спадзяюся на іх падтрымку. Збіраюся адпраўляць афіцыйныя лісты сваім сябрам, калегам, якія могуць застацца неабыякавымі і змогуць дапамагчы».

За апошнія 30 гадоў было некалькі спробаў аднавіць слонімскую сінагогу. У 1999 годзе дзякуючы Фонду сусветных помнікаў на сінагозе замянілі дах. Аднак ад таго, што будынак не мае гаспадара, ён паступова прыходзіць у заняпад. За савецкім часам, калі сінагога была складам мэблевай крамы, а ў прыбудовах месціўся малочны бар, яна была ў лепшым стане, чым цяпер.

Паводле правілаў аўкцыёну, прададзены будынак павінен быць рэканструяваны менавіта ў тым выглядзе, у якім ён быў збудаваны, — як сінагога.

«Там ёсць некаторыя прыбудовы, я іх разглядала як кавярню для турыстаў, з булачкамі або нейкім асаблівым хлебам. З другога боку — краму з сувенірамі, прывезенымі з Ізраіля, або паштоўкамі горада. Сінагога месціца ў вельмі добрым месцы, там побач знаходзіцца цудоўны Свята-Праабражэнскі сабор, касцёл бернардзінак. Таму я думала, што было б някепска зрабіць нейкую прылеглую тэрыторыю, каб летам там можна было праводзіць невялікія класічныя канцэрты, на ўзор тых, што адбываюцца ў Мінску каля ратушы. Гэта было б цікава не толькі турыстам, якія не так часта прыязджаюць, але і жыхарам горада».

На стварэнне праектнай дакументацыі і зацвярджэнне праекту ў Іянны ёсць 2 гады. На рэканструкцыю будынку — яшчэ 5. Але акурат надоечы пакупніца даведалася, што будынак сінагогі знаходзіцца ў аварыйным стане і што там небяспечна праводзіць нават простыя даследчыя работы.

«Я размаўляла з архітэктарамі, якія аднаўлялі Нясвіжскі замак. Яны расказалі, што ўзнікаюць некаторыя складанасці для таго, каб даследаваць яго з любога пункту гледжання: ці то з гістарычнага, ці тэхнічнага. Туды небяспечна заходзіць. Калі праводзіць нейкія даследчыя работы, то патрэбна рабіць іх у спецыяльнай вопратцы. Таму ўзнікаюць новыя пытанні. У найбліжэйшы час я буду старацца зразумець, як іх вырашыць максімальна хутка і карысна».

Іянна плануе таксама звярнуцца па дапамогу і ў фонд UNESCO. Пакуль сур'ёзных прапановаў супрацы ёй не паступала. Былі размовы з выхадцамі са Слоніма ў Ізраілі, прадстаўнікамі габрэйскага фонду культуры ў Гродна. На гэтым тыдні плануецца віртуальная сустрэча з брытанскім фондам.

«Пакуль усім займаюся сама. Часу ў мяне шмат, паколькі ІП я закрыла праз пандэмію. Пра аварыйны стан я даведалася толькі ўчора. На момант куплі гэта выглядала трошкі інакш. Стараюся быць аптымісткай. Сінагога стаіць дзясяткі гадоў, і калі яна трапіла да мяне, то, відаць, такі лёс, каб вырашыць яе будучыню. Немагчыма ж стаяць так увесь час».

**Фота Радыё Свабода**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №151

Падпісана да друку 28.01.2021. 8.00. Наклад 3500 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.